# Воўк сабакі не баіцца, але зьвягі ня любіць

Учора я іх бачыў каля менскай філярмоніі. Блізу дзесяцёх чалавек у чорным, з шэўронамі на рукавах. Ніякай міліцыі побач. Ніхто нікога не разганяе. З дэкрэтам №5 усё нармальна.

... Стаялі, дэманстравалі сваю друкаваную прадукцыю: "Русский порядок". Расейскія фашысты, члены "Русского национального единства" на нашай беларускай зямлі.

Гэтую "карцінку" я пабачыў гадзіне а сёмай вечара, едучы ў тралейбусе №2 з новай хлебніцай падпахі.

Сымбалічна, але якраз учора ў Рэдакцыю "НН" прыходзіў пракурор. Не, не з падзякаю за публікацыі антыфашысцкага, патрыятычнага ці гістарычнага зьместу, не за тое, што людзі робяць адзіную цалкам беларускамоўную газэту на недзяржаўныя сродкі, але ў дзяржаўных жа інтарэсах. Наадварот. Пракурор прыходзіў "указать" нам, што мы, бачыце, дужа расслабіліся, выявіўшы сьмеласьць адлюстроўваць на старонках нашага выданьня ўласна беларускі погляд на гісторыю і сучаснасьць. Беларускі, паўтараю, погляд, а ня той, які навязвалі нам пілсудчыкі, бальшавікі, немцы, потым ізноў камісарыкі-гэбісты, а цяпер спрабуюць навязаць сучасныя акупанты ды іхныя марыянэткі.

Сымбалічна і тое, што акурат гэтымі днямі паліцыя Бэрліна арыштавала каля трохсот сваіх суайчыньнікаў, якія спрабавалі адзначыць дзясятую галавіну зь дня сьмерці ў бэрлінскай турме Шпандаў Рудольфа Геса, намесьніка Гітлера па NSDAP. Але гэта ў Нямеччыне, народ якой належным чынам засвоіў урокі гісторыі і не жадае наступаць на граблі другі раз. У нас жа выпадак клінічны: трывіяльная марыянэтка ўявіла сябе гаспадарыняй усяе Беларусі, "енералам", так бы мовіць, і спадзяецца з дапамогай дэкрэтаў выбрукаваць шлях да грамадзянскага канфлікту. Думаю, спадзяваньні марныя. Можна згуляць на падмене тэрмінаў, але нельга ігнараваць сутнасьць сёньняшняй сытуацыі, якая вызначаецца наступным лексычным радам: беларусы — (і) акупанты; легітымная ўлада (беларуская паводле зьместу) — нелегітымная (марыянэткі ў форме "палатаў", "вэртыкалі"); армія (на ўзроўні салдатаў і малодшых афіцэраў верная народу) — КГБ, МУС, іншыя сілавыя спэцпадразьдзяленьні (рэальна дзейны інструмэнт акупацыйнага рэжыму); законы і Канстытуцыя-94 — дэкрэты і ўказы акупантаў...

Пра чалавека, дастаткова ўпэўненага ў сабе, які, аднак, не сьпяшаецца лезьці ў бойку, ня вытрымаўшы паўзу, у народзе кажуць, што "воўк сабакі не баіцца..." Так і мы з вамі, беларусы, — нацыяналісты і ня вельмі, "шчукінцы", "шушкевічаўцы" і іншыя шматпартыйцы, але адной маці-Беларусі дзеці, — мы да апошняга засьцерагаем нашую зямлю ад зьвягі. А калі да нас ізноў заявіцца пракурор, але ўжо пад аховаю тых, з-пад філярмоніі чорнарубашачнікаў — гэта будзе нам апошні Знак.

Барані мяне, Божа, ад злога, але ня ўводзь у спакушэньне здрадай Радзіме! Як і маці маёй, і бацьку, і каханай жанчыне, і брату майму, і сябру, і ўсім, якія са мною.

**Славамір Адамовіч**

# Супраць маргіналіі

Апошнія сто гадоў у беларускім бачаньні нацыянальнае пэрспэктывы дамінаваў плятонаўскі пачатак. "Філёзаф ідэяў" — Плятон, стварыў канцэпцыю ідэальнае дзяржавы, у якой кіруюць "філёзафы", дзе ахоўваюць грамадзкі лад "вайскоўцы", а асноўнае насельніцтва складаюць "рамесьнікі". "Справядлівасьць", паводле Плятона, ня мае нічога агульнага з "роўнасьцю", яна — "гармонія".

Беларуская думка практычна цалкам скіроўвалася на пабудову гарманічнае дзяржавы. Гэтай мэце служылі й пошукі сацыяльнага міру ў Дуніна-Марцінкевіча (чаго вартая адна назва "Ідылія"!) ды Францішка Багушэвіча, якога часта падазраюць у "пра-сялянскасьці". А беларускія дзеячы пачатку XX ст. былі проста захопленыя пошукам дзяржаўніцкіх канцэпцыяў — ад аўтанамізму ў складзе Расеі ды адраджэньня ВКЛ — да незалежнасьці Беларусі. І вось менавіта дзяржава, паводле ўсіх гэтых раскладак, мусіла была праводзіць унутраную культурную экспансію, трансфармуючы этнічнае ў нацыянальнае.

Падобная схема была зусім лягічнай для Беларусі пачатку стагодзьдзя, таму што ўпісвалася ў агульны геакультурны сцэнар разьвіцьця падзеяў сярэднеэўрапейскага рэгіёну — нацыянальная й сацыяльная эмансыпацыя, нацыянал-рамантызм, мадэрны праект "уласнае" дзяржавы. Тое, што паступова акрэсьлілася ў канцэпцыю Адраджэньня.

Урэшце беларускія практыкі сталі згодныя на дапамогу нават чужой дзяржавы — з захапленьнем успрынялі палітыку "карэнізацыі" й "беларусізацыі" камуністаў, уважліва прыслухоўваліся да словаў сымпатыі Вільгельма Кубэ, спадзяюцца скарыстацца з магчымасьцяў, якія ствараюцца ўжо пры нэакаляніяльным рэжыме, што нясе на сабе прыкметы ня толькі нацыянальна-культурнай аўтаноміі часоў БССР, але й аўтаноміі палітычнай.

Але найбольшым шокам для ўсяе канцэпцыі Адраджэньня сталася тое, што народжаная дзяржава аказалася такім звыродлівым стварэньнем. Гэта ўжо раздрабленьне самой ідэі дзяржавы ў галовах адраджэнцаў. І вось недзе тут, у разгубленасьці й незадаволенасьці хаваецца прадчуваньне таго, што беларускае грамадзтва нясе ў сабе задаткі будучых пэрспэктыўных соцыякультурных мадэляў.

З гісторыі мы можам узяць няшмат урокаў. Варта, прынамсі, зьвярнуць увагу на адну ўласьцівасьць — грамадзтва Беларусі заўжды было полімоўным, полікультурным, поліканфэсійным. За гэтым стаіць досьвед геапалітычнага, геакультурнага разьмяшчэньня, досьвед культурных уплываў. А ў XX ст. беларусы не пасьпелі скончыць фармаваньне дзяржавы паводле этнічных установак. І гэтая полімоўнасьць надалей ужо застанецца непазьбежнаю ўласьцівасьцю нашай краіны. Але тое, што выглядае на "паразу" для Адраджэньня, можа стаць вартасьцю ва ўмовах постмадэрну — калі губляюцца й распадаюцца стрыжні, дактрыны й канцэпцыі. (У дужках мушу заўважыць, што, разважаючы пра глябальныя тэндэнцыі, я ня маю на ўвазе монакультурнасьць ды аднамоўнасьць сёньняшняга палітычнага рэжыму ў Беларусі, які якраз праз свой мэханіцызм, ізаляцыянізм і дзяржаўніцкія ілюзіі спрабуе вырвацца з гэтых тэндэнцыяў ды супярэчыць ім.)

Праз сваю "слабасьць" беларускае грамадзтва стварае свой новы патэнцыял. Ужо цяпер беларуская полікультурная сацыяльная мадэль дае нейкі шанец на захаваньне культурнай ідэнтычнасьці палешукам, пра што ня можа весьціся ў Польшчы, а тым больш ва Ўкраіне. Новыя магчымасьці адкрывае й тое, што беларусам, ня толькі палітычным, можа ўсьвядоміць сябе чалавек не абавязкова беларускамоўны.

Тут заканамерным будзе пытаньне пра статус і функцыю беларускае мовы ды беларушчыны. Гэтая функцыя — інтэгральная, бо беларуская мова фармуе ўсю культурную сытуацыю і ў выніку стварае перадумовы разнастайнасьці Беларусі. Таму беларускамоўных людзей у сучасным горадзе нельга назваць меншыняю. Беларушчына не маргіналія, а фарматворчая й кантэкстуальная зьява. У даўняй дыскусіі Плятона з Арыстоцелем канцэпцыя ідэальнай дзяржавы паступова губляе актуалію, а тэза Арыстоцеля пра тое, што чалавек у сваёй сутнасьці ёсьць часткаю ўпарадкаванага грамадзтва, скідваючы марксысцкія ланцугі, нечакана робіцца прыкметаю постмадэрнісцкай эпохі.

Можна меркаваць, што пасьля падзеньня дыктатуры беларускае грамадзтва, падрыхтаванае цывілізацыйнаю адкрытасьцю беларушчыны ды сваёю спрадвечнай разнастайнасьцю, акажацца адным з самых адаптаваных да дынамікі й патрабаваньняў XXI стагодзьдзя.

Але сёньня непакоіць адно пытаньне, якое можна назваць галоўнаю этычнаю праблемаю Беларусі — гэта пэрспэктывы беларускае мовы.

**Алег Дзярновіч**

# Віленскія сустрэчы



*Працяг на старонкі 1.*

Узурпацыя Лукашэнкам улады ў Беларусі, яго антызаходняя рыторыка і закіды супраць NATO, мэтанакіраванае зьнішчэньне беларускае дзяржаўнасьці і нацыянальнае культуры, пошук хаўрусьнікаў сярод самых радыкальных савецкіх артадоксаў у Маскве, не на жарт пужаюць суседзяў, разбураюць спадзевы на стварэньне Цэнтральна-Эўрапейскай лучнасьці.

З другога боку, на працягу апошняга году праясьнілася пэрспэктыва пашырэньня NATO за кошт некаторых краінаў рэгіёну, што, у сваю чаргу, дэсынхранізуе працэсы агульнаэўрапейскае інтэграцыі і ўскладняе, на сёньня, сытуацыю... Пакуль суседзі не разышліся па чужых палітычна-вайсковых блёках, на разьвітаньне можна яшчэ пасядзець за сталом. Гэткім чынам склад удзельнікаў быў пашыраны за кошт прэзыдэнтаў Фінляндыі, Эстоніі, Румыніі, Баўгарыі, Славакіі ды інш. За прывітальнай прамоваю прэзыдэнта Літвы перад удзельнікамі форуму з дакладам выступіць Лукашэнка. За ім — прэзыдэнт Эстоніі Ленарт Мэры.

Паводле афіцыйнага тлумачэньня — лідэры краінаў мусяць выступаць па чарзе, адпаведна абэцэдзе. Але пазыцыя Лукашэнкі наперад вядомая і Бразаўскасу, і іншым прэзыдэнтам. Прэзыдэнт Літвы спадзяецца, што лідэры дзяржаваў адкрыта выкажуць свае меркаваньні Лукашэнку адносна ягонае дыктатуры і зьнешнепалітычнага валюнтарызму. Праўда, Бразаўскас тактоўна заўважыў, што "жорсткія меры" не прыдатныя для вырашэньня далікатных пытаньняў. Чаму Лукашэнку даецца слова для фактычна першага дакладу? З мэтаю крытыкаваць яго на працягу ўсёй сустрэчы? Выслухаць скрайні погляд антызаходніх сілаў, якія ўвасабляе сабою менскі рэжым? Ці... літоўскім "вярхам" вядома нешта большае? А можа папросту дзеля ўмацаваньня памкненьняў схавацца пад мілітарнае крыло NATO ўсіх нашых суседзяў па рэгіёне?

Хутчэй за ўсё сустрэча, дзе будуць прадстаўнікі краінаў, якія разам налічваюць звыш 300 млн. насельніцтва, ня будзе мець нейкіх урэчаўлёных практычных вынікаў. Апроч маральнае сатысфакцыі за тое, што з Лукашэнкам усё ж імкнуліся гаварыць па-добрасуседзку, за тое, што Вільня становіцца цэнтральнаэўрапейскім Брусэлем і ціхае летуценнае радасьці, што неўзабаве ў Літве раскватаруюцца заходнія вайскоўцы, Літоўская рэспубліка нічога не атрымае. А Лукашэнка... наўрад ці зробіць якія канструктыўныя высновы з довадаў аж дванаццаці лідэраў дзяржаваў. Хутчэй наадварот, застанецца пры сваім невынішчальным перакананьні ва ўласнай рацыі, ды ў дадатак атрымае салідныя дывідэнды для дэмагогіі на расейска-беларускай палітычнай арэне. Чарговы раз мы зможам пераканацца, што голас маралі мала што значыць у такой сфэры, як геапалітыка і эгаістычны прагматызм нашых суседзяў.

Наступствы гульні з Лукашэнкам сёньня ня ў стане прааналізаваць ні Бразаўскас, ні іншыя эўрапейцы, таму шоў зь ягонай прэзэнтацыяй можа мець для Літвы толькі адзін пазытыўны вынік — спачуваньне з боку Эўропы і спрыяньне ва ўмацаваньні межаў Беларусі з суседзямі.

**Сяргей Харэўскі**

# BELINFO — для тых,

Ці ведаеце вы, "почему Республика Беларусь благоприятна для инвестиций"? Не ламайце галаву — такой робяць яе "политическая стабильность, общественное согласие, миролюбие и трудолюбие белорусского народа", а таксама "новые возможности в ряде секторов: коммуникациях, энергетике, сельском хозяйстве и услугах". А самае галоўнае — "экономическая политика и меры Правительства Республики Беларусь, направленные на стабилизацию экономики, либерализацию цен и торговли, приватизацию и улучшение законодательства". Гэтыя захапляльныя зьвесткі я здабыў з кампакт-дыска пад тытулам "BelInfo Belarus".

Яшчэ там можна даведацца, што "законодательным органом власти Республики Беларусь является Парламент, состоящий из двух Палат — Палаты представителей и Совета Республики", а прэзыдэнт "является главой государства, гарантом Конституции, прав и свобод человека и гражданина". Аўтары гэтага мясцовай вытворчасьці прадукту назвалі яго "система комплексной поддержки бизнеса", дэкляруючы рашэньне праблемы "достоверной информацией о реальных условиях бизнеса, существующих в СНГ" і з абяцаньнем "за пару секунд предоставить вам горячие данные с максимумом подробностей о любой из стран СНГ". Наконт "любых краінаў" ня ведаю, а інфармацыя аб радзімай Беларусі мяне вельмі зацікавіла.

Апроч ужо цытаванага эксклюзіву я знайшоў яшчэ нямала карыснага. Напрык-

# БЕЛЫЯ ЛЮДЗІ

— Ну і колькі табе гадоў?

У адказ ён растаропіў пальцы.

— Пяць? Ну дык ты зусім ужо вялікі! Хутка мабыць у школу?

Ён паглядзеў насьцярожліва й крыху зьдзіўлена, як паглядаюць на іншаземца.

— Ну, ты хочаш у школу?

— Неа. Там всякие урокі задают.

— А ты, вядома, і так усё ведаеш. Ану праверым. Вось дзе ты жывеш?

— Тут, на Савецкай.

— Маладзец! А горад як называецца?

— Гомель.

— А краіна?

Пацан лыпаў вачыма, не разумеючы.

— Ты ведаеш, што такое краіна?

— Неа.

— Гэта значыць "страна" па-беларуску. Ты в какой стране жывеш?

— В Гомеле.

— Гомель — гэта горад, — я пачынаў трохі заводзіцца. — А ў якой стране ён знаходзіцца?

Ён яўна не разумеў, чаго я ад яго хачу. Але мне захацелася пачуць ад яго слушны адказ без падказкі. Здаецца, я ў свае пяць гадоў ведаў, што "мой адрес — Советский Союз". Я вырашыў пайсьці іншым шляхам, ад больш, як мне падалося, вядомага для яго кругагляду.

— Ты ж, напэўна, ведаеш, дзе ў нас знаходзіцца Расея?

— Не знаю.

Гэта мяне надзвычай зьдзівіла. Хоць хтосьці ў гэтай краіне ня ведае, дзе знаходзіцца Расея. Праўда, дзе знаходзіцца Беларусь майму суразмоўцу таксама вядома не было. Але размова ад гэтага ня страціла для мяне цікавасьці. У свае пяць ці шэсьць гадоў ён ведаў дастакова іншых словаў, і ведаў, што яны абазначаюць. Напрыклад, мама — гэта добра, таму што яна дае есьці, апранае і таму што яна мама. А папа гэта ня вельмі добра. Таму што ён прыходзіць раз на тыдзень, каб залезьці ў лядоўню і чагосьці зьнесьці з таго, што прыносіць з крамы мама. А яшчэ папа ніколі не прасыхае ад гарэлкі. Цікава было б даведацца, што гэта такое — гарэлка. А ў сябра Колькі ёсьць брат. І ён, гэты брат, бандыт. Ён езьдзіць на прыгожай машыне і добра апранаецца. І таму — што можа выглядаць больш прывабным для пяцігадовага чалавека, чым мара стаць бандытам? Я як мага больш прыгожа закурыў, і наша размова прыняла больш мужчынскі характар. Мы гаварылі пра машыны, зброю і дзевачак. Я стараўся спадабацца гэтаму невядомаму мне хлопчыку зь "неблагополучной" сям'і з вуліцы Савецкай. Не таму, што ён уразіў сваёй дасьведчанасьцю ў геаграфіі. Мне чамусьці было важна, пакуль ён не спазнаў, дзе знаходзіцца Расея, закадаваць гэтага падшыванца ад мясцовага вірусу непрыйманьня ўсяго свайго.

Калісьці, калі я быў не на шмат старэйшы за майго суразмоўцу, я трапіў сюды й, чамусьці, да гэтай пары не магу адысьці ад таго дзіцячага ўражаньня: "Тут сканчаецца Расея". Майго невялікага досьведу цалкам тады хапіла, каб адчуць розьніцу. Гэта ня значыла тады (ды й зараз), што там жахліва, а тут расцудоўна. Але мяне заўжды заводзіла тое, што мае тутэйшыя сябры зусім гэтай розьніцы не адчувалі, ці не хацелі заўважаць. Зараз, калі Расея тут сканчаецца ўсё больш заўважна, я, можа, зь ня вельмі прыстойным зларадзтвам сустракаю сьведчаньні маёй даўнейшае рацыі.

Малады гомельскі бізнэсмэн даўно чакаў чаго-небудзь сапраўднага. Пеpакід шмотак з Польшчы ды Ўкраіны на Расею пачынаў ужо патроху абрыдаць. Чым жа я горш за іншых? — думалася маладому бізнэсмэну. — Павінен жа калісьці прабіць і мой зорны час. Ня век жа займацца гэтымі шмоткамі. Свая справа — гэта свая маёмасьць. Заводы з параходамі й адпачынак на Гаваях. І зорны час прабіў. Ягоны польскі партнэр па шмотках знайшоў нямецкага паляка, які жадаў наладзіць "на ўсходзе" вытворчасьць нейкіх кансэрваў. Невялічкі заводзік сам ішоў у рукі. Малады гомельскі бізнэсмэн зразумеў усё слушна й свой шанец марнаваць не зьбіраўся. Месяц упартай працы зь беганінаю па інстанцыях, зь нятаннымі тэлефоннымі перамовамі, з пошукам месца пад, нарэшце, сапраўдную працу, прывялі да галоўнага — візыту польскіх таварышаў на гасьцінную гомельскую зямлю, дзе ім проста ня можа не спадабацца. Усё было пралічана маладым бізнэсмэнам. Акрамя адной дробязі. Малады бізнэсмэн ніколі не задумваўся: дзе пачынаецца Расея?.. Польскія таварышы пад'ехалі на беларускую мяжу, дзе безь ніякіх лішніх пытаньняў вырашылі ўсе гэтыя "дэклярацыйныя" пытаньні зь беларускімі мытнікамі. І зьбіраліся ўжо ехаць далей. Але літаральна праз мэтар іх спынілі мытнікі расейскія. І палякі наадрэз адмовіліся што-небудзь зь імі абмяркоўваць, матывуючы гэта тым, што яны прыехалі зусім не ў Расею. На што расейцы ўсьміхнуліся й прапанавалі ім прайсьціся... Іх пратрымалі на мяжы каля шасьці гадзінаў. Але яны трымаліся цьвёрда. Той, што меў нямецкі пашпарт, пагражаў нават міжнародным скандалам. Яны перамаглі расейцаў. Проста прыехаў нейкі галоўны расеец, загадаў вярнуць іх дакумэнты і нават папрасіў прабачэньня. Злыя і нясьвежыя яны прыехалі ў начны Гомель, каб раніцай жа ўзяць кірунак на Ўкраіну. Украіна пачынаецца праз сорак кілямэтраў, і там таксама ёсьць маладыя бізнэсмэны...

"А чаму я, цалкам нетутэйшы чалавек, павінен ім усім даказваць тое, што яны, карэнныя жыхары свайго краю, цудоўна ведаюць і безь мяне?" — часта задаваўся я гэтым пытаньнем. Кожнага разу з жахам уяўляючы сябе любімага нечым падобным да іх. Але, зрэшты, да каго гэта да іх? Колькі было ўжо спробаў адгарадзіцца ад іх даўно ўжо ня іхнаю моваю, і чым гэта ўсё скончалася? Няцьвёрдым вымаўленьнем, як у тэатры пры кепскім веданьні сваёй ролі й чаканьні падвоху з боку партнэраў. Чаму я, пэўна, і "ташчыўся" ад размовы з гэтым падшыванцам. Ён мяне слухаў так уважліва! Можа я быў не зусім яму зразумелы, але ж я быў "вялікі"! І таму ўжо цікавы. Сустракаючыся на вуліцы зь "белымі" людзьмі, у бальшыні сваёй разгубленымі перад сытуацыяй "дзе нам няма месца", дзе "нас не зразумеюць", дзе "нас так мала", я ў лепшым выпадку пастараюся іх не заўважыць, у горшым — перайду на іхны, амаль што, інтымны паўшэпт. Каб не парушыць іхнай моўнай канспірацыі, каб ня быць у вачах "акружающих" падобным да іх. "Няшчасных дзівакоў, памяшаных на гэтай мове".

Пара ўжо станавіцца заўважнымі, стыльнымі, і па складах даводзіць сваю прысутнасьць. Як гэта зрабілі пара белых людзей у савецкай харчавальнай установе. Двое нашых сядзелі нападпітку ў рэстарацыі. Тоўстая бармэнша, як звычайна, з хамцой і без агню "адпускала тавар". "А давай, — кажа адзін, — прасунем крыху гэтую пані". "А чаму б і не?" — пагадзіўся другі. Першы адразу ж пайшоў да стойкі і папрасіў падаць яму чыстую філіжанку. "Чаго?" — перапытала тоўстая бармэнша. Тады хлопец акуратненька ўзяў са стойкі патрэбны яму прадмет і, павярнуўшы яго перад еййнымі вачыма, падкрэсьлена ветліва прамовіў: "Запомніце, калі ласка, вось гэта называецца "фі-лі-жан-ка", і пайшоў да свайго століка. Праз пару хвілінаў падыйшоў другі і таксама скрайне шляхетна папрасіў чыстага відэльца. "Чаго, чаго? — залыпала сваймі вочкамі тоўстая бармэнша. "Вось гэта, ён гаварыў як мага больш выразна, — называецца "ві-дэ-лец". І пайшоў з тым відэльцам ад стойкі, са смакам адчуваючы на сьпіне вагнямётны погляд тоўстай бармэншы. Далей у сяброў паўстала новая праблема. Тоўстую бармэншу трэба было "дабіць" нечым незвычайным. Лыжкі, нажы і талеркі не падыходзілі. Трэба было нешта экстравагантнае. І тады быў знойдзены проста геніяльны выхад. Праз пару хвілінаў зноў падыйшоў першы і тым самым ласкавым тонам папрасіў сьцізорыка. "Ды што ж гэта такое?!" — уськіпела ўсімі целясамі тоўстая бармэнша. На што той узяў дзьвума пальчыкамі звычайны кухонны нож і міла ўсьміхаючыся ў тупы, злобны твар, бліскуча адгаварыў сваю рэпліку. "Вось гэта, добра запамятайце, — ён зьдзекліва падміргнуў, — калі ласка, называецца "сьці-зо-рык". І павярнуўшы "сьцізорык" перад белымі ад злосьці вачыма, пайшоў п'янстваваць далей. Тоўстая бармэнша доўга не зьўлялася на сваім пасту, і, я ўпэўнены, пры наступнай сустрэчы зь белымі людзьмі яна будзе старацца выглядаць больш прыстойна.

Патрэбны такі стыль, каб белых людзей пазнавалі адразу. Каб не пасьпявалі мы адкрыць рот, а яны ўжо ведалі якою моваю зь імі будуць мовіць. А зь першымі нашымі словамі пасьпявалі закрыць свае раты. Маючы пэрспэктыву атрымаць "дапамогу", якую практыкуе адзін мой знаёмы — дае поўху. Асабіста я ня стану гаварыць на "бел", знаходзячыся ў "нябелым" настроі, ці нават маючы нейкую хібу ў адзеньні. Каб нішто не дапамагло асацыяваць маю мову зь якім-кольвек убоствам. Каб мяне не закранула доля адной беларускай пані, што вымушаная сёньня працаваць пакаёўкай у "новых русских", і якой дачка-школьніца ўсё часьцей задае пытаньне: "Што? Даразмаўлялася?" А тых, з кім можна пагаварыць на поўны голас, дарэчы, становіцца ўсё болей. Нават дзівісься — адкуль бяруцца. Хаця, чаму дзівіцца? Уся справа, зноў жа, у стылі.

Ня так даўно ў Гомелі адбыліся дзьве падзеі, стаць удзельнікам якіх мне не давялося. Не было мяне тады ў Гомелі. Але па прыезьдзе мне распавялі ва ўсіх фарбах. Таварыства Беларускай Мовы плянавала наладзіць імпрэзу ў гонар Грунвальдзкай перамогі 15 ліпеня ў Румянцаўскім парку. А мясцовы БНФ зьбіраўся даць футбольны бой мясцоваму АГП у гонар Дня Незалежнасьці. Мясцовы ТБМ дазвол атрымаў. Правесьці імпрэзу 27 ліпеня ў нядзелю, толькі ня ў парку, а ля (нібы адмыслова) Палаца культуры глуханямых, у ціхім бязьлюдным закутку. Як кажуць, ад вачэй далей. Адбылося тое, што і адбылося. Трэба спадзявацца, тэрмінова выкліканым на акцыю амонаўцам сьпевы пад дуду спадабаліся, ня кажучы ўжо пра глуханямых. Значна больш цікавыя падзеі адбываліся на футбольным полі адной з гарадзкіх школаў. Мясцовы БНФ лічыў сваю перамогу пытаньнем закрытым. А як інакш, калі галоўны гомельскі бээнэфавец узначальвае катэдру фізычнай культуры мясцовага ўнівэрсытэту. У прызначаны час над брамамі супернікаў узьвіліся сьцягі: над брамай БНФ нацыянальны, над супрацьлеглаю —"чырвоны конь". Усё было ўсур'ёз — поўная брыгада судзьдзяў, "Пагоня" на магутных грудзёх футбалістаў фронту (большасьць якіх складалі баксёры-цяжкавікі ды штангісты), і галоўнае — была інтрыга. Не было толькі на момант стартавага сьвістка публікі. Але першы гол, забіты лібэраламі, прыцягнуў увагу нейкай кампаніі моладзі, што ціха піла піва непадалёк. Да другога гола зьбеглася ўся навакольная пацанва. Трэці гол у фронтаўскую браму ўжо глядзелі ўсе зацікаўленыя мінакі — падпітыя былыя ваенныя маракі, што адзначалі сваё сьвята, дзяды, што пакідалі даміно, міліцыянты, прыбеглыя на шум. А шумець было з чаго. На перапынак каманды пайшлі пры ліку 8:3 на карысьць АГП, і пры аблепленым зацікаўленым людам полі. Фронтаўцы прайгралі ў той вечар 4:9, задаволіўшыся чарговай маральнаю перамогаю. Нацыянальныя сьцягі лунілі над галовамі заўзятараў, якіх набралася з паўтысячы, п'яныя матросы, разьдзіраючы паласатыя грудзі, раўлі "Жыве Беларусь", міліцыянты ж сачылі за тым, каб нашае сьвята нічым не сапсавалася. А пасьля ўсе пайшлі піць за Беларусь. Ня ведаю, за каго болей "балела" публіка, але тое, што "ня нашых" на полі няма, гэта яна была павінна зразумець...

Як імкліва нас пакідае Расея! Яна ўжо скончылася тут для сваіх журналістаў. Яна яшчэ спрабуе нешта адыгрываць, маніпулюючы нафтай-газам і кандовай дэмагогіяй (быццам не разумеючы простай рэчы — ніякі паўнавартасны беларускі палітык ня будзе нават заікацца аб нейкай інтэграцыі). Яна сыходзіць так імкліва, што мы проста не пасьпяваем займаць тую прастору, якую яна вызваляе для нас. Ці то ў палітыцы, ці то ў культуры. Для сёньняшніх нашых тынэйджэраў гэта краіна не Высоцкага і Таркоўскага, а хутчэй — краіна без куміраў. Менавіта ад гэтае пустаты расейская мова стала ў нас моваю таннае папсы, а беларуская яшчэ ня стала моваю рок-н-ролу й высокай моды. А часу застаецца ня так і шмат. Роўна столькі, колькі будзе кіраваць першы й апошні...

— Ведаеш, чорт яго ведае, дзе знаходзіцца тая Расея. Не забівай сабе галаву ўсялякімі глупствамі. Ты мяне разумееш?..

**Зьміцер Бартосік**

# ХТО ХОЧА ЗГУБІЦЬ СВАЕ ГРОШЫ

лад, што "25 марта 1918 года — объявление независимости Белорусской Советской Социалистической республики (БССР)", ці што "национальными спиртными напитками являются настойка "Беловежская" и водка "Белая Русь". Зацікавілі мяне статыстычныя зьвесткі. Так, па колькасьці танкаў мая краіна пераўзыходзіць Гішпанію, Францыю і Вялікабрытанію ўзятыя разам, хоць, нажаль, крыху саступае французам па бронетранспарцёрах і, самае галоўнае, нават да Ўкраіны не дацягвае па штурмавых верталётах.

З новага дыску можна даведацца й куды пайсьці вечарам пагуляць на рулетцы, і колькі заплаціць таксоўшчыку, і яшчэ шмат чаго. Аснову яго складаюць тры часткі: "турызм", адкуль я павыцягваў зьвесткі і пра 25-га сакавіка і пра гарэлку, "статыстыка", дзе, апроч зброі, фінансаў, прамысловасьці ды іншага, ёсьць яшчэ, скажам, зьвесткі па ўзроўні жыцьця насельніцтва — чамусьці сьціпла парадзеныя толькі на 1995 год, хоць кампакт датаваны чэрвенем 1997-га. Апошняя частка — "бізнэс", запоўненая базай зьвестак, дзе можна даведацца пра заканадаўства, бізнэсцэнтры, мытныя працэдуры, крамы, а галоўнае — пра пэўную колькасьць зарэгістраваных прадпрыемстваў, дзе я, нажаль, не знайшоў згадкі пра кампанію "Science & Buisiness Software Group" (творцу самога прадукту), але выкапаў знаёмае мне таварыства з абмежаванай адказнасьцю "ЕвроФорум", у якім невядомая колькасьць службоўцаў, але выробляе яно "книги, учебник, руководство".

Калі патэнцыйны партнэр беларускага бізнэсу ўжо праштудыяваў усю патрэбную навуку, ён можа ўпэўніцца ў сваёй кампэтэнцыі праз прыгатаваныя для яго тэсты. Той, хто правільна адкажа на пытаньні, накшталт, "колькі каштуе паездка на таксоўцы ад вакзала да любога гатэля", здагадаецца, што РБ палягае ня ў Азіі й не на Поўдні Эўропы, а таксама адгадае, што самыя цікавыя "белорусские изделия" выробляюцца ня з косткі й дрэва і не з мармуру, а "из соломки", — цалкам гатовы для працы ў Беларусі. А калі вы зразумееце, што рэкамэндуецца ўвозіць кампутары і праграмы ці мэдыкамэнты, мець пачатковую суму ня менш за 100 тысячаў даляраў, супрацоўнічаць зь людзьмі старэйшымі за 25 год з досьведам працы ў органах кіраваньня, ды яшчэ будзеце ведаць "русский язык" — посьпех вам, як абяцае "BelInfo Belarus", абсалютна забясьпечаны.

Безумоўна, ідэя актуальнага нацыянальнага бізнэс-даведніка ў кампутарным фармаце заслугоўвае ўсялякае пашаны. З боку тэхналёгіі гэты прадукт таксама не выклікае прэтэнзіяў — зручны інтэрфэйс, лёгкае карыстаньне. Але, зразумела, чаму, як мне стала вядома, адміністрацыя прэзыдэнта адразу закупіла 500 штук "БелІнфы" — ідэя гэтага інфармацыйна "кульгавага" прадукту сьвеціцца праз усе шчыліны: дарагія вы нашы дурненькія замежныя інвэстары, ляціце сюды, "матылькі", нясіце свае прыгожыя зялёненькія грошыкі — на амон не хапае!

**Вацлаў Арэшка**

# ЭЙРЭ

***Вітрына празрыстай кулеадпорнай камізэлькай ахінае нацыянальныя сьвятыні: ілюмінаваныя манускрыпты канца мінулага тысячагодзьдзя. Адзін з добраахвотных галернікаў сярэднявечнага скрыпторыя прызнаўся на палях свайго шэдэўра, што стварэньне рукапіснай кнігі з акампанэмэнтам фігурных літар, заставак, ілюстрацыяў, велічнай вокладкі каштуе столькі ж сілаў і часу, колькі пабудова сабору. Схіліўшыся над кніжнымі манумэнтамі ірляндзкай мінуўшчыны, мімаволі ўспамінаеш той выпадковы радок стомленага манаха-ананіма. Эйрэ мае тры галоўныя сымбалі: Кнігу, Крыж і Арфу.***

### КНІГА

Іспыты па мэдысвістыцы (клубку ведаў, што тычацца Сярэднявечча) заўсёды нагадвалі мне допыт у папскім трыбунале. Было цяжка і трывожна. Дапытвала жыўцом прадстаўленая пецярбурская прафэсура, па кнігах якой займаюцца цяпер юнаты з БАМ. Але за тую даўнюю дрэсуру засталася шчырая ўдзячнасьць эўрапейскага правінцыяла, які часьцей за ўсё не губляецца, сустрэўшы старых знаёмых па хрэстаматыях. Вітаю цябе, "Book of Kells"! Кніга раскрываецца пастырскімі абдымкамі і прымае грэшную душу ў сьвет недасягальнай абстракцыі. Тысячы сьпіраляў, хітрасьпляценьняў, вузлоў, рытмізаваных крывых (дарагіх сэрцу кожнага крывіча) заварожваюць сваім узьнесеным над банальнасьцю шматгалосьсем. Іхная сьпеўная геамэтрыя — гэта тое ж адлюстраваньне Вечнасьці, горняга сьвету, што і золата абразоў усходнехрысьціянскай традыцыі. Вочы няўпэўнена прачытваюць у віры фарбаў і лініяў ініцыял "XPI" — імя Збаўцы напісана па-грэцку!

Ірляндзкіх манахаў не засмучала аддаленасьць роднага вострава. Для сярэднявечча іхная экспансія мае надзвычай шырокі размах. Заснаваныя імі кляштары ў Францыі, Швэйцарыі, Італіі на стагодзьдзі сталіся наймацнейшымі цэнтрамі рэлігійнага і культурнага жыцьця.



Так, кляштар Монтэ-Касіна, які па дарозе на Рым давялося штурмаваць беларускім жаўнерам з Арміі Андэрса ў 1944 г., таксама твор пасланцоў далёкай Гібэрніі (старажытная назва вострава Ірляндыя). Можа невыпадкова, што адзін з галоўных сьвятых гэтай пасіянарнай нацыі называецца Сьв. Калюмба (!).

Якраз ягонымі сьлядамі трапляю ў Кэлс, маленькае мястэчка, уславўленае на ўвесь сьвет ілюмінаваным Эвангельлем IX ст. Ажно ня верыцца, што менавіта тут наканавана спыніцца амаль на месяц маёй ірляндзкай камандыроўкі.

### КРЫЖ

Ён стаіць ужо 11 стагодзьдзяў на скрыжаваньні двух найважнейшых гасьцінцаў вострава. Ён — адзін з 400 хрысьціянскіх волатаў Ірляндыі, на каменным целе якіх рэльефамі разгарнулася "Біблія для непісьменных": прарокі, апосталы, змаганьні, аршакі і зноў бясконцая мэлёдыя кельцкага арнамэнту. Толькі савок, пабачыўшы крыжы, успамінае выключна могілкі. На гэтых дараманскіх помніках Хрыстос — не змардаваная ахвяра. Ён царуе над сусьветам, раскінуўшы рукі ня з волі катаў, а ў магутным жэсьце ўладараньня, як увасабленьне перамогі над сьмерцю і цемрай паганства.

Кельцкія плямёны эйраў не зазналі рымскага панаваньня. Са скалістага берага ў яснае надвор'е бачная недалёкая Брытанія, адкуль лацінянін Агрыпа самаўпэўнена гукнуў: "Я б скарыў Гібэрнію з адным легіёнам". Будучыня паказала, што эйры здольныя стагодзьдзямі бараніцца ад нарманскіх і ангельскіх захопнікаў. Упартасьць і кансэрватызм гэтай нацыі ярка выявіліся ў VII ст. Папа Рыгор Вялікі жалезнай рукой рэфармаваў каталіцкую Царкву. Тады ўзьніклі грыгарыянскі каляндар, грыгарыянская імша, грыгарыянскі харал. Ірляндыя, канкурэнцыйны цэнтар каталіцызму, доўга трывала за старымі догмай і абрадам.

Ангельскім акупантам урэшце ўдалося раскалоць эйраў, прышчапіўшы, асабліва на поўначы вострава, пратэстантызм. Да канца XIX ст. каталікі маліліся ў палях, дзе дагэтуль стаяць каплічкі катакомбнай царквы, якая мае тысячы пакутнікаў ад біскупаў да простых вернікаў. Да апошняй балканскай вайны 25-гадовае рэлігійнае змаганьне ў Ольстэры, дагэтуль акупаваным брытанцамі, выглядала нейкім архаічным рарытэтам Старога Сьвету. Рэчаіснасьць ўпэўнена разбурае стэрэатыпы.



### АРФА

Калі Сьвяты Патрык у 432 г. пачаў хрысьціянізацыю Ірляндыі, эйрынэафіты, безумоўна, упадабалі біблейскага цара Давіда, майстра арфічнай музыкі. Як дуда ў шатляндцаў, так арфа на вольным востраве была голасам душы народа. Цяпер тут часьцей пачуеш скрыпку і гармонік, а залатая арфа на смарагдава-зялёным фоне застыла сымбалем ірляндцаў усяго сьвету.

Калі выяжджаеш з ірляндцам на месца гістарычных падзеяў, ён камэнтуе мінуўшчыну, як эпізод біяграфіі свайго пакаленьня. Вось магіла паўстанцаў 1798 г. у старажытнай сталіцы Тары. Тады ўпершыню над аддзеламі паспалітага рушэньня ўзьняўся нацыянальны сьцяг. Кожныя ўгодкі бітвы на рацэ Бойнэ, што адбылася ў чэрвені 1690 г. і скончылася паразай каталіцкага войска, адзначаюцца ў Ольстэры пратэстанцкімі маршамі і арганізаваным супрацівам каталікоў. Сёлета вулічныя сутыкненьні і пажары набылі асабліва катасрафічны характар. У сем'ях захоўваюцца рэліквіі партызанскай вайны 1919-21 г. Дарэчы, адозвы акупанцкай улады, рэпрэсіўныя цыдулкі губэрнатараў і судоў да сьмешнага падобныя на знаёмую цяпер нам рэчаіснасьць.

Бяз доўгіх тлумачэньняў зразумелая нам і моўная сытуацыя ў Ірляндыі. Сваю старажытную (і выключна складаную) гэльскую мову вывучаюць усе дзеці ў школе. Некаторыя бацькі пасылаюць сваіх дзяцей у летнікі на паўночна-ўсходнюю і паўночна-заходнюю ўскраіны вострава, дзе яшчэ жыве мова продкаў у натуральным асяродзьдзі. Але ангельшчына пусьціла надта глыбокія карані, невядома чым скончыцца гэтае лінгвістычнае спаборніцтва. Эйрам дастаўся агрэсіўны сусед, са зноў жа знаёмай нам прэтэнзіяй на ўнівэрсалізм.

Аднак, напойвае аптымізмам просты візыт на Галоўпаштамт у Дубліне. Адправіўшы лісты ў адну флегматычную краіну, чытаеш радкі Дэклярацыі незалежнасьці, абвешчанай у гэтым будынку, які быў цэнтрам гераічнага паўстаньня ў красавіку 1916 г., "Poblacht Na H Eireann" (Часовым урадам Ірляндыі): "У імя Бога і памерлых пакаленьняў, ад якіх яна прымае старажытную нацыянальную традыцыю, Ірляндыя праз нас заклікае сваіх дзяцей пад свой сьцяг на барацьбу за свабоду".

Да перамогі заставалася пяць гадоў...

**Валеры Буйвал**

Ігар Міхно

# ПА СЬЛЯДАХ ЛІЦЬВІНСКАЙ



### ГІСТОРЫЯ АДНОЙ СЯРЭДНЯВЕЧНАЙ ВАЙНЫ...

На пачатку XV ст. Чэхія знаходзіцца ў складаным становішчы — моцныя суседзі аказваюць значнае ўзьдзеяньне на падзеі ў краіне. Вялы і нерашучы кароль чэхаў Вацлаў балянсуе і дапускае пранікненьне ў краіну нямецкага ўплыву.

30 ліпеня 1419 году пад кіраўніцтвам Яна Жэліўскага ў Празе падымаецца паўстаньне. Вацлаў памірае, не пакідаючы спадкаемца. Карона чэскага караля прапанаваная польскаму каралю Ягайлу. Ягайла адмаўляецца ад яе. І тады запрашэньне прымае вялікі літоўскі князь Вітаўт — адзін зь пераможцаў крыжацкага Тэўтонскага ордэна пад Зялёным Гаем (Грунвальд) у 1410 годзе, які намінальна становіцца каралём Чэхіі. Ён дасылае ў Прагу свайго намесьніка.

З бласлаўленьня Папы Рымскага Мартына V імпэратар Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі Сыгізмунд I выступае арганізатарам пяці крыжовых паходаў на гэтыя землі, якія падтрымала мясцовая фэадальная рэакцыя. 1 сакавіка 1420 году папа абвяшчае I крыжовы паход супраць ератыкоў-чэхаў.

Чэхі ўспрымаюць каталіцкую і моўную агрэсію варожа. У 1420 годзе ў горадзе Табар зьбіраюцца радыкальна настроеныя паўстанцы, якія ствараюць армію і атрымліваюць назоў табарыты. 5 жніўня таго ж году яны прымаюць сваю праграму "Дванаццаць праскіх артыкулаў".

Гетманам табарытаў становіцца Ян Жыжка — палкаводзец, удзельнік Грунвальдзкай бітвы, пад час якой ён страціў вока. Жыжка ўводзіць у арміі сыстэму вагенбург (ад ням. Wagen — павозка і Burg — абарона) — умацаваньне з павозак у форме чатырохкутніка, кола або паўкола, якое магло ўзмацняцца равамі альбо іншымі перашкодамі. Кожная такая вайсковая адзінка ўключала 10 чалавек: вазьніца, 4 малацільшчыкі з цапамі, лучнікі, арбалетчыкі, аркебузьнікі. На павозках нерухома мацаваліся гарматы, якія білі ва ўпор на ўзроўні грудзіны каня. Пешае войска падтрымлівала лёгкая коньніца.

Жыжку ўдаецца дамовіцца з другім паўстанцкім крылом — памяркоўнымі чашнікамі, і канчаткова разьбіць у 1421 годзе чужынцаў, спыніўшы тым самым I крыжовы паход. Страціўшы ў адным з баёў і другое вока, ён працягвае камандаваць войскам.

Але Сыгізмунд арганізоўвае паходы адзін за адным. Табарыты дзейнічаюць рашуча. Іх падтрымліваюць лавачнікі і, спадзеючыся на перамогу, яны просяць Вітаўта аказаць вайсковую дапамогу. Вітаўт адгукаецца на просьбу. Ва ўсходніх абласьцях Вялікага княства зь ліку праваслаўных набіраецца трохтысячная дружына, якая перадаецца пад кіраўніцтва князя Жыгімонта і ў 1422 годзе прыбывае ў Чэхію.

Табарыты разам зь ліцьвінамі адбіваюць тры крыжовыя паходы. Пасьля сьмерці ў 1424 годзе Яна Жыжкі армія табарытаў падзяляецца на дзьве часткі — табар вялікі і табар малы альбо сіроты, якія ўзначалілі Пракоп Вялікі альбо Голы і Пракоп Малы альбо Прокупэк. Шэраг атрыманых імі перамогаў над чужынцамі і мясцовай рэакцыяй дазволіў перанесьці вайсковыя дзеяньні на варожыя тэрыторыі — у Вугоршчыну, Маравію, Баварыю, Сілезію. У 1432 годзе яны ідуць вялікім паходам супраць брандэнбурскіх фэадалаў, які сканчаецца толькі ў 1433 годзе: табарыты прайшлі да Кюстрына — самага ўзьбярэжжа Балтыйскага мора.

Тым часам рознагалосьсі паміж табарытамі і чашнікамі ўзрастаюць і, урэшце, перарастаюць у збройнае змаганьне. У 1433 годзе чашнікі аб'ядноўваюцца з рэакцыяй. У 1434-м ля Ліпанаў яны наносяць табарытам вырашальную паразу. Гінуць Пракоп Вялікі і Пракоп Малы. Асобныя атрады табарытаў вялі барацьбу яшчэ да 1452 году.

### ... І ЛЁС АДНОЙ ЛІЦЬВІНСКАЙ ДРУЖЫНЫ

Нашыя ваяры ваявалі ў Чэхіі восем гадоў. Вялікі літоўскі князь Вітаўт аддаваў ім загад вярнуцца на радзіму. Але князь Жыгімонт з дружынай прынялі рашэньне застацца з табарытамі. Ніхто зь іх адтуль не вярнуўся.

### ПЕРАДУМОВЫ ВЫЦЕЧКІ

Перадумовы для нашае вандроўкі стварыў Стась Івашкевіч, які, жывучы цяпер у Празе, ня кінуў там свайго старога захапленьня рыцарствам і "прыбіўся" да мясцовага вайскова-гістарычнага клюбу "Streitax" ("Баявая сякера"). Ён і паведаміў у Беларусь, што на пачатку жніўня там адбудзецца рэканструкцыя адной зь бітваў гусіцкіх войнаў — штурм замка Млазавіцэ па сцэнары захопу яго войскам Яна Жыжкі ў 1424 годзе. Зь ягонага ж клопату мы атрымалі і афіцыйнае запрашэньне на ўдзел у гэтай рэканструкцыі.

### УДЗЕЛЬНІКІ

Асноўную частку нашых байцоў склалі сябры Вайскова-гістарычнага клюбу "Kalumny". Побач таксама стаялі ўзмужнелыя хлапцы з клюбу "Грунвальд" і вельмі сымпатычная і бойкая паненка з клюбу "Срэбны Адзінарог". Разам з намі адправіліся ў дарогу і аматары падобнага роду відовішчаў, пакуль для Беларусі ўнікальных.

Двое дзецюкоў з "Kalumnaй" — Максім Макараў і Аляксандар Серавін — дабраліся да Млазавіцэ раней за асноўную грамаду і сур'ёзна дапамаглі зьдзіўленым арганізатарам у пабудове замку і падрыхтоўцы падзеі.

### ДАРОГА

Аўтобус "Neoplan" вынес нас у Польшчу і мы, натуральна, утаропіліся ў нязвыклы для нас пэйзаж. Цікава паназіраць за тымі зьменамі, што адбываюцца ў суседзяў.

Болей чым тысячакілямэтровую дарогу ўдала скрасілі нам рыцарскія фільмы. Хітом, безумоўна, стаў "Адважнае сэрца" з Мэйлам Гібсанам.

Чэхія сустрэла нас сонцам і адсутнасьцю чэргаў на мяжы. Прадчуваньне Прагі, а ад мяжы да яе ўсяго тры гадзіну язды, часова адсунула пасьлязаўтрашнюю падзею на задні плян.

### ПРАГА

Прага, акрамя ўсім добра вядомай старажытнасьці і ўнікальнай захаванасьці і прыгажосьці, цікавая была нам і сьлядамі гісторыі беларуска-чэскіх кантактаў: Францішак Скарына, урад БНР у эміграцыі, Міхась Забэйда-Суміцкі, беларускае міжваеннае студэнцтва. Ну і, безумоўна, ваярства нашых продкаў у XV ст.

Чатырохгадзінавай экскурсіі па Празе

# Рэктар падпольнага ўнівэрсытэту

## Памяці Лявона Луцкевіча

*Напрыканцы ліпеня ў Вільні памёр Лявон Луцкевіч. "Стары віленчук", — адзін зь ягоных псэўдонімаў. "Найбольш дасьведчаны дасьледчык беларускай Вільні" — гэта вызначэньне з прадмовы да публікацыі ягонай кнігі ў часопісе "Нёман".*

Мы пазнаёміліся зь ім гадоў пятнаццаць назад. Я тады прыяжджаў у Вільню, праседжваў у яго часам да раніцы, і, абкладзены фотаальбомамі, слайдамі, старымі кнігамі, — слухаў. Мяркую, што такіх, як я, "пляменьнікаў" у дзядзькі Лявона было шмат. На мяжы 70-х і 80-х ягоная кватэра і Лясная хатка ягонай цешчы Зоські Верас сталі сапраўдным унівэрсытэтам беларушчыны, дзе не адзін студэнт атрымліваў сваю навуку.

Лявон Луцкевіч быў рэктарам і выкладчыкам гэтага ўнівэрсытэту. Шкада, што ў тыя гады мы яшчэ ня ўмелі назваць усё гэта менавіта такім чынам.

Але нефармальнай выкладчыцкай працай далёка не абмяжоўвалася дзейнасьць дзядзькі Лявона. Як журналіст ён супрацоўнічаў зь беларускімі, літоўскімі, польскімі газэтамі, з "Нашай Нівай", з радыё, у тым ліку з Радыё Свабода, меў уласную тыднёвую праграму на літоўскім радыё, з тэлевізіяй. Як дасьледчык, сыстэматызаваў масу гістарычнага, краязнаўчага і біяграфічнага матэрыялу. Як грамадзкі дзяяч, узначальваў школьнае таварыства. Мусіць, няма такога беларускага актывіста позьнесавецкага часу, з кім бы ў Луцкевіча не было перапіскі. І ўсё гэта толькі эпізоды ягоных шырокіх заняткаў. Некалі энцыкляпэдысты будуць мець праблемы зь лякванічным вызначэньнем гэтае асобы.

Але ёсьць за Луцкевічам і пэўнае эксклюзіўнае месца ў культуры. Каб зразумець яго, трэба зьвярнуцца да Вільні — да гэтага суплёту многіх культураў і нацыянальных амбіцыяў, якія адначасова сам культура, прычым наднацыянальная, сынтэтычная. Вільня — гэта як спэцыялізацыя. Ну, напрыклад, мы кажам, што ў аўстрыйскай мэдыцыне ёсьць выдатныя герантолягі. Гэтак у польскай, літоўскай, жыдоўскай, беларускай культурах ёсьць выдатныя прадстаўнікі Вільні, якія разам з тым самадастатковыя і самакаштоўныя, як тыя герантолягі.

Для палякаў Вільня — гэта "белая костка" культуры, пазначаная імем паэта першае велічыні Адама Міцкевіча. Сёньня, напэўна, галоўны мэтафізычны выразьнік віленскае пальшчызны — Чэслаў Мілаш, які жыве ў Амэрыцы. Для літоўцаў гэта тэрыторыя засваеньня. Галоўны прадстаўнік віленскае літоўшчыны Владас Дрэма памёр пару гадоў назад, а яму на зьмену прыйшоў Томас Венцлава (ЗША). Для жыдоў гэта страчаны Ерусалім. Галоўны прадстаўнік — Георгі Кановіч ня так даўно эміграваў у Ізраіль. Для беларусаў сёньня гэта тэрыторыя адчужэньня. Галоўны прадстаўнік віленскай беларушчыны Лявон Луцкевіч. Пералічаны шэраг асобаў — гэта той культурны кантэкст, у які ён міжвольна трапляе. Як адзіны дасьледчык і выразьнік Вільні ў беларускай культуры.

Адначасова Луцкевіч быў галоўным прадстаўніком беларушчыны ўжо ў самой Вільні. (Гэта як бы мы казалі пра аўстрыйскую школу ў геранталёгіі.) А вылучыла яго на такія ролі права спадчыннасьці і разуменьне свайго пажыцьцёвага абавязку. Фактычна з усяе шматлікае інтэлігенцыі Вільні Луцкевіч заставаўся адзіным прамым беларускім нашчадкам тутэйшае старасьвеччыны, "Нашае Нівы", БНР, Гімназіі, Музэя... — усяго, што стварылі ў свой час ягоны дзядзька Іван і ягоны бацька Антон.

Да апошняга дня Лявон Луцкевіч са шчырасьцю і энтузіязмам стараннага гімназіста імкнуўся, як мог, працягваць



1981 год. Лясная хатка на Ніжніх Панарах у Вільні. Іван Пратасеня, Зоська Верас, Лявон Луцкевіч, Віталь Скалабан.

тытанічныя высілкі сваіх магутных папярэднікаў-сваякоў.

Больш за 10 гадоў жыцьця ён правёў у ГУЛАГу. Усе астатнія гады — ад нараджэньня ў 22-м — пражыў у Вільні, вучыўся тут у Беларускай Гімназіі, працаваў інжынэрам на заводзе, зьбіраў матэрыялы пра ўсё, што тычылася беларушчыны і роднага гораду.

Колькі згадваю свае гутаркі зь ім, ягонай галоўнай тэмай быў Віленскі беларускі музэй імя Івана Луцкевіча — своеасаблівая сьвятыня беларушчыны, створаная намаганьнямі Івана і Антона, які стаў дырэктарам музэя пасьля сьмерці брата. Ужо сёньня аднавіць гэты музэй у поўным аб'ёме немагчыма — ягоныя фонды раскіданыя па ўсім сьвеце. Але ў прынцыпе ідэя аднаўленьня заўсёды займала Лявона Луцкевіча і ён рабіў для гэтага захады.

*"Бацька вельмі рупіўся, каб папаўняць фонды музэю, створанага ягоным братам Іванам, — успамінаў дзядзька Лявон. — Аднойчы ён прынес дадому вялізны, цяжкі двуручны меч. Гэта быў меч віленскага ката, якім той адсякаў галовы асуджаных на сьмерць. Бацька прыдбаў меч у знанага антыквара Рапапорта, крама якога знаходзілася, здаецца, на Віленскай вуліцы. Сёньня гэты меч экспануецца ў гісторыка-этнаграфічным музэі Літвы.*

*Радасны настрой бацькі ад такога каштоўнага набытку перадаўся й дзецям. Меч быў прынесены ў наш дзіцячы пакой. Ён быў заржавелы й брудны. Зараз зьявіліся анучы й бутэлька з нафтаю. (У той час страву гатавалі на "прымусах", таму нафта была ў кожнай гаспадыні пад рукою.) Мы ўтрох: бацька, брат Юрка ды я, — пачалі заўзята чысьціць ды адмываць шырокае, вострае з двух бакоў лязо мяча. Па ўсёй яго паверхні былі выгравіраваныя рысункі, якія паступова рабіліся відочнымі..."*

Тэму Вільні Лявон Луцкевіч пераняў непасрэдна ад бацькі. Менавіта бацька Антон першы дасьледаваў гэтую праблему, напісаўшы, між іншым, два хрэстаматыйныя артыкулы "Вільня ў беларускай літаратуры" і яшчэ раней — у 18-м годзе — "Два цэнтры".

*"За апошнія паўтрэця году Вільня і Менск — гэтыя два галоўныя цэнтры Беларусі — жылі ў зусім розных варунках — як палітычных, так і агульных... Вільня за час вайны аказалася цэнтрам беларускай культурна-нацыянальнай працы, а Менск — палітычным цэнтрам.*

*Вільня ці Менск? Пытаньне, якое з нашых местаў мае быць цэнтрам Беларусі, нам даводзілася чуць ня раз... Але й сёньня, хоць літвіны аб'явілі Вільню за сталіцу незалежнай Літвы, даць адказ на гэтае пытаньне нялёгка: бо культурныя цэнтры не заўсёды разьвіваюцца там, дзе ёсьць цэнтар адміністрацыйны. І незалежна ад таго, ці між Беларусьсю і Літвой будзе праходзіць дзяржаўная мяжа, ці Вільня апынецца з аднаго ці з другога боку гэнае мяжы, гэты старадаўні цэнтар культурнага жыцьця ўсяго Беларуска-Літоўскага краю будзе заўсёды прыцягваць да сябе культурныя сілы ўсіх краёвых нацыянальнасьцяў, як архіў мінуўшчыны, як "пільны сьведка мінулых учынкаў". І калі думка беларускага палітычнага дзеяча зьвяртаецца сёньня да Менску, думкі вучоных плывуць да Вільні.*

*Вільня ці Менск? Гэтае пытаньне, бясспрэчна, разьвяжа толькі будучыня. Але здаецца, што разьвязка тут можа быць толькі кампрамісная: Вільня пры ўсялякіх варунках павінна абслугоўваць абодва народы, для якіх гэтае места было калыскай у часах нарадзін іх культуры".*

Так пісаў у 18-м годзе Антон Луцкевіч. Ягоны сын Лявон успрыняў бацькавы падставовыя думкі, як уласную ідэалёгію.

Як аналітык Луцкевіч раскрыўся ў постсавецкі час, у самы бадай драматычны час для ягонае ідэалёгіі. На вачах дасьледчыка віленскай беларушчыны адбывалася адчужэньне ягонага гораду ад ягонае нацыі. Новая непразрыстая дзяржаўная мяжа прайшла ня дзе-небудзь, а па самім Луцкевічы, які, застаючыся карэнным віленчуком і беларускім патрыётам, мусіў стаць грамадзянінам іншай краіны. У Вільні пачалася афіцыйная палітыка літуанізацыі, а адначасова ствралася шмат буларускіх суполак. Паміж дзяржавай і беларускай грамадзкасьцю пачыналі складвацца дачыненьні зусім новага кшталту, як паміж органам большасьці і меншасьцю. Многія сьвядомыя беларусы апынуліся перад пытаньнем, якое і пазначае драматызм часу. Яны мусілі рабіць выбар, якога рабіць не хацелі. Сэрца дзялілася паміж іх Бацькаўшчынай і родным горадам.

Абсалютна натуральна беларусу-віленчуку хацець, каб Вільня —горад Скарыны, Каліноўскага, "Нашай Нівы" — была зь Беларусяй, а не за візавою мяжой. Гэтаксама як паляку або літоўцу. Хіба можна гэткае пачуцьцё назваць падступным або злачынным? Жывая чалавечая натура не ўспрымае алягізмаў палітычнае гульні, якая вымагае ад людзей зусім непатрэбнае, на здаровы розум, ахвяры. Калі працягваць ранейшую аналёгію, гэта тое самае, што аўстрыйскага герантоляга гвалтам прымусіць рабіць выбар паміж Аўстрыяй і геранталёгіяй. Становішча сапраўды незразумелае і драматычнае.

І вось у такім часе шмат хто ў Вільні пазіраў на Лявона Луцкевіча, які мусіў вытлумачыць становішча, прапанаваць нейкі новы кшталт дачыненьняў. У гэтым часе Луцкевіч піша некалькі артыкулаў, дзе разглядае праблему, намацвае балючую лінію кампрамісу:

*"Хацелася б зьмякчыць міжнацыянальную напружанасьць, —адказваў ён у 92-м годзе ў інтэрвію для "НН", — таму што ў карысьць якой бы нацыі яна ні йшла, яна заўсёды будзе выклікаць варожасьць з боку ўсіх трох. Я маю на ўвазе: польскую стыхію, расейскую, беларускую й літоўскую — гэты чатырохкутнік мусіць сёньня нейк прыціраца, каб не ствараць напружанасьці. Бо заўсёды тут так выходзіць. Літоўцы адбіваюцца ад уплываў трох нацыянальнасьцяў: польскай, расейскай і цяпер — зноў — беларускай (таму што адраджэньне беларускасьці ў Беларусі стварае як бы дадатковую нагрузку пры гэтым ціску). Палякі, тыя, што прытрымліваюцца рэваншысцкіх поглядаў (межаў 39-га году), адчуваюць, што супраць будуць літоўцы, расейцы, беларусы. Расейцы-вялікадзяржаўнікі... паколькі гэта быў Савецкі Саюз, значыць, Савецкая Расея, значыць, Расея, значыць, усе гэтыя — іншародцы, прыдуманыя нацыі, якія не павінны йснаваць. Так вось і атрымліваецца, што ў кожнага прэтэнзіі да ўсіх трох... Вільня ўвесь час фармавалася ў такіх умовах.*

*— Цяпер на мяжы поўным ходам ідзе ўзьвядзеньне "заслоны" з абодвух бакоў. Мабыць, хутка зьявяцца ўзараныя палосы...*

*— Так, гэта вельмі сумная зьява. Але мне здаецца, што гэта ўсё ж такі будзе пераходным этапам. Калі ўпарадкуюцца эканамічныя адносіны, дык, напэўна, на ўзроўні Эўропы ня будуць патрэбныя гэтыя палосы. Мяжа застанецца як дзяленьне чыста адміністрацыйнае, таму што недзе ж павінна скончацца адна ўлада, пачынацца другая, гэтаксама як паміж раёнамі, абласьцямі й г.д. Мы, памятаю, у ранейшыя часы часта на сваім старэнькім масквічыку, як яго называлі — бобіку, езьдзілі зь Вільні пад Менск. І заўсёды, калі пераяжджалі мяжу, то з добрай дарога рабілася адразу поўная выбаін, а мы крычалі: ура! мы пераехалі мяжу! Вось такое адчуваньне мяжы й павінна быць. Толькі дай Бог, каб дарога па сваёй якасьці з двух бакоў была аднолькава добрая".*

У апошнія гады жыцьця дзядзька Лявон актыўна супрацоўнічаў з новымі літоўскімі ўладамі і адначасова вёў сваю штотыднёвую беларускую праграму на дзяржаўным радыё, шмат пісаў і публікаваў асьветніцкіх матэрыялаў. Ён цудоўна разумеў, што беларусам у Вільні сёньня пакідаецца адзіная пэрспэктыва —натуралізацыя. Як паўнамоцны прадстаўнік віленскіх беларусаў, ён мусіў зрабіць выбар за ўсіх і ён прызнаў новую Літву. Апраўданьнем такога выбару было тое, што прынамсі сёньня Літва дае віленскім беларусам магчымасьць разьвівацца, нават большую, чым у Беларусі. Ведаючы, як часта зьмяняліся ўлады ў родным горадзе на працягу толькі ягонага жыцьця, Лявон Луцкевіч зрабіў ***часовы*** выбар.

З уласьцівай яму сьціпласьцю дзядзька Лявон не прэтэндаваў на кваліфікацыю прафэсійнага дасьледчыка, а пакідаў сабе ролю энтузіяста, аматара, краязнаўцы. Гэта па-свойму характэрная зьява для вэтэранаў беларушчыны. Калі замест некалькіх грунтоўных падрыхтаваных да друку манаграфіяў яны пакідаюць пасьля сябе сотні публікацыяў у пэрыёдыцы пераважна папулярызатарскага кшталту і вялізныя асабістыя архівы.

Не пакінуў Лявон Луцкевіч і кнігі ўласных успамінаў. Хоць калі па каліву сабраць эпізоды ягонага жыцьця з публікатак у пэрыёдыцы і эфіры, зь лістоў ды чарнавых накідаў і злучыць гэта ўсё ў адно цэлае, такая кніга можа атрымацца. Як пераказ багатага на падзеі, уражаньні і досьвед жыцьця. Але гэтую працу будзе рабіць ужо нехта іншы.

**Сяргей Дубавец**

**P.S.** Пахавалі Дзядзьку Лявона на Літарацкай горцы на могілках Роса — побач з магіламі Антона і Івана Луцкевіча, непадалёк ад помнікаў Ядвігіна Ш., Ф.Аляхновіча, К.Сваяка, Л.Вітан-Дубейкаўскага, там, дзе магілы Сыракомлі, Лялевеля, Чурлёніса...

інфармацыйнае забеспячэньне
Belorusian Public Relations Association

# ІНФАРМАТАР

## БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ



Дай нам, Божа, такую ўладу, пры якой мы ня думалі б аб сабе, не прыніжалі іншых. Дазвалялі казаць праўду адзін аднаму, не лічылі б сябе бязгрэшнымі. Сымон Будны. Беларусь, XVI стагодзьдзе

Людзі, Беларусы, любіце свой край, мову, гісторыю, змагайцеся за іх, перамагайце! Няхай будзе вольнаю Беларусь! Ільлюк з-пад Менску

Запрашаем ліцьвінаў. Адродзім ВКЛ!!! 246012, Гомель, а/с 124. Алесь Чорны

Хлопчык Максім (4 гады) шукае беларускамоўных сяброў і сябровак для сумесных гульняў. Тэлефанаваць маме Юлі: 31-40-80

Запрашаем ліцьвінаў праварадыкальнага, манархічнага кірунку. Ліцьвіны, надышоў час гуртавацца! Адродзім ВКЛ!!! Не — псэўдаадраджэньню. Пішыце: 246012, Гомель, а/с 124, "OD" Алесь Чорны

Прыхільнікі беларускай рок-музыкі! Напішыце мне, калі ласка. 220037, Менск, зав. Сталетава, 12-1. Алена

Мне 20 гадоў. Шукаю сяброў. 220073, Менск, а/с 11 (пажаданае фота)

Гурт "Дзяньніца" сардэчна вітае спадара Алеся Пушкіна з уступленьнем у шлюб. Працуй і надалей на дабро і волю

Беларускамоўныя перадачы Радыё Ватыкан штодня а 6.20 ды а 20.00 на кароткіх хвалях

Польская мова: пераклады якой заўгодна складанасьці, індывідуальныя заняткі. Тэл.: 221-24-81

Праца дома, апрацоўка буклетаў. 15$ у дзень. Капэрта са зв/а + купон б/а. 220073, Менск, а/с 26

Набуду кожнае беларускамоўнае выданьне на "лацінцы". Тэл.: 255-57-47

Спадару Балахонаву з Гомеля патэлефанаваць Віталю Саўчыку. Тэл.: 520433 ці 31884 наконт кніг

Маю на рэалізацыю кнігі "Менская вясна — 96", "Аршанская шляхта", Н.Арсеньнева "Яшчэ адна вясна...", С.Дубавец "Практыкаваньні" і інш. Тэл.: 310408 і 490888, Віталь

Малады некамэрцыйны рок-гурт "Інтэльмэдыя" шукае бас-гітарыста. Тэл.: 48-47-42, Руслан

Скрыпа! Нарэшце ты дарос, каб выдаць першую касэту "Жыгімонт Ваза". Віншуем! Твае фанаты

Матэматыка. Падрыхтоўка ў ВНУ. Дацэнт ВНУ. Тэл.: (017) 226-78-19

Vinšuju Pinsk i pinčukoŭ z 900-mi ūhodkami viečna maladoha horada i zaprašaju ūsich na hetaje śviata (6-7 vieraśnia). Juraś

Польская, чэская і славацкая мовы. Тэл.: 248-79-94, Алена



**КУПОН**

**Бясплатнай прыватнай абвесткі**

*Тэкст:* ..............................................................

..............................................................

..............................................................

..............................................................

*Імя і прозьвішча* ..............................................................

*Адрас, тэлефон* ..............................................................

Запоўніце гэты купон і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220123, Менск, а/с 71

## Вучоба ў Вільні



**Віленскі пэдагагічны ўнівэрсытэт на конкурсных падставах набірае студэнтаў на 1 курс факультэта славістыкі на спэцыяльнасьці:**

*беларуская мова, літаратура і гісторыя культуры;*
*беларуская і расейская мовы і літаратуры;*
*беларуская і польская мовы і літаратуры.*

Навучаньне платнае.
Форма навучаньня: дзённая (4 г.), завочная (5 г.).
*Прыём дакумэнтаў з 25.08.1997 да 01.09.1997.*

1. Атэстат (арыгінал) альбо дыплём вышэйшае школы (выпіска).
2. Мэдычная даведка.
3. 4 фотакарткі (3х4)
4. Пашпарт.
5. Выпіска з працоўнае кніжкі (калі ёсьць).

Уступны іспыт — тэсты па беларускай мове.
Па даведкі, калі ласка, зьвяртацца на адрас:

Катэдра беларусістыкі ВПУ
Studentų, 39-527, Vilnius 2034, Lietuva
Тэл. у Вільні: 8-0122-725801, факс: 8-0122-26-03-17. Тэл. у Менску: 8-017-259-85-63.

## Дакумэнты ТБМ

### Заява сакратарыяту ТБМ імя Ф.Скарыны

З боку прэзыдэнцкай адміністрацыі працягваецца наступ на асяродкі беларушчыны ў нашай краіне. Беларускамоўныя культурніцкія ўстановы і арганізацыі абкладзеныя вялікімі падаткамі, пазбаўленыя льготаў і дзяржаўных датацыяў; зараз у іх адбіраюцца памяшканьні. Ужо больш за месяц ідзе змаганьне за будынак адзінага ў Беларусі беларускамоўнага ліцэя. Рэальная пагроза навісла над Домам літаратара.

Сакратарыят ТБМ выказвае рашучы пратэст супраць гэтай акцыі і патрабуе адмены распараджэньня прэзыдэнта аб перадачы Дома літаратара Ўпраўленьню Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

Дом літаратара — традыцыйны цэнтар нацыянальнай культуры ў самым высокім разуменьні гэтага слова. У ім пастаянна гучыць роднае мастацкае слова, праводзяцца юбілеі любімых пісьменьнікаў, прэм'еры фільмаў, сустрэчы са славутымі артыстамі і кампазытарамі. Ужо сёньня ён мае права стаць мэмарыяльным музэем, месцам выхаваньня павагі да самага сьвятога ў нашай гісторыі і сучаснасьці. Мы цалкам падтрымліваем беларускіх пісьменьнікаў у змаганьні за Дом літаратара, за паважлівыя адносіны дзяржавы да духоўнага набытку беларусаў.

Домам літаратара павінны распараджацца тыя, хто стварае славу і аўтарытэт нашай роднай Беларусі ў сьвеце.

*Сакратарыят ТБМ*

***

Тысячы беларусаў у імкненьні далучыцца да Сусьветнай культуры наведваюць іншыя краіны Сьвету, пакідаючы па-за ўвагай родную Беларусь зь яе нацыянальнымі багацьцямі, магчыма, ня менш зайздраснымі для іншых народаў. Менавіта таму цяжка ўбачыць вялікі натоўп людзей у беларускім Нясьвіжы альбо Міры. Там, сярод незвычайных помнікаў даўніны, ідзе звычайнае правінцыйнае жыцьцё, і наўрад ці хто-небудзь зь мясцовых жыхароў надае належную павагу месцу свайго нараджэньня, ганарыцца ім і пакланяецца яму.

9 жніўня Сьвіслацкая рада БНФ разам з ТБМ Ленінскага р-ну Менску арганізавалі падарожжа ў Мір і Нясьвіж, што надоўга застанецца ў памяці ўсіх яго ўдзельнікаў. Незабыўную экскурсію, якая, здавалася б, магла доўжыцца вечна, правёў беларускі археоляг і гісторык Алег Трусаў. Трыццаць дарослых людзей слухалі яго аповед так, быццам бы толькі зараз, каля Мірскага і Нясьвіскага замкаў, пад уплывам цудоўнай беларускай мовы, глыбокіх ведаў, апантанасьці і ўлюбёнасьці ў сваю справу чалавека для іх адкрыўся новы сьвет роднай гісторыі. Здольнасьць зацікавіць іншага дадзеная далёка ня кожнаму, таму хацелася б выказаць глыбокую падзяку спадару Алегу за тое "адкрыцьцё", якое засталося з кожным з нас пасьля падарожжа.

Шанаваньне гісторыі і павага да яе — гэта тое, без чаго чалавек ня можа па-сапраўднаму ўсьвядоміць сябе асобай. Нішто не ўзьнікае само сабою, таксама, як і не зьнікае бясьследна.

**Вікторыя Леванкова**

## БЕЛАРУСКІ ПАТРЫЯТЫЧНЫ СЬПЕЎНІК




"Наша Ніва" супольна з камэрным мужчынскім хорам "Унія" працягвае новы праект — стварэньне сучаснага Беларускага патрыятычнага сьпеўніка. Апрацаваныя намі тэксты і ноты песень будуць друкавацца на старонках газэты, а вынікам праекту стане кніга "Беларускі патрыятычны сьпеўнік" і аднайменная аўдыёкасэта або CD у выкананьні хору "Унія".

### БІТВА ПАД ВОРШАЙ

*Музыка старабеларуская. Словы народныя.*

Ой, ў нядзельку параненьку
Ўзыйшло сонейка хмарненька,
Ўзыйшло сонейка над борам
Па-над Сялецкім таборам.

А ў таборы трубы граюць,
Да нарады зазываюць.
Сталі рады адбываці,
Адкуль Воршу здабываці:

А ці з поля, а ці зь лесу,
А ці з рэчкі невялічкі?
Сталі хлопцы-пяцігорцы
Каля рэчкі на прыгорцы.

Гучаць разам з самапалаў,
Б'юць паўсоткаю з гарматаў.
Масква стала наракаці,
Места Воршу пакідаці.

А як з Воршы уцякалі,
Тую рэчку праклінали:
"Бадай ты павысыхала,
Наша слава тут прапала..."

## ПАДЗЯКА

Сакратарыят ТБМ імя Ф.Скарыны шчыра дзякуе "НН" за надрукаваньне нашага звароту ад дапамозе ТБМ і просіць выказаць праз газэту падзяку наступным суполкам ТБМ, установам і прыватным асобам, якія падтрымалі Таварыства ў гэты нялёгкі час, —

Генадзь Бураўкін — 1 млн. руб.
Алег Трусаў — 0,5 млн. руб.
Данат Яканюк — 0,5 млн. руб.
Станіслаў Багданкевіч — 450 тыс. руб.
Аляксей Каўка (Масква) — 100 тыс. рас. руб.
Тацяна Сеськова — 100 тыс. руб.
Аргкамітэт па Адраджэньню Грамады — 200 тыс. руб.
Горадня, РАА — 1 млн. 32 тыс. руб.
Гарадзенскі РАА — 230 тыс. руб.
Суполка "Тэлесябрына" — 3 млн. руб.,

а таксама сп.сп. Тацяне Процьцы, Віктару Івашкевічу, Аляксандру Дабравольскаму, Генадзю Карпенку, Я.Скварчэўскаму, М.Шкялёнку, А.Курысу, Міколу Мікалаеву.

*Сакаратарыят ТБМ*

## ПАЭЗІЯ СУПРАЦЬ РЭЖЫМУ

4 верасьня а шостай гадзіне вечара ў Менску каля помніка Янку Купалу адбудуцца паэтычныя чытаньні з удзелам паэта Славаміра Адамовіча. Аўтар прапануе слухачам новыя вершы, выканае арт-мэтафару "Нехта з чацьвертай палаты", адкажа на пытаньні. Арганізатарамі чытаньняў выступаюць ТБМ імя Ф.Скарыны і БСДП "Народная Грамада".

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

*Выданьні Фонду "Наша Ніва"*

# ГАРТ. САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПАТРЫЁТАЎ

***Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў (Глыбокае, Паставы. 1945-1947 г.). — Менск: Наша Ніва, 1997. — 352 с. ISBN 985-6374-014***



Саюз Беларускіх Патрыётаў — гэта падпольная маладзёжная арганізацыя, якая ўзьнікла ў 1945 годзе сярод студэнтаў пэдагагічных вучэльняў Глыбокага і Паставаў. Спачатку гэта былі суполкі. Яны склаліся стыхійна — як рэакцыя навучэнцаў на пасьляваенную русіфікацыю асьветных установаў Беларусі. 8 лютага 1947 году СБП быў разгромлены бальшавіцкімі карнымі органамі. Большасьць атрымала 10 гадоў пазбаўленьня волі...

АЛЯКСАНДАР ЛУКАШУК

# ФІЛІСТОВІЧ. ВЯРТАНЬНЕ НАЦЫЯНАЛІСТА



9 верасьня 1951 году пад Маладэчнам прызямліўся парашутыст... Цэлы год, хаваючыся ад органаў МГБ па вёсках і лясах, Філістовіч наладжваў беларускае нацыянальнае падпольле, стварыў сваю вайсковую групу, выдаваў у лесе газэту «Жыве Беларусь».

5 верасьня 1952 году органы МГБ правялі апэрацыю супраць групы Філістовіча. Вайсковы трыбунал прысудзіў Філістовіча да сьмяротнага пакараньня...

# КНІГІ — ПОШТАЙ

**Каб замовіць патрэбную Вам кнігу, неабходна пазначаную суму плюс суму за перасылку праз пошту пералічыць на наступны рахунак:** БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поіск» г.Менска, Код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» указаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

*Зьвяртацца можна праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч. Тэлефон для кантакту (8-017)-2-31-04-08 у працоўны час.*

| № | Аўтар і назва | кошт | кошт перасылкі |
|---|---|---|---|
| 1 | Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў. | 58.000 | 8.000 |
| 2 | А.Лукашук. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста. | 28.000 | 6.000 |
| 3 | А.Цьвікевіч. «Западноруссизм». Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў 19 і пачатку 20 в. | 40.000 | 8.000 |
| 4 | І.Абдзіраловіч. Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветапогляду. | 10.000 | 5.000 |
| 5 | Е.Ширяев. Русь Белая, Русь Чёрная и Литва в картах. | 40.000 | 6.000 |
| 6 | М.Говард. Сучасная культурная антрапалёгія. | 25.000 | 8.000 |
| 7 | У.Ла Бар. Асабістасьць з псыхалягічнага пункту гледжаньня. | 12.000 | 5.000 |
| 8 | Дж.Эйчысан. Гаваркія істоты. Уводзіны ў псыхалінгвістыку. | 10.000 | 6.000 |
| 9 | Што такое параўнальнае літаратуразнаўства. | 25.000 | 6.000 |
| 10 | Б.Фэйган. Уводзіны ў археалёгію. | 10.000 | 6.000 |
| 11 | Дж.Лоўзі. Гістарычныя ўводзіны ў філязофію навукі. | 20.000 | 6.000 |
| 12 | Ж.Дзюрасэль. Эўропа з 1815 году да нашых дзён. | 15.000 | 8.000 |
| 13 | Ф.Брэтон. Выбух камунікацыі. | 20.000 | 6.000 |
| 14 | Ж.Эрш. Філязофскае здумленьне. | 30.000 | 6.000 |
| 15 | Ш.Дэбаш. Уводзіны ў палітыку. | 30000 | 8000 |
| 16 | К.Рын. Дэмакратыя і этычнае жыцьцё. | 25.000 | 5.000 |
| 17 | Дж.Бэрдшоў. Эканоміка. Ч1: Мікраэканоміка. Дапаможнік для студэнтаў. | 45.000 | 10.000 |
| 18 | Фрагмэнты (філязофіі, культуралёгіі, літаратуры) №1(96) | 30.000 | 6.000 |
| 19 | Фрагмэнты (філязофіі, культуралёгіі, літаратуры) №2(97) | 40.000 | 10.000 |
| 20 | Крыўя. №1, 1994 | 45.000 | 6.000 |
| 21 | Крыўя. №1, 1996 | 55.000 | 6.000 |
| 22 | В.Кіпель. Беларусы ў ЗША. | 15.000 | 8.000 |
| 23 | М.Грыгор'еў. Войска ВКЛ ад Сасаў да Касьцюшкі. | 20.000 | 5.000 |
| 24 | Т.Сапач. Восень. | 10.000 | 3.000 |
| 25 | А.Глёбус. Толькі не гавары маёй маме. | 30.000 | 8.000 |
| 26 | А.Глёбус. Скрыжаваньне. | 10.000 | 3.000 |
| 27 | Э.Сміт. Нацыяналізм у дваццатым стагодзьдзі. | 15.000 | 6.000 |
| 28 | Беларускі вайсковы строй і зброя. | 20.000 | 3.000 |
| 29 | Беларускі рок-н-рол. | 10.000 | 3.000 |
| 30 | П.Бэрк. Рэнэсанс. | 25.000 | 6.000 |
| 31 | Ю.Штайнэр. Эўрапейскія дэмакратыі. | 25.000 | 10.000 |
| 32 | Ё.Тэрборн. Эўропа сёньня і заўтра(1945-2000). | 32.000 | 8.000 |
| 33 | А.Дэні. Гісторыя эканамічнай думкі. | 70.000 | 12.000 |
| 34 | Я.Найдзюк. Беларусь учора і сёньня. | 30.000 | 6.000 |
| 35 | В.Гапоненка. Іван Яркоўскі. У пошуках гармоніі сусьвету. | 10.000 | 3.000 |
| 36 | А.Ятусевіч. Слоўнік зоапаразіталагічных тэрмінаў. | 20.000 | 5.000 |
| 37 | Ніл Гілевіч. Любоў прасьветлая. | 35.000 | 6.000 |
| 38 | С.Станкевіч. Русіфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русіфікацыйнаму працэсу. | 10.000 | 3.000 |
| 39 | Г.Сяржаніна. Беларуская навуковая тэрміналёгія. Біялёгія. | 10.000 | 5.000 |
| 40 | Ніл Гілевіч. Талісман. | 15.000 | 5.000 |
| 41 | Я.Станкевіч. Маленькі МАСКОЎСКА-БЕЛАРУСКІ слоўніч ак. | 10.000 | 3.000 |
| 42 | Л.Мірачыцкі. Сьветлым ценем Адама Міцкевіча. | 10.000 | 3.000 |
| 43 | Рэформа беларускага правапісу 1933 года. | 6.000 | 3.000 |
| 44 | Тэрміналягічны СЛОЎНІК па вышэйшай матэматыцы для ВНУ. | 20.000 | 5.000 |
| 45 | И.Хозеров. Белорусское и смоленское зодчество 10-13 вв. | 30.000 | 6.000 |

# КАСЭТЫ — ПОШТАЙ

***На складзе БГФ "Наша Ніва ёсьць касэты (кошт 32.000 + 7.000 БРБ)"***

Ален. Нармалёк (1995)
Ален. Нармалёк 2 альбо Мафія (1996)
Вольга Акуліч.Трохкутнік
Вальжына Цярэшчанка (1991-1995)
Беларускія народныя казкі
Музычныя казкі (1996)
Бонда. Найлепшыя песьні
Данчык. Я ад вас далёка. Мы адной табе належым
Данчык. Мы яшчэ сустрэнемся.
Новае неба. Дзеці чорнага гораду (1991)
Новае неба. Сон у трамваі (1994)
Новае неба. Go home (1995)
Новае неба. Мая краіна (1996)
Крама. Хворы на рок-н-рол (1993)
Крама. Гэй, там, налівай! (1994)
Крама. Камэндант (1995)
Крама. Лепшыя песьні (1993-1995)
Мроя. Найлепшыя песьні з праграмаў 1988-1990
NRM. LaLaLaLa (1995.)
NRM. Одзірыдзідзіна (1996)
Беларуская музычная літаратура (т.1-4)
Залаты фонд Беларускага рок-н-ролу (т.1-5) т.1. Бонда. Уліс. Рэй. Мясцовы час. Блізьняты (1986-1990) т.2. Бонда. Уліс. Мроя. Крама. Новае неба. Мясцовы час. Тутэйшыя хлопцы (1990-1993) т.3. Золотая середина. Отражение. Алексей Шедько & Доктор Моро. Гранит. Метро. Сузор'е. Зартипо (1986-1991) т.4. Палац. Уліс. Крама. Новае неба. Мроя (1992-1994) т.5. Зиндан. Why Not. Отражение. Инспектор. Тарнадо. Флэт (1992-1994)
Рок па вакацыях-96 (НРМ. Уліс. Флэт. Тарнада. Крама. Рублёвая зона. Новае неба. А.Шадзько і А.Юшын)
Будзьце аптымістамі, рабіце дзетак (Новае неба. Ляпис Трубецкой. НРМ. Палац, 1996)
Беларускі джаз т.1. Рэнэсанс т.2. Ігар Сафонаў т.3. Яблычная гарбата. Пчаліны танец.
Беларуская гітарная музыка (1996)
Беларуская сымфанічная музыка (1996)
Яўген Паплаўскі. Творы (1996)
Лепшыя музычна-драматычныя творы радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» т.1. Чалавек, якому хацелася ўсяго (памяці Ф.Мэркуры) т.2. Лесьвіца ў нябёсы (фантазія па матывах Лед Зэпэлін, Робэрта Планта і Рычарда Баха) т.3. Танец поўні (прагулка са Стынгам)
Андрэй Мельнікаў. Успамін (1994-1995)
Андрэй Мельнікаў. Салам Саўкам (1993)
Андрэй Мельнікаў. Песьні выгнаньня (1991-1993)
Андрэй Мельнікаў. Камяні майго вогнішча (1994-1995)
Андрэй Мельнікаў. Да апошняга камісара (1995-1996)
Андрэй Мельнікаў. Гэта мы (1996)
Андрэй Мельнікаў. Шлях. 2 часткі (1996)
Уліс. Краіна доўгай белай хмары (1990)
Уліс. Чужаніца (1991)
Уліс. Танцы на даху (1993)
Уліс. Life-96
Уліс. Блуканьне (1996)
Мясцовы час. Наша ўскраіна (1991)
Віктар Шалкевіч. Смутны беларускі блюз (1996)
Палац (1995)
Песьні беларускіх бардаў (1992)
Рок супраць рэвалюцыяў (Новае неба. Зіндам. Уліс. Мроя. Крама, 1994)
Маладзёжныя хрысьціянскія сьпевы. Прыйдзі і праслаўляй (1996)
Ліцьвіны. Неба і зямля (1994)
Ліцьвіны. Пятае сакавіка (1996)
Зьміцер Бартосік. Да пабачэньня... (1996)
Уладзімер Клімовіч. Дзеці вятроў (1997)
Камэлот. У краіне талераў. (1995)
Эдуард Акулін. Мая Крывія. (1996)
Неруш (1997)
Ігар Палівода. «Максім» (1997
Новае неба. Выбранае. Песьні з альбомаў 1990-1996 г.
Уліс. Ратуйце вашыя душы. Песьні з альбомаў 1996 г.
NRM. Made in NRM. Песьні з альбомаў 1995-1996
KRIWI - праект фольк-мадэрн студыі «Палац»
Купалінка - Kupalinka. Folk-group.
Ліцьвіны. Голуб на чарэшні.
Песьнярок. Песьні «Песьняроў» у выкананьні «Крамы», NRM, «Троіцы», «Тарнада», «Пані Хіды», «Ляпис Трубецкого», «Нейродюбеля», Валіка Грышко.
Белы сон (Беласток, 1997)
Харошкі. Полацкі сшытак, традыцыйная музыка (1997)
Жыгімонт Ваза. Стан Галюцынацыі
Марыя Скуратовіч. Табе, Хрысьце!
Песьнярок. CD (170.000)

**Касэты можна замовіць праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч**

# НАВІНКА!

***Ганс Якаб Крыстофэль фон Грымэльсгаўзэн. Авантурнік Сымпліцысімус / Пераклад зь ням., камэнтары Васіля Сёмухі. —Менск: Мастацкая літаратура, 1997.***



Адзін з найвыбітнейшых твораў баракальнай літаратуры Эўропы ў перакладзе Васіля Сёмухі, які пры перадачы рэаліяў XVII стагодзьдзя выкарыстаў багацьці старабеларускай мовы.

# ЛІТОЎСКАЯ МЭТРЫКА




Выйшла з друку чарговая кніга Мэтрыкі – том 11 (Кніга запісаў). Папярэдне выходзілі тамы 5, 6, 7, 8, 10. Просьба ахвотным дасылаць свае заяўкі пісьмова на адрас: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч. Калі Вы маеце тэлефон, пазначце яго.

Даведкі праз тэл.: 249-08-88 да 10 гадзінаў раніцы; 231-04-08 у працоўны час.

# НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ У РЭДАКЦЫЮ

Андраюк С. Пісьменьнікі. Кнігі: Літ.-крытыч. артыкулы: Для ст. шк. узросту. – Менск: Маст. літ., 1997. – 319 с. Наклад 3600 ас. ISBN 985-02-0360-9

Асіноўскі С. Орша: Залатыя стрэлы на блакітным полі: Іл. Храналяг. давед. – Менск: Полымя, 1997. – 428 с.: іл. Наклад 2000 ас. ISBN 985-07-0111-0

Беларускі навукова-дасьледчы інстытут дакумэнтазнаўства і архіўнай справы: Бібліягр. паказ. / БелНДІДАС, Бібліятэка Беларус. ун-та культуры; Склад.: Т.Самайлюк, В.Скалабан, Т.Дзем'яновіч, Л.Доўнар. – Менск: БелНДІДАС, 1997. – 98 с. ISBN 985-6099-35-8

Беляхэнка Б. Крык у ціхай затоцы: Аловесьці-дэтэктывы. – Менск: Маст. літ., 1997. – 352 с. Наклад 8000 ас. ISBN 340-01283-2

Брыль Я. Дзе скарб ваш: Лірычная проза. – Менск: Маст. літ., 1997. –334 с. Наклад 3500 ас. ISBN 985-02-0328-5

Вайцяховіч З. Краіна замкаў альбо Беларусь на старажытным малюнку. – Менск: Цэнтар – "Выдавецкая ініцыятыва", Камтат, 1997. – 60 с. ISBN 985-6176-08-5

Валодзіна Т. Талака ў сыстэме духоўнай культуры беларусаў / Акад. навук Беларусі. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклёру. – Менск: Беларуская навука, 1997. – 135. Наклад 600 ас. ISBN 985-08-0033-X

Грымэльсгаўзэн Г.Я.К. фон Авантурнік Еімпліцысімус: Раман / Пер. з ням. і камент. В.Семухі, Прад. Г.Сініла. – Менск: Маст. літ., 1997. – 415 с.: іл – Скарбы сусьветнай літаратуры. Наклад 3000 ас. ISBN 985-02-0332-6

Драздова З. Творчасьць А.Мрыя і Л.Калюгі: Стылявыя асаблівасьці. – Менск: Беларуская навука, 1997. – 143 с. Наклад 600 ас. ISBN 985-08-0040-?

Ілюстраваная храналёгія гісторыя Беларусі: Ад 1919 г. і да нашых дзён / Г.Пашкоў (гал. рэд.) і інш., Скл. І.Хаўратовіч, Маст. Э.Жакевіч. – Менск: БелЭн, 1997. –192 с.: іл. Наклад 5000 ас. ISBN 985-11-0086-2

Капыловіч І. Крумкач: Раман. – Менск: Маст. літ., 1997. –351 с. Наклад 1000 ISBN 985-02-0004-9

Карамазаў В. Выбраныя творы. У 2 т. Т. 1. Бежанцы: Раман; Краем Белага шляху. Дзень Барыса і Глеба: Аловесьці / Прадм. П.Васючэнкі. – Менск: Маст. літ., 1997. – 509 с. (1) л. парт. Наклад 1700 ас. ISBN 985-02-0105-3 (Т.1).

Кісьліцына Г. Алесь Разанаў: Праблема мастацкай сьвядомасьці. / Навук. рэд. Л.Гарэлік. – Менск, Беларуская навука, 1997. – 143 с. Наклад 600 ас. ISBN 985-08-0039-9

Лыч Л., Навіцкі У. Гісторыя культуры Беларусі: 2-е выд., дап. – Менск: ВП "Экаперспектыва", 1997. – 486 с. Наклад 5000 ас. ISBN 985-6102-11-1

Мдзівані Т., Сергіенка Р. Кампазітары Беларусі. – Менск: Беларусь, 1997. – 400 с.: іл. Наклад 5000 ас. ISBN 5-338-00691-X

Навуменка І. Выбраныя творы. У 2 т. Т. 2: Раман. Аловесьці. – Менск: Маст. літ., 1997. – 495 с. Наклад 1500 ас. ISBN 985-02-0232-7 (т.2).

Песьні Беласточчыны / Уклад. М.Гайдук. – Менск: Беларуская навука, 1997. – 367 с. – (Беларус. нар. творчасьць). Наклад 1000 ас. ISBN 985-08)0052-6

Сьпеўнік беларускіх скаўтаў. Вялейская харугва імя Якуба Ясінскага Аб'яднаньня беларускіх скаўтаў, 1997.

Снапкоўскі У. Зьнешнепалітычная дзейнасьць Беларусі 1944 – 1953 г. / Пад рэд. Ю.Броўкі. – Менск: Беларуская навука, 1997. – 207 с. Наклад 600 ас. ISBN 985-08-0028-3

# НОВЫ ПРАЕКТ

Беларускі Гуманітарны Фонд "Наша Ніва" стварае Архіў беларускай рок-музыкі, які бачыць сваёй галоўнай мэтай збор матэрыялаў і дасьледаваньне сучаснай незалежнай музычнай традыцыі ў Беларусі.

Архіў зьбірае: старыя, рарытэтныя, аўдыёвідэаматэрыялы, друкаваную прадукцыю (газэты, часопісы, афішы, плякаты і да т.п.).

Зацікаўленым асобам просьба зьвяртацца на адрас:

Беларусь, 220085, Менск, а/с 5. "Архіў беларускай рок-музыкі", або праз тэлефон: (017) 231-04-08 (Сяргей Сахараў).

# НАВІНКА!

***Kriwi. Hei-loli. — Miensk: Ковчег, 1997***



Са зьяўленьнем колькі гадоў таму гурта "Палац" беларуская музычная культура папоўнілася яшчэ адной плыняй — folk-modern. Тады, на пачатку дзевяностых, "Палац" стаўся сапраўднай зьявай, якая ўскалыхнула заскарузлую беларускую мас-культуру. Зьвяртаньне да фальклёру было ня толькі неабходнай, але і ўдзячнай справай: аказалася, што бабульчыны сьпевы могуць гучаць модна.

"Палац" з году ў год атрымлівае прыз Рокаранацыі ў разьдзеле "Традыцыі і сучаснасьць" і да сёньняшняга дня перарос у аднайменную студыю. Менавіта з гэтай студыі выйшаў новы праект "Крыві". Удзельнічаюць у ім вядомыя з "Палацу" Юрась Выдронак, Зьміцер Вайцюшкевіч і Вераніка Круглова, якая тут — лідэр-вакал. Апошняя ўдзельніца, як можна меркаваць, і была адной з галоўных прычынаў утварэньня праекту — у "Палацы" Круглова выконвала замалую для сябе ролю падлеўкі.

З жаночым голасам значна пашырыўся рэпэртуарны дыяпазон, і "Крыві" загучаў зусім адметна. У выніку "Крыві" не стае масавасьці для дасягненьня Палацавай папулярнасьці. Але самі музыкі сьвядома ідуць на гукавыя экспэрымэнты, спалучаючы старажытныя традыцыі "гарлавых сьпеваў і сучаснага sound з элемэнтамі імправізацыі і авангарду". Гэтым і можна патлумачыць стылёвыя няроўнасьці МС-альбому "Крыві" — спэктар кампазыцыяў пашыраецца ад амаль танцавальнай "Hei-loli" да калыханкі "Коцік". Адной з самых нечаканых стала кампазыцыя "Куралес", дзе ўдала спалучыліся электронныя матывы і этнічныя сьпевы.

Экспэрымэнт пад назвай "Крыві" стаўся пасьпяховым у варыянце аўдыёкасэтаў, ці будзе ён такім жа ў фармаце CD, выданьне якога хутка чакаецца, пакажа час.

Сяргей Сахараў

# РОК-ПА-ВАКАЦЫЯХ

1 верасьня ў Парку Чалюскінцаў адбудзецца штогадовы беларускі рок-фэст "Рок-па-вакацыях". На танцпляцоўцы парку выступяць "Крама", "Новае Неба", "Уліс", "Тарнада", "Жыгімонт Ваза", "N.R.M.". Уваход вольны.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Азбука Чэслава Мілаша




***Czesław Miłosz. Abecadło Miłosza. — Kraków: Wydawnictwo Literackie, 1997. 276 S. ISBN 83-08-02732-6***

Чэслаў Мілаш, польскі пісьменьнік, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі, уцякач за савецкім часам у ЗША, выдаў чарговую кнігу эсэістыкі.

"Азбука Мілаша" нагадвае энцыкляпэдыю, у якой сабраныя галоўныя паняткі сьвету паводле Мілаша. Сам ён з тых палякаў, што гадаваліся на Віленшчыне і маюць ня столькі польскі, колькі літоўскі або ліцьвінскі сьветапогляд, у якім, як у Вялікім Княстве Літоўскім, дамінуе Беларусь, таямніца беларушчыны. Успаміны аўтара, зьвязаныя з галоўнымі пэрсанажамі ягонага ўласнага жыцьця, з найважнейшымі геаграфічнымі пунктамі і абстрактнымі катэгорыямі. Падзеі раскручваюцца вакол Вільні, забягаючы то ў Друю, то ў Лепель, то ў Пінск, то ў глухую францускую або амэрыканскую правінцыю. А героямі выступаюць то нейкія даўно забытыя сябры юнацтва, то Альбэр Камю, які ўхваліў да друку першую кнігу прозы Мілаша, то раптам аўтар зьмешваецца з героямі Дастаеўскага і Бальзака.

Мілаш як бы падводзіць рысу свайго папярэдняга жыцьця і адбірае тое, што хацеў бы ўзяць з сабой у вечнасьць. Або тое, з чым хоча падзяліцца ўласнай вечнасьцю сам. Альбо тое, чаму ў вечнасьці хацеў бы пакінуць сваю трактоўку.

Вось артыкул "Аўтэнтычнасьць". "Мой вялікі страх, – піша Мілаш, – што я выдаю сябе за кагосьці, кім я ня ёсьць".

"Абрамовіч. Гэтыя прозьвішчы: Абрамовіч, Ахматовіч, Ахрамовіч, Альхімовіч, Архімовіч напэўна таксама, былі татарскім унёскам у віленскую мазаіку".

"Аўтамабіль. Напэўна, аўтамабіль быў вынайдзены на тое, каб пакпіць з пэсымістаў, якія прадказвалі, што колькасьць коней неўзабаве павялічыцца настолькі, што гарады задушацца ад смуроду конскіх экскрэмэнтаў".

Першае каханьне, першая кніга, першая п'янка. "Я належу да нацыі, зьнявечанай вякамі п'янства".

Амэрыка... Амэрыканская віза... Амэрыканская паэзія.

"У падручніку стылістыкі верш Эдгара Алана По "Званы" падаецца як прыклад аноматапеі. Шмат пазьней я даведаўся, што амэрыканскія паэты лічаць такое гукапераймaньне жахлівым і што ангельская мова ня зносіць гэткіх рытмічных барыкадаў. Але По быў вялікім паэтам для французаў і для расейцаў, для якіх паэзія збольшага – гэта "магія гукаў". Я гатовы шмат чаго дараваць яму за адзін толькі верш, сапраўды чарадзейскі –"Улялюм", хоць лягчэй яго перакласьці на расейскую зь яе ямбічным акцэнтам, чым на польскую".

"Азбука Мілаша" пры ўсёй яе шматплянавасьці, шырыні часавага і прасторавага ахопу – гэта ўсё ж кніга маладосьці паэта. І таму гэта віленская кніга, што найперш цікава для беларускага чытача. Вільня – сталіца Вялікага Княства Літоўскага, пасьля цэнтар "Северо-Западного края", як называлі Беларусь у XIX ст., нарэшце сталіца Заходняе Беларусі ў часе паміж I і II сусьветнымі войнамі. Горад першых нашых кнігі, школы, газэты, партыі...

У "Азбуцы Мілаша" артыкул "Горад" або "Miasto" прысьвечаны, натуральна, Вільні.

"Вільня ў сваёй гісторыі схілялася ад адной культуры да другой... Калі Гедымін перанес сюды сталіцу з Трокаў, горад, праз тое, што Вялікае Княства было заселенае пераважна ўсходнеславянскімі і праваслаўнымі жыхарамі, цягнуўся да Ўсходу – старабеларуская мова была мовай урадавых дакумэнтаў і на ёй напісаныя літоўскія Статуты. Але рэлігія пасьля хрышэньня была рымакаталіцкая і цэрквы будаваліся найперш гатычныя, а пасьля барочныя. І гэта азначала польскі ўплыў. Палянізацыя Вільні і ваколіцаў цягнулася праз усё васямнаццатае стагодзьдзе, і ў дзевятнаццатым сутыкнулася з русіфікацыяй. Насельніцтва падвіленскіх вёсак зь літоўскай мовы паступова перайшло на польскую, і далей перайшло б на расейскую, калі б Літва заставалася савецкай рэспублікай".

Найболыш прыцягвае ўвагу Чэслава Мілаша пашыраны ў міжваеннай Вільні масонскі рух. Сам Мілаш належаў да масонскае ложы, ідэалёгія якой базавалася на разуменьні адметнасьці земляў Вялікага Княства Літоўскага як ад Расеі, так і ад Польшчы.

"Людвік Абрамовіч быў выразьнікам ідэалёгіі, у якой злучаліся дэмакратызм, шматнацыянальнасьць і "краёвасьць". Перад першай сусьветнай вайной да ложы "Літва" належалі, апрача палякаў, літоўцы і беларусы. Пасьля вайны адбыўся падзел уздоўж нацыянальнае лініі, але "краёўцы" ўсё ж перамагалі эндэкаў і асуджалі дыскрымінацыю іншых моваў. "Przegląd Wileński", які рэдагаваў Людвік Абрамовіч, быў адным з часопісаў польскамоўнай Вільні, але выказваўся супраць далучэньня Вільні да Польшчы і за ўваскрашэньне Вялікага Княства зь Вільняй як сталіцай, а таксама крытыкаваў Юзафа Пілсудзкага за тое, што той выракся ідэі фэдэрацыі".

"Беларускія" прыклады іншы раз выкарыстоўваюцца ў кнізе Мілаша і тады, калі аўтару трэба праілюстраваць з уласнае біяграфіі катэгорыю прыстасавальніцтва.

Гэтак у артыкуле пра Акадэмічны клюб валацугаў, які, паводле Мілаша, у перадваеннай Вільні нагадваў пазьнейшых амэрыканскіх хіпі, аўтар згадвае сярод сяброў клюбу нейкага беларуса Яна Пацука (мянушка Выдра), які меў прыемнае аблічча, але ўсё намагаўся зьмяніць сабе прозьвішча на Пачыньскі.

У іншым месцы Мілаш распавядае гісторыю нейкага Лешака Б., які з прыходам у Вільню саветаў, каб выратавацца ад ссылкі, пачаў выкладаць марксізм-ленінізм на курсах для рабочых, хоць пры гэтым ня меў пра марксізм ніякага ўяўленьня.

"Далей прыходзяць немцы. Лешак выдае сябе за беларуса і набывае маёнтак, па якім ходзіць зь бізуном і пагражае сялянам: "Я вам зараз пакажу камунізм!". Застрэлілі яго праз вакно, калі сядзеў за вячэрай. Хто застрэліў? Нібыта сяляне. Але ў тых ваколіцах дзейнічала моцная савецкая партызанка і можна падазраваць супрацоўніцтва Лешака Б. зь беларускай адміністрацыяй, супраць якой тая партызанка вяла вайну".

Гутарка ідзе як бы пра адваротны бок мэдаля патрыятызму Вялікага Княства, які Мілаш называе "краёвасьцю". А менавіта пра канфармізм. Магчыма, гэта тая адзіная і ўсеахопная рыса беларусаў, якая некалі будзе вартая ўсенароднага пакаяньня. Бо ў "Азбуцы Мілаша" я знайшоў толькі тры эпізоды, а ўсіх прыкладаў гэтага прыстасаванства не пералічыш.

Зрэшты, ня толькі прыстасаванцамі малюе нас Чэслаў Мілаш. Напэўна, рана ці позна ягоная "Азбука" будзе перакладзеная на беларускую мову сьледам за ўжо перакладзенымі, наколькі ведаю, "Роднай Эўропай" і "Шуканьнем Айчыны".

Магчыма, эсэістыка Мілаша нават цікавейшая для беларускага чытача, чым для палякаў. Бо палякам яна распавядае пра гісторыю, спэцыфіку і таямніцы нашага краю, а для нас становіцца яшчэ адным адкрыцьцём сябе.

**Крыт.**

# Параўнаем...

***Бычкова М. Русское государство и Великое княжество Литовское с конца XV в. до 1569 г. Опыт сравнительно-исторического изучения политического строя. — Москва, 1996. ISBN 5-201-00638-8***

Тэма параўнаньня ВКЛ з Масковіяй не сказаць, каб вельмі даўняя, але сто гадоў мае. Першае, што згадваецца – кніга І.Маліноўскага "Рада Вялікага княства Літоўскага ў сувязі з баярскай думай старажытнай Расеі", якая выйшла ў 1904 годзе. Пісалі пра гэта й раней, пішуць і дасюль. Вядомы маскоўскі генэоляг Маргарыта Бычкова ў сваёй кнізе імкнецца падвесьці некаторыя вынікі дасьледаваньняў гэтай тэмы.

Перш зьвернем увагу на генэалягічныя аспэкты працы. Пытаньні пачынаюць зьяўляцца адразу. Чаму ў князя Патрыкія Нарымунтавіча бацька завецца Нарымонт? Ці розныя асобы Іван Салега і Іван Сапежыч? Няўжо сапраўды славуты Вітаўт – дзядзька ня менш славутага Ягайлы? (Яны стрыечныя браты.) І, нарэшце: "Даўмонт – гэта Гедымінавіч"! Нават чыста з "тэхнічнага" боку гэта немагчымая сытуацыя, бо паводле ўзросту Даўмонт падыходзіць Гедыміну за бацьку, а зусім не наадварот. Каб зразумець, як атрымалася такая памылка, зірнем на іншыя пастуляты аўтаркі. Здаецца, вось яе крыніца і падмурак: на думку М.Бычковай, усе літоўскія князі ў ВКЛ – гэта Гедымінавічы (люстраны адбітак становішча ў Масковіі, дзе ўсе расейскія князі – Рурыкавічы). Імкненьне да такой "сымэтрыі" і дало вынікам тое, што вельмі разгалінаваныя княскія роды ВКЛ – Сьвірскія, Гедройці, Гальшанскія, якія не былі Гедымінавічамі, – зусім ня згадваюцца ў кнізе. Так выпала з поля зроку адна з важных асаблівасьцяў сацыяльнага й палітычнага ладу ВКЛ.

Ранейшыя аўтары калі параўноўвалі ВКЛ і Масковію, вельмі цікавіліся пытаньнем: якую з гэтых дзьвюх дзяржаваў можна лічыць пераемніцай Кіеўскай Русі. Тлумачылася гэта, натуральна, гістарычнай прывабнасьцю той Русі. Маргарыта Бычкова не паставіла перад сабой такога пытаньня. Здаецца, у кнізе ўвогуле няма тэрміну "Кіеўская Русь". Перад намі – адна са спробаў сучаснай расейскай гістарыяграфіі вынішчыць усялякую "кіеўскую" афарбоўку з гісторыі Русі і наглуха прывязаць яе да гісторыі Масквы. Замест "Кіеўскай Русі" аўтар скарыстоўвае тэрмін "старажытная Руская дзяржава". Зразумела, што і Масковія XVI ст. для яе "Руская дзяржава", так што ўсё гэта аказалася адным дзяржаўным утварэньнем з адной лініяй разьвіцьця.

Тут робіцца зразумелаю й назва кнігі М.Бычковай. Чаму ў загалоўку прысутнічае "Руская дзяржава"? Лягічна было б кнігу назваць "Вялікае княства Маскоўскае і Вялікае княства Літоўскае", ці, паводле іншага прынцыпу, "Руская дзяржава і Літоўска-Руская дзяржава" (стыль вялікага гісторыка М.Любаўскага), або "Расейская дзяржава і Літоўска-Беларуская дзяржава", як сказалі б некаторыя беларускія гісторыкі. Лінія М.Бычковай цьвёрдая – пазбавіцца ад вызначэньня дзяржаваў паводле гораду (Кіеў, Масква), каб усё было проста "рускім" –у сэнсе "расейскім". Нечаканыя вынікі такой тэндэнцыі – замена ў кнізе тытулу "вялікі князь маскоўскі" на "вялікі князь рускі" (!), і кур'ёзныя пасажы кшталту: "У Рускай дзяржаве падобныя ідэі сустракаюцца як у Пскоўскай судной грамаце, так і ў аповесьці пра Дракулу". Як бачым, што Пскоўская рэспубліка, што Вялікае княства Маскоўскае, – для аўтара адно Расейская дзяржава.

І яшчэ больш нечаканая для нас, але цалкам лягічная для поглядаў М.Бычковай выснова: Беларусь і Ўкраіна ў межах ВКЛ – гэта "былыя рускія землі, якія ўваходзяць у склад Вялікага княства". Але хоць існаваньне беларускай ды ўкраінскай моваў аўтар прызнае? М.Бычкова вырашыла пазьбегнуць адказу на гэтае пытаньне і дала адно намёк, у ВКЛ XV-XVI ст. размаўлялі – на "старажытнарускай". Вядома, праца М.Бычковай не лінгвістычная, але гісторыя ўсё ж патрабуе дакладнасьці.

Аўтар паказала асноўныя адрозьненьні ў сацыяльна-эканамічным і палітычным ладзе двух Вялікіх княстваў. З-за таго, што кніга мае невялікія памеры, разгляд гэтых асаблівасьцяў зь непазьбежнасьцю атрымаўся даволі лякaнічным. На гэта паўплывала і тое, што дэталёвы разгляд бакоў праблемы яшчэ ня быў зроблены навукоўцамі. Але ж... Аўтарка прыгадала вядомую манаграфію І.Маліноўскага, дзе быў зроблены параўнальны аналіз вышэйшых органаў адміністрацыйнай улады ВКЛ і Масковіі. Аднак, высновы Маліноўскага ніяк не пракамэнтаваныя, нават не адзначана, ці адвяргае іх М.Бычкова, ці згаджаецца.

Назіраньні аўтара кнігі над эканамічным, грамадзкім і палітычным ладам дзьвюх краінаў уяўляюцца шмат у чым слушнымі. М.Бычкова адзначае, што землеўладальнікі ВКЛ раней за расейскіх перайшлі да інтэнсіўнага, а не экстэнсіўнага выкарыстаньня маёнткаў. У ВКЛ актыўна ішоў працэс утварэньня буйных зямельных уладаньняў; у Расеі, наадварот, буйныя княскія вотчыны драбіліся. У ВКЛ пастаянна расла палітычная значнасьць шляхты, а ў Расеі значэньне мясцовых сабораў зьніжалася. У ВКЛ адбывалася пашырэньне функцыяў мясцовых органаў улады, закладваліся і ўмацоўваліся падмуркі прававой дзяржавы, ды інш.

М.Бычкова зрабіла аналіз ідэалягічнага афармленьня ўлады ў абедзьвюх дзяржавах. Як вядома, вялікую, калі не вядучую ролю ў гэтым адыгрывала ідэя знатнага паходжаньня кіруючай дынастыі. У старажытнай Русі для абгрунтаваньня ўлады дынастыі Рурыкавічаў служыла легенда пра прыход варагаў Рурыка з братамі з-за мора. Пасьля ў Масковіі ўзьніклі дапаўненьні, што той Рурык быў з роду імпэратара Аўгуста і г.д. У ВКЛ склаўся аповед пра прыезд з Рымскай імпэрыі ў Літву Палемона з 500 сем'ямі рымскай шляхты. М.Бычкова мяркуе, што гэтыя дынастычныя легенды зьявіліся незалежна адна ад адной. Такая выснова відавочна спрэчная. Як ня так даўно паказалі літоўскія дасьледчыкі, легенда пра Палемона – гэта мастацкае перайманьне ўсё таго ж сказаньня пра Рурыка. М.Бычкова не заўважае й істотнага адрозьненьня абедзьвюх легендаў. У старажытнай Русі і Масковіі заўсёды былі моцныя тэндэнцыі да адзінаўладзьдзя. Не выпадкова таму мітычныя браты Рурыка Сінявус і Трувар аказаліся зусім непатрэбнымі ў ідэалягічных пабудовах. Расейскія кніжнікі абышліся зь імі як аўтары сучасных бульварных раманаў зь лішнімі пэрсанажамі – па-просту ўмярцьвілі. Іншая справа ў ВКЛ. Шматлікія і ўплывовыя магнацкія роды гэтай краіны імкнуліся знайсьці сваіх продкаў побач з родапачынальнікамі вялікіх князёў літоўскіх. У выніку мы маем ня проста двух братоў у атачэньні галоўнага героя генэалягічнай легенды, а цэлых 500 сем'яў.

Цяжка ўсё ж пісаць невялікія абагульняльныя кнігі – трэба за падмурак браць піраміду працаў папярэднікаў... Аналізаваная кніга далёкая ад такіх падыходаў. Шмат якія назіраньні ды высновы ў ёй слушныя, але іх галоўны недахоп у тым, што яны відавочныя. Кніга не падсумавала вынікі ранейшай гістарыяграфіі ды не адкрыла шляхі да фармуляваньня новых праблемаў. Чытаецца кніга з такой самай лёгкасьцю, зь якой і забываецца.

**Валеры Пазьнякоў**

# Сто беларускіх кніг XX ст.

## Чарговыя зьмены ў рэйтынгу "Нашае Нівы"

Чытач "НН" Ван Дзік Матусевіч зь Менску піша: "Ня ведаю, ці стаў бы я сьвядомым беларусам, калі б бабка не чытала мне перад сном беларускія кнігі. Успамінаюцца дзьве: "Беларускія народныя казкі. Каток – залаты лабок" і "Ніхто не забыты, нішто не забыта. Успаміны дзяцей Вялікай Айчыннай Вайны". Шкада, але апошняя згубілася. А вось тыя самыя казкі я цяпер чытаю сваім дзецям перад сном разам з "Касяй у школцы".

Уладзімер Жаўняк з Мар'інай Горкі: "Параіўшыся ўсёй сям'ёй, мы вырашылі ўнесьці і сваю прапанову ў гэтае складанае пытаньне".

Наш аўтар Алесь Аркуш называе, паміж іншым, і кнігі аўтараў XIX ст., і кіруецца мабыць тым, што як кнігі, прынамсі, па-беларуску яны зьявіліся толькі ў XX ст.: Я.Баршчэўскі. Шляхціц Завальня; С.Пільштынова. Авантуры майго жыцьця. Першым сярод аўтараў нашага рэйтынгу Аркуш згадвае паэтаў Яўгенію Янішчыц (кніга "Пара любові і жалю"), Раісу Баравікову ("Каханьне") і Уладзімера Някляева ("Наскрозь"), а таксама самога сябе (аповесьць "Vis Major", наколькі ведаю, асобнай кнігай яшчэ не выходзіла).

Сяргей Шупа склаў сьпіс і пры гэтым зазначыў, што гэта – "не намінацыі на выбар адназначна бясспрэчных і аб'ектыўна лепшых кніг стагодзьдзя, а хутчэй мой суб'ектыўны вобраз Беларусі ў кнігах".

У Шупавым сьпісе адлюстраваныя найперш зацікаўленьні аўтара як мовазнаўцы, таму тут так шмат слоўнікаў і моўных даведнікаў, часам зусім спэцыяльных. Увогуле С.Шупа назваў каля трыццаці кніг, якія раней ня згадваліся. Ёсьць сярод іх і кнігі ўнівэрсальнага культурнага значэньня, такія як "Пуцявіны роднага слова" С.Александровіча і экcклюзыўныя навуковыя (напр., "Беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом" А.Антановіча), і тыя, што яшчэ не зьявіліся ў выглядзе кніг ("Дзёньнік спадара Дэкарта" І.Бабкова), і тыя, што прадстаўляюць іншамоўную беларусістыку ("Byelorussian Statehood" З. і В. Кіпеляў альбо "Рождение Белорусской советской республики" В.Круталевіча), і зборнік гэбісцкіх пасквіляў В.Мацкевіча "У тым сьвеце", і кніга, якая, здаецца, існуе толькі ў адным асобніку – В.Ластоўскі. Зямля крыві.

"Дзеля "фарматных" абмежаваньняў, – заўважае С.Шупа, – у сьпіс ня трапілі Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Генадзь Кісялёў, Арсень Ліс – яны бясспрэчна ўпісваюцца ў "вобраз", аднак мне цяжка выбраць паасобныя кнігі, якія б найвыразьней азначылі іхную творчасьць".

Каб "пазьбегнуць самарэклямы" С.Шупа пакінуў перакладныя кнігі "па-за бортам" сьпісу. Хоць, на ягоную думку, Васіль Сёмуха, напрыклад, як творца і літаратар несправядліва выпіхваецца за межы "беларускай літаратуры".

Яшчэ адзін аўтар "НН" Андранік Антанян піша, што "Сто найменаваньняў беларускіх кніг так і не набраў, хоць і вельмі намагаўся... Хто пераклаў на беларускую мову апавяданьні Уільяма Сараяна прыгадаць не магу, зрэшты гэта ня так і істотна. Сэнтымэнт да гэтай кніжкі маю толькі таму, што апавяданьні У.Сараяна – гэта адзіная кніжка на армянскай мове, якая ёсьць у маёй хаце. І беларускі пераклад – першая (і здаецца адзіная) кніжка на беларускай мове, якую прыдбаў мне бацька".

А.Антанян называе шмат кніг (таксама каля трыццаці), якія раней у допісах нашых карэспандэнтаў ня згадваліся, хоць большасьць зь іх – дастаткова вядомыя кнігі Я.Брыля ("Сірочы хлеб"), Я.Купалы ("Над ракой Арэсай"), Р.Семашкевіча ("Бацька ў калаўроце"), Ядвігіна Ш. ("Золата") або Ф.Янкоўскага ("І за гарою пакланюся", "Само слова гаворыць"). Таксама Антанян згадвае шмат кніг сваіх літаратурных раўналеткаў. Дзякуючы яму, у сьпісе зьявілася зусім новая кніга выдавецтва "НН" –"Гарт. Саюз Беларускіх Патрыётаў".

Застаецца падвесьці чарговы вынік. Агульны сьпіс кніжнага рэйтынгу "НН" сёньня складаюць 579 назваў. Зь іх 10 і болей галасоў атрымалі наступныя (дзеля эканоміі месца імёны аўтараў не называюцца, у дужках – колькасьць пададзеных галасоў):

Абдзіраловіч. Адвечным шляхам (10)
Адамовіч, Брыль, Калесьнік. Я з вогненнай вёскі (11)
Аляхновіч. У кіпцюрах ГПУ (16)
Арлоў. Таямніцы полацкай гісторыі (12)
Арсеньнева. Пад сінім небам (16)
Багдановіч. Вянок (24)
Беларусь. Энцыкляпэдычны даведнік (12)
Быкаў. Знак бяды (19)
Быкаў. Сотнікаў (14)
Віцьбіч. Плыве з-пад сьвятое гары Нёман (15)
Гарун. Матчын дар (11)
Гарэцкі. Гісторыя беларускай літаратуры (13)
Гарэцкі. Дзьве душы (11)
Гарэцкі. Рунь (15)
Геніюш. Ад родных ніў (10)
Геніюш. Споведзь (22)
Дайнека. Сьлед ваўкалака (10)
Ермаловіч. Па сьлядах аднаго міта (15)
Ермаловіч. Старажытная Беларусь (20)
Ігнатоўскі. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (15)
Караткевіч. Дзікае паляваньне караля Стаха (20)
Караткевіч. Зямля пад белымі крыламі (12)
Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім (16)
Караткевіч. Хрыстос прызямліўся ў Гародні (12)
Караткевіч. Чорны замак Альшанскі (16)
Кіпель. Беларусы ў ЗША (10)
Колас. На ростанях (12)
Колас. Новая Зямля (21)
Купала. Жалейка (16)
Купала. Спадчына (17)
Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі (11)
Ластоўскі. Кароткая гісторыя Беларусі (16)
Ластоўскі. Падручны расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік (13)
Маўр. Палескія рабінзоны (13)
Мележ. Людзі на балоце (16)
Разанаў. Вастрыё стралы (10)
Сагановіч. Невядомая вайна (18)
Смоліч. Геаграфія Беларусі (18)
Сямашка. Армія Краёва на Беларусі (10)
Тарасаў. Памяць пра легенды (15)
Тарашкевіч. Беларуская граматыка для школаў (22)
Ткачоў. Замкі Беларусі (11)
Туронак. Беларусь пад нямецкай акупацыяй (16)
Цётка. Хрэст на свабоду (10)
Чаропка. Імя ў летапісе (12)
Энцыклапэдыя гісторыі Беларусі. Т. 1, 2 (13)

Усе наступныя зьмены ў сьпісе залежаць толькі ад Вас, нашых чытачоў. Нагадаю, што Вам ужо неабавязкова называць усе сто кніг. Вы можаце выказаць Вашую згоду або нязгоду з тым сьпісам, які надрукаваны сёньня і прапанаваць свае дадатковыя пазыцыі. Чакаем Вашых лістоў.

**Крыт.**

ПОШТА

# Добры дзень, мая ўлюбёная "НН"!

Маю ўвагу прыцягнуў артыкул Надзі Старавойтавай "Каб не зрабіцца латафагамі" (№25-26 ад 28.07.97). Цяжка не пагадзіцца з аўтаркай: нашая мова згвалчаная, зьнявечаная спробамі штучна наблізіць яе да расейскае. І бясспрэчна, што трэба яе адраджаць. Вось толькі якімі шляхамі?

Прыгожыя, сакавітыя словы сустракаюцца на старонках летапісаў. Але ці заўсёды варта цягнуць іх у сучасную мову? Мова – жывы арганізм, які разьвіваецца і зьмяняецца паводле сваіх уласных законаў, і рэанімаваць мову XVI ст. гэтак жа недарэчна, як і намагацца для паўсядзённага ўжытку ўзнавіць тагачасны побыт.

Іншая справа, калі гэтыя законы былі зьмененыя гвалтоўна. Гэты працэс пачаўся ў 30-я гады нашага стагодзьдзя і працягваецца дагэтуль. Таму менавіта 30-я гады трэба ўзяць за пункт адліку і паглядзець, што з нашае мовы зьнікла, што трапіла туды чужога, непажаданага. Прыкладам, параўнаць слоўнікі, выдадзеныя Інбелкультам, зь Беларуска-рускім слоўнікам Кандрата Крапівы і з больш позьнімі савецкімі выданьнямі. Шмат што адразу стане на свае месцы. А словы, якіх не хапае (бо грамадзтва ж таксама разьвіваецца, узьнікаюць новыя паняцьці і зьявы), трэба стварыць нанова.

Але ў працэсе ачышчэньня мовы трэба таксама ведаць меру. Бо некаторыя "крутыя" нацыяналісты кінуліся ў адваротную крайнасьць, імкнучыся штучна аддаліць беларускую мову ад расейскае. Вядома, можна сказаць "брунатны" замест "карычневы" і "брутальны" замест "жорсткі", а нават "вадаплаў" замест "карабель" і "лётнішча" замест "аэрапот". Але ці абавязкова? Хіба што ў якасьці палітычнага акту (каб "маскалі" не зразумелі). Але я, напрыклад, не магу патлумачыць, чым палянізмы, украінізмы ды іншыя запазычаньні лепшыя для мовы, чым русізмы. Усё адно чужое, ня нашае. І ці варта выкрэсьліваць слова зь лексыкону толькі таму, што ў беларускай мове яно мае такі ж корань, як і ў расейскай?

І яшчэ адзін важны аспэкт у вяртаньні мове яе сапраўднага аблічча. Існуе пашыраная думка, што беларуская мова, маўляў, розьніцца ад расейскае толькі лексыконам. Вазьмі слоўнік, вывучы пэўную колькасьць словаў, і ты ўжо зможаш гаварыць па-беларуску. І гэтую грубую памылку робяць нават шчырыя адраджэнцы. А як жа граматыка?!! А яна мае характэрныя адрозьненьні і ў марфалёгіі, і ў сынтаксысе. Я ня буду спыняцца на іх падрабязна, бо кожны можа ўзяць граматыку Б.Тарашкевіча і паглядзець, як правільна скланяюцца беларускія словы, як павінны ўжывацца прыметнікі, прыслоўі, якое мае быць кіраваньне дзеясловаў, як адбываецца словаўтварэньне. А яшчэ лепей пачытаць кніжку Станіслава Станкевіча "Русіфікацыя беларускай мовы ў БССР". У тым і бяда, што не бяруць і не чытаюць.

Ці ня часта даводзіцца вам чуць жахлівыя словы-мутанты, накшталт "перажываемы момант" (трэба "перажываны"), "пачаўшаяся канфэрэнцыя" (трэба "канфэрэнцыя, якая пачалася"). А чаго варты зварот "Грамадзяне адпачываючыя!" ("Граждане отдыхающие!").

Бог зь імі, калі так гавораць чыноўнікі. Але крыўдна і балюча сутыкацца зь няведаньнем мовы ў незалежных выданьнях. У мяне ў руках кніга Дж.Эйчысан "Гаваркія істоты" (пераклад з ангельскай). Разгортваю наўздагад, трапляю на старонкі 168-169. Сустракаю тут: "плыві па цячэньні" (па-беларуску "течение" — "плынь"); "хаця" (трэба "хоць"); "інтрыгуючы выпадак" ("выпадак, які інтрыгуе"); "Пэгі настроена... на мову" (трэба "настроеная"), "яны так шчыльна пераплецены" (трэба "пераплеценыя", скарочаныя прыметнікі ўласьцівыя расейскай мове, а не беларускай); "значна менш яснасьці [у пытаньні]" ("ясным" бывае дзень, а пытаньне – "зразумелым"). І гэта ўсё толькі на дзьвюх старонках у кнізе, спэцыяльна прызначанай для лінгвістаў!! Далей у тэксьце часта сустракаюцца словы "іменна" (менавіта) і "гаворачы" (той, хто гаворыць)...

На жаль, часьцяком ігнаруюць граматыку нават тыя, каго цяжка западозрыць у няшчырым стаўленьні да беларускай мовы. Возьмем гэты ж самы нумар "НН" (№25-26) і прачытаем назву артыкула: "Думка вымаўленая ёсьць хлусьня". Па-першае, ненатуральны для беларускай мовы парадак словаў. Трэба было б "вымаўленая думка". Па-другое, у гэткай сынтаксовай канструкцыі дзеяслоў патрабуе пасьля сябе творнага склону: "ёсьць хлусьнёй". Вы скажаце, гэта цытата зь Цютчава. Хай так. Але ж Цютчаў пісаў па-расейску. Калі вы падаяце цытату ў перакладзе, то гэты пераклад мусіць адлавядаць нормам беларускай мовы. Людзі, што ўжываюць перакладаныя цытаты, чамусьці імкнуцца захаваць памер і рытм арыгіналу, нават на шкоду беларускай мове. Навошта?! Хіба так мы абыходзімся зь нямецкімі або ангельскімі цытатамі?

Тут я бачу адразу дзьве праблемы. Першая: рабства нашага розуму перад расейшчынай. І другая: ня ведаем мы ні Коласа, ні Купалы, ні народных прыказак ды прымавак, што маглі б для нас быць крыніцай трапнага слова. Вось і згадваем звыкла Пушкіна, Цютчава і расейскія "пословицы".

Калі чалавек цяжка паранены адразу ў галаву і ў сэрца, дык доктар лечыць адразу дзьве гэтыя раны, каб хворы не сканаў. Гэтак і пашкоджаньні ў граматыцы для мовы ня менш балючыя, чым страты ў лексыцы. А можа нават і больш. Бо ўвесь лад мовы вызначае менавіта граматыка, яна ёсьць тым каркасам, на які "навешваецца" лексыка. А між тым у нас усе актыўна "лечаць" толькі лексыку, пакідаючы граматыку спакойна атрафавацца.

**З павагай, Ю.Дзям'янека**

## Даведкі

# Лацінка

**Мяне цікавіць інфармацыя пра лацінку. Дзе яе можна ўзяць?**

*Алесь, Гомель*

*На гэтае пытаньне для "НН" пагадзіўся адказаць мовазнаўца Антось Кузьміч:*

Нягледзячы на цікавасьць да гэтае тэмы, паводле нашых зьвестак, ніхто, на жаль, не рыхтуе сур'ёзнага выданьня пра беларускую лацінку. Больш таго, ніводнае вычарпальнае кніжкі альбо падручніка на беларускай лацінцы ня створана дагэтуль. Таму, каб даведацца пра гэтую графіку нешта большае, даводзіцца зьбіраць зьвесткі з розных кніжак і напэўна карыстацца бібліятэкай.

Беларускія тэксты, выдадзеныя лацінкаю, лягчэй знайсьці праз каталёг "Пэрыядычныя выданьні лацінкай да 1969 г." і проста "Лацінка да 1969 г." у беларускай залі Нацыянальнай бібліятэкі. За апошнія гады тэксты лацінкаю друкаваліся ў "Нашай Ніве", першых нумарах "Пагоні", у часопісе "Хрысьціянская думка" (у канцы кожнага нумара зьмешчаная абэцэда беларускай лацінкі), а таксама ў часопісе "Спадчына" і гісторыка-літаратурным зборніку "Шляхам гадоў" (Менск, 1993).

Да згаданых раней у "НН" (№12-13, 1997) кніжак, дзе ёсьць больш поўныя зьвесткі пра лацінку (Энцыкляпэдыя "Беларуская мова". – БелЭн, 1994; Я.Станкевіч. Лемантар пераходны з лацініцы на кірыліцу. – Менск, 1941; Ф.Янкоўскі. Гістарычная граматыка беларускай мовы. – Менск, 1983/89; В.Пашкевіч Fundamental Byelorussian Т. 1-2. – Таронта, 1974-78) можна дадаць бібліяграфічны паказальнік "Беларускае мовазнаўства", выдаваны ў Менску ў 1967, 1980, 1993 г. (гл. разьдзел "Графіка"). Зьвесткі пра лацінку ёсьць і ў найноўшых падручніках беларускае мовы (Сучасная беларуская мова. – Менск, 1995; Сучасная беларуская літаратурная мова. – Менск, 1993), у адпаведных разьдзелах "З гісторыі беларускай графікі".

# Розныя сродкі беларусізацыі

Нітрафарба — рэч дарагая. Але патрыёты за цаной не пастаяць, і вось мы бачым муры, запэцканыя вялікім асартымэнтам лёзунгаў: "Жыве Беларусь!", "Наш дом Беларусь", "Незалежнасьць", "Тут не Расея" і г.д. Так, калі бачыш родны лёзунг, душа радуецца: я не адзін, у горадзе ёсьць яшчэ патрыёты, нас шмат і "Беларусь яшчэ ня ўмерла". Да таго ж ёсьць нейкая надзея, што лёзунгі паўплываюць на людзей, увойдуць у падсьвядомасьць тых, хто схільны да зомбінгу і не жадае сам задумвацца над сваім лёсам.

Дарэмна! Людзі паставяцца да такіх надпісаў ня болей сур'ёзна, чым да калісьці болей паўсюдных лёзунгаў "Слава КПСС!" Нашыя лёзунгі ўспрымуць астатнія патрыёты, а расейскамоўным абывацелям яны будуць да лямпачкі. Такім чынам, нітрафарба вельмі дарагая рэч для Адраджэньня, каб марнаваць яе ўпустую — на лёзунгі. Але можна ставіць перад сабою і іншыя Масква мэты Адраджэньня — болей карысныя і з цалкам канкрэтным вынікам.

У краіне дзьвюхмоўе. Шмат каму лягчэй разумець гэта так: "Можна карыстацца любой зь дзьвюх моваў, ня ведаючы другую". Але гэткая фармулёўка непрыймальная для Адраджэньня, бо не спрыяе існаваньню беларускай нацыі.

Краіну запаланілі расейскія надпісы — шыльды крамаў ды фірмаў, рэклямныя шчыты, паказальнікі населеных пунктаў, шыльды на прыпынках, шыльды з назвамі вуліц,, надпіс "Не прислоняться" у электрычцы ці мэтро і г.д. А адраджэнец, маючы балёнчык з фарбай, крэмзае пустыя воклічы і думае, што ад гэтага надыдзе Адраджэньне, якое сьцярэ расейскія надпісы. Я думаю, што гэты імпэт трэба скіроўваць у рэчышча культуры, напрыклад, прапаноўваць зацятым русафілам, якія ня ведаюць беларускае мовы, добрыя пераклады іхнае рэклямы і назваў іхных фірмаў ды ўстановаў. І тады ня трэба будзе палітыкі, мітынгаў, месцаў у парлямэнце, законаў ды судоў!

Можна таксама зрабіць карысьць і простым людзям, напісаўшы на доме адсутную там назву вуліцы (вядома, па-нашаму).

У Беларусі — дзьвюхмоўе, г.зн. дзяржаўныя мовы — і расейская, і беларуская, якую ніхто не забараняў. Таму, калі на новых шыльдах ня будзе надпісаў па-беларуску (хаця б разам з расейскімі), мы зноў будзем бараніць Канстытуцыю.

**В.С.**

ERRATA

# Адседка, адседжваньне, адседжаньне

Наноў актывізаваны апошнімі гадамі размоўны беларускі назоўнік *адседка* 'адбываньне пакараньня ў турме' зазнае на пісьме і ў вусным маўленьні недарэчнага скажэньня. Натыкаемся між іншага ў газэтах: Заявіўся ў рэдакцыю пасьля дзесяцімесячнай адсідкі Славамір Адамовіч (ЛіМ. 11. 07. 97); Так бы мовіць, на адсідку таго тэрміну, які яму ў красавіку 1941 году "прыпаяла" сталінска-берыеўская дзяржава (Народная воля. 12. 07. 97). Насуперак традыцыйнай слоўнікавай фіксацыі (прыкладам, ва ўсіх выданьнях "Русско-белорусского словаря" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П.Глебкі), пад уплывам расейскай формы *отсидка*, утворанай ад дзеяслова *отсидеть*, беларускі назоўнік выступае ў пададзеных прыкладах зь нематываваным галосным у корані. Адзінымі правільнымі ў беларускай мове вытворнымі ад дзеясловаў закончанага і незакончанага трываньняў *адседзець / адседжваць* могуць быць назоўнікі толькі з каранёвым *[е]*. Апрача лексэмы *адседка*, са значэньнем 'адбываньне пакараньня ў турме' могуць выступаць назоўнікі *адседжваньне* (пры незакончаным дзеяньні) і *адседжаньне* (пры закончаным дзеяньні). Дзьве апошнія лексэмы характарызуюцца традыцыйнай беларускай аддзеяслоўнай формай на *-ньне*, а таксама значна меншай у параўнаньні з назоўнікам *адседка* экспрэсіяй.

# Гатовасьць, гатоўнасьць

У датаваных 1963 годам "Беглых запісах" шліхаваньнік нашае мовы Ян Скрыган выказаў між іншага сумнеў у апраўданасьці назоўнікавай формы *гатоўнасьць*: "Гатовы, гатоўля, загатоўля, гатаваць, гатоўка, нагатове, напагатове – нідзе няма "н". То, мабыць, правільна было б і пісаць гатовасьць". Як відавочнае запазычаньне з расейскага *готовность* трактуе беларускую форму *гатоўнасьць* і "Этымалягічны слоўнік беларускай мовы". Аднак, беручы пад увагу факты старабеларускай мовы, гаварыць пра расейскае паходжаньне формы з фармантам *-н* усё ж не выпадае. Найхутчэй, форма *готовность* узьнікла ў старабеларускай мове самастойна, прынамсі, няма фактаграфічных падставаў сьцьвярджаць, што лексэма з фармантам *-н* паявілася ў маскоўскай мове раней, як у старабеларускай. Наагул жа, для беларускай пісьмовай практыкі XV-XVII ст. характэрнае паралельнае ўжываньне формаў *готовость* і *готовность* (цытаты паводле "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы" (графіка часткова спрошчаная): где бы час певны і местъце збираня войска в листехъ наших не было ωзнаймено, толко ω готовость на войну листы высланы были, тогды предся роки мают быт сужоны (Статут ВКЛ 1588 году); потреба зъ многихъ причинъ, злаща, для готовности против тому неприятелю (Акты з 1554 году)). Аналягічнае суіснаваньне формаў *готовость* і *готовность* характэрнае і для расейскага пісьма ажно да XIX ст., калі там пакрысе назначылася тэндэнцыя на мінімізацыю ўжытку формы *готовость*. Наадварот, у беларускай літаратурнай мове першай траціны XX ст. дамінуе другая гістарычная форма — *гатовасьць*, што й зафіксавана, напрыклад, "Расійска-беларускім слоўнікам" (1928) С.Некрашэвіча і М.Байкова (параўн., таксама без фарманта *-n* - польскае *gotowość*, чэскае *hotovost*, славэнскае *gotovost*, славацкае *pohotovost'* і г.д.). Распачатае ў 1930-ыя гады выраўноўваньне паасобных беларускіх формаў пад расейскія закранула і лексэму *гатовасьць*. Да канца 1980-ых правільная, характэрная для жывой народнай мовы форма практычна не ўжывалася на пісьме ў Савецкай Беларусі. Аналягічнага выціскаavanьня зазнала і ўкраінская форма *готовість*, якая, саступіўшы паводле частотнасьці форме *готовність*, аднак, усё-такі засталася ў мове мастацкай літаратуры і ўкраінскіх слоўніках. Мы ж можам адзначыць ужываньне формы *гатовасьць* у мове беларускай эміграцыі (У Рамановым нутры ўзьнялося ўсё корзюкаўскае: зьвярынае вычуцьцё радзіннай крыві, на якую цяпер замахваецца вораг, *гатовасьць* абараніць яе за ўсякую цану, разьюшанасьць і шчымлівы жаль (М.Сяднёў)). З пачатку 90-ых форма *гатовасьць* сустракаецца і ў паасобных арыгінальных і перакладных тэкстах, рыхтаваных у Беларусі (Калі ён сказаў пра гэта Джуліі, яна згадзілася зь нечаканай *гатовасьцю* (Дж.Оруэл у перакладзе С.Шупы)).

Словаўтваральная правільнасьць формы *гатовасьць*, традыцыя яе ўжываньня выступаюць перадумовамі будучага суіснаваньня яе ў сучаснай беларускай літаратурнай мове з формай *гатоўнасьць*, таксама, паўторымся, гістарычна беларускай. Для пашырэньня формы *гатовасьць* патрэбная яе слоўнікавая фіксацыя: ні ў водным выдадзеным у паваеннай Беларусі перакладным або тлумачальным слоўніку такой формы проста няма.

**Юрась Бушлякоў**

# ЭПІКОН

## ДЗЯНІС ЛІСЕЙЧЫКАЎ
## МЭТАМАРФОЗА

Раб заплакаў...

Кайданы ня вытрымалі, хруснулі, лінула кроў. Ейныя чырвоныя пісягі прыгожа й страката расплываліся на сьвежым сьнезе. З мэлядычным звонам, куляючыся ў паветры і гуляючы іржавым пералівам фарбаў, ляцелі злучвы ланцуга. "Шорх! Шорх" — акуратна й сплянавана падалі яны ў поўны радасьці й п'яны ад крыві сьнег. На белым фоне рудыя колцы кайданаў складаліся ў геамэтрычны, дакладна прадуманы ўзор пераможанае сьмерці.

Вольныя, брудныя ад мэталу й іржы рукі радасна напружыліся. Моц, прага да жыцьця адчувалася ў кожнай клетцы. Шчасьлівыя вочы спагадліва паглядзелі на разламаны ланцуг, на які хвіліну таму глядзелі зь нянавісьцю й злосьцю. Асьцярожна, быццам баючыся абпаліць скуру, правая рука падняла мэталёвую кружлінку, з вострым пахам іржы, далоні з прытоенаю пяшчотаю трымалі некалі агідную рэч. Няшкодны мэтал пакідаў на далонях мяккую карычневую паску. Быццам нешта ўзгадаўшы, рука апусьцілася. Колца бездапаможна кульнулася й грацыёзна торкнулася ў сьнег...

Чалавек сьмяяўся...

## РУСЛАН РАВЯКА
## ПРА САБАК

Сабаку я застрэліў каля ўзьлесься. Паклаў адным стрэлам, у галаву. Добра мець добрую вінтоўку. Лепш, чым стрэльбу нейкую. Зброю прывалок яшчэ бацька, як вярнуўся зь "лясных братоў". Але ня доўга пабыўся ў хаце — з гадзіны тры, адмысловыя віжы наскочылі, рукі завярнулі, ды ў машыну — на горад. Адтуль татка ўжо не вярнуўся.

Матка пагаравала з гадкоў пяць і таксама адышла, шукаючы лепшай долі, у іншы сьвет. Брат мой па бацьку розумам пайшоў, паехаў у горад, на пошукі старога, дый адным махам павучыцца тамака застаўся. Пасьля прыехаў у гэткім самым адзеньні, як у віжоў адмысловых, што татку некалі зьвязьлі. Пра пошукі таткі распавядаў. Колькі ж мучыўся, колькі ж папер перагледзеў, колькі люду распытаў (бо праца ў яго такая — людзей распытваць), але пра старога так нічога і ня вынайшаў. Мяне пасьля таго, як самагону хлынуў, намаўляў. Маўляў, кідайма хату, вёску і едзьма да гораду. Да сябе на працу абяцаў забраць. Ды куды ж я паеду. Тутака гаспадарка — хата ды плот з гародчыкам, калгас. У дровах машынка гарэлачная схаваная, з бацькаваю вінтоўкаю. Адмовіўся.

Брат мяне "дурнем" нарок, і зьехаў. Можа й так. З маленства мяне гэтак празвалі, я ня вельмі й крыўдаваў. У школку не хадзіў, падручнікаў не чытаў, чырвоных шалікаў не насіў. Як нарадзіўся непісьменным, гэтак і пamру — якім Бог паслаў такім і застаўся.

Праз год ізноўку прыехаў брат, разам зь сябруком. Абсдва ў адзеньне адмысловых віжоў апранутыя, што некалі татку схапілі, і ў якім ужо летась прыяжджаў. Толькі зорачак на плечукох не пароўну.

Гарэлку прывезьлі, я ім сваю паставіў, на бульбе выробленую, што ўзімку з калгаснага поля ўкраў, а на прыкуску тую ж бульбачку. Папілі яны, паелі, і пачаў браток мяне зноўку ўгаворваць у горад цягнуцца. Я ім адказаў, маўляў, на халеры мне той горад; тутака калгас, за добрую працу абяцаў мех буракоў навесну даць, як застануцца ў буртох.

Тым часам сябрук брата ў прыбіральню пацягнуўся. Адзіная яна ў ваколіцы была — бацька чалавек разумны быў, шляхетны, некалі паставіў, а як зь лесу прыйшоў, дык рамантаваць пачаў, пасьля хату думаў пачаць, ды не атрымалася — зьвезьлі, як ведама, няведама куды.

Пасьля раптам прыбег той сябрук, ды прывалок з прыбіральні кніжку бяз вокладкі. На стол каля талерак і відэльцаў шпурнуў — сьвіньня, сам ня гідзіцца, дык іншых спаскудзіў.

Яны гэтак амаль адразу ў горад і паехалі. Брат нават і не разьвітаўся. Мабыць кніжка тая ўразіла, бо з сабою забралі. Я яе з бацькавага куфра дастаў — стары некалі закапаў, а я поркаўся ў гародчыку і знайшоў. Нашто ж дабру гінуць —вокладку зьдзер і ў прыбіральню на цьвік прыстасаваў. Гэтак ўжо колькі іх выкарыстаў. Бацька разумны чалавек быў, а да такога не дадумаў.

А ноччу тою, як брат другі раз зьехаў, мой сабака размаўляць пачаў. Во дзе дзіва! Падыйшоў да ложку і кажа: "Дурнем нарадзіўся, дурнем і здохнеш. Брат твой цябе ратаваў, на працу да адмысловых віжоў пайшоў, а цябе хто прасіў бацькавы кнігі чапаць. Хай бы сабе гнілі ў зямельцы".

Ранкам я застрэліў сабаку, каля ўзьлеску. Адно калі людзі дурнем клічуць, а іншае — сабака. Дзе гэта бачана, каб жывёла істоту вышэйшую аблайвала рознымі словамі ня вельмі добрымі.

Калі вяртаўся да сваёй хаты, убачыў віжоў адмысловых, што па двары маім швэндаліся, ды ў хату злодзеямі ўлезьлі. Усё нешта шукалі. Патронаў у мяне хапала... Але ж мабыць зарана бацька вінтоўку сваю ў дровы схаваў.

## ЗЬМІТРО СІДАРОВІЧ
## КАЛЯДНАЯ ЭРОТЫКА

У галаве шматкі ўспамінаў. Капаюся ў кучы дэталяў. Згадаць кожную падрабязнасьць цяжка... Але трэба.

Кароткая шрубка ўкруцілася ў гайку. Дэталь. Гэта ўжо было? Гэта было ў ноч на Новы год, і шампанскае п'янавацілa, і дзявочае тулава было па-вар'яцку блізкім, гарачым, спакусьлівым. Ногі ўкруціліся ў чаравікі. Гэта мае. Ногі ўкруціліся ў панчохі. Гэта яе. Талія ўкруцілася ў тонкую сукенку, з-пад якой выкручваліся ногі. Вочы выкручваліся з вачніц. Гэта мае вочы. Са шклянкі выкручвалася шампанскае і ўкручвалася ў горла, каб потым укруціцца ў мазгі. Гэта нашы мазгі.

Усё было далікатна. Тады я дастаў скручаныя шрубку і гайку і паклаў перад ёй на стол. Яна ўсё сьцяміла і пачырванела. "Цяпер?" — ціха спытала яна. Я кінуўся тлумачыць: "Разумееш, гэта М16, страшэнна важная штука..."

Яна ўздыхнула і рашуча паднялася. Я падхапіўся сьледам. "Не, ты сядзі, прашу цябе," — папрасіла яна. Я сказаў: "Добра, я сяду". Я сеў. Сеўшы, я сказаў: "Ну вось бачыш, я сеў". Яна кіўнула. Я з гатовасьцю падхапіўся. "Ня трэба, ня трэба..." — спыніла яна мяне прыгожым рухам далоні. — Я сама... Як ты не разумееш... Гэта так важна..."

Я перавёў дых і адкінуўся на сьпінку крэсла. Яна мужна пад маім позіркам прайшла ў вітальню.

Яна больш не прыйшла зь вітальні. Яна і цяпер сядзіць там.

"Давайте восклицать!"

"Ах!" — усклікнуў я. "Вой!" — сказала яна. "Ах!" — усклікнуў я.

Яна казала сваё "вой" усё цішэй і цішэй. Мне стала яе шкада. "Слухай, ты там... Ты чаго?.." — спытаў я ціха. Яна ледзь чутна сапела. Потым уздыхнула і перавалілася набок. Спружыны зарыпелі — канапа была старая. Я пайшоў бліжэй. "Ты чаго?" —паўтарыў я сваё пытаньне. Яна зь нянавісьцю паглядзела на мяне.

Я пацiснуў плячыма і апусьціўся ў фатэль. Побач стаяў тэлевізар. Я ўключыў яго. Восьмы канал браўся са сьнегам. Я пераключыў на Астанкіна. Там сядзела Міткова. "Прывітаньне, Міткова!" — сказаў я. Міткова не пачула. "Ах!" — прызыўна ўсклікнуў я. Міткова ўпарта не зьвяртала на мяне ніякай увагі.

Тады я зноў зірнуў на канапу. Там нікога не было. Я ўздыхнуў.

З кухні пачуўся гук. Я кінуўся туды. Так і ёсьць — яна чэрпала лыжкай маё ўлюбёнае сочыва! "Пастаў слоік на месца, — пагрозьліва прарычэў я. — Лічу да трох..." "Два ўжо было!" —нахабна адказала яна з поўным ротам.

Вось жа ведае, што я ёй нічога не зраблю.

А ўсё таму, шото мы вырасьлі на адных і тых жа песьнях Акуджавы.

## ІГАР СІДАРУК
## ПІЦА КОТКАМ НЕ НАЕДАК

У яго заставалася яшчэ адна нырка. Яе Тод бярог, ня мог. "Цік-так, цік-так", — мерна цікала яна, бы швэйцарскі адладжаны гадзіньнік. І яму гэта падабалася.

***

Тодар, зглынаючы галодныя сутаргі, капаўся ў сьмецьцевым баку, даставаў і еў адтуль, што было ежаю калі заўгодна, толькі ня сёньня. Апошнія пяць даляраў ён аддаў яшчэ на тым тыдні той, якая прыходзіць. Яна ледзь не адзіная з усіх гэтых, хто да яго бязножжа ставіўся індыфэрэнтна. (Урэшце, калі жанчына чуе шоргат гэтых самых зямліста-зялёных паперак, яна шмат да чаго можа ставіцца індыфэрэнтна. Усё залежыць ад таўшчыні вашае магалейкі, ці ня так?)

Сёньня Тоду пашанцавала: пад бананаваю скажуркаю ляжаў досыць важкі недаедак піцы. Яшчэ раней на паркавай тэрасе ён натрапіў на плястыкавы балён зь цёплымі рэшткамі колы. Гэта ўжо цягнула на сапраўднае банкетаваньне.

Прыцiснуўшы падбародзьдзем піцу, Тод зубамі ўзяўся за белы корак балёну, а вольнаю рукою (гм, калі яна ў вас адзіная, то якім словам назваць адсутную?..) пачаў павольна адкручваць бутэльку. Здаецца, усё атрымалася трапна. Тод сплюнуў корак і, злаўчыўшыся, ладна кусануў бяззубым ротам халоднага цеста з адубелым расплаўленым сырам. Затым падняў падбародзьдзе, рэшткі працыбуленага праснаку суха грукнулі якраз па дошцы ягонага самаскляпанага возіка. Перакуліў над сабою балён, пачаў лыкаць, а болей праліваць на ашчацінелы брудны твар колу. Заставалася знайсьці адпаведны рытм гэтага зьверавата-прыстойнага наталеньня галадухі.

Недзе па-шаманску замяўчэла ашалелая валацужная котка.

***

Да ўсяго Тод любіў гэты бак, магчыма, нават не зважаючы на тое. Менавіта зь яго калісьці... па шмацьці рэклямных праспэктаў... спачатку нічога не разумеючы... "Купім. Разьлік у СКВ". ... У тэлефоне адказвалі абсалютна няўцямна й блытана. Аднак далі адрас. І Тод пайшоў. Ад чысьціні, бляску, стэрыльнасьці ледзь не званітавала. Там ён таксама... Ня тое, каб так вось, адразу... Але трэба было нешта жэрці. Жракаць! Пхаць ва ўласную ненаедную пашчу ўсялякае, бляха, дзярмо!!!

За палец, за ягоны жывенечкі, цяплюхенькі палец Тодару далі аж (ух, трымайце капелюхі, панове! мацней прыцісьніце іх да вушэй!..) цэлы дваццатнік. Па курсу Нацбанку гэта было натуральнае рабаваньне. На гэтыя грошы Тод жыў крыху даўжэй за два тыдні. І нават неяк вячэраў (потым Тод хваліўся, што мантажыў там цэлы месяц) у местачковай ці не сямнаццаціразраднай — калі б такі разрад прысуджаўся — рэстарацыі ды еў — о-го-го! — ікру з амараў. "Ну?!. Хто з вас яшчэ можа пахваліцца, што еў калі самую! ікру з саміх! амараў?!"

***

Крутыя часіны, аднак, чакалі непадалёк: адразу па выхадзе з рэстарацыі. Асабліва Тод люта незалюбіў саплівых жабракоў-валацужак: ім грошы давалі ні за што, толькі за сінь-глыбінь бессаромных вачэй. Тод так ня мог. Тод нават чытаў газэты.

***

Правай рукі хапіла амаль на паўгода. Гэта было ўжо лепей. Праўда, не сказаць, каб ён разьвітваўся зь ёй зь вялікай ахвотай. Разоў пяць ці шэсьць закідваў: "А можа, такі левую?", аднак ім упарта патрабавалася правая. Да таго ж, левая была з дэфэктам: на ёй не хапала аднаго пальца.

Затым чарга дайшла да нагі. Паступова Тод, што называецца, перайшоў ад содавай да сапраўднага ірляндзкага віскі. Левае вока, верхняя сківіца, ніжняя сківіца, ладны шмат скуры зь седаўкі, адна, а затам і другая скабы, мясістыя тканкі носа. Пасьля ваганьняў (не сказаць, каб пакутных, аднак і не карнавальна-бязважкіх) нарэшце яшчэ адна нага. Нарэшце, нырка...

Прадайце як-небудзь пры нагодзе сваю абсалютна здаровую нырку і вы ўведаеце, што адчуваў Тод.

Аднак вашыя адчуваньні будуць вельмі прыблізнымі. Таму што блізьняшку той, якую хітрэнны Тодар бярог, як мог, у яго проста скралі. Элемэнтарна. Крыху глыбейшая доза наркозу — ці чаго там садыстычна-прымірэнча колюць гэтыя эскулапы?.. — і... Сьвядомы глыток сьвежага паветра ўвайшоў у яго ў рэдкім падлеску за горадам.

У вольнай (ха-ха!..) руцэ — два заціснутых пяцібаксавіка. Нармалёва. Здаецца... Тод асьцярожна абмацаў — вядома, дзе мог дастаць, а паколькі ягонага цела да таго часу значна паменела, то цяжкасьці вялікай гэта ня склала — сваё цела. Яшчэ ніколі гэты рэдкі падлесак ня чуў такога нялюдзкага, сакрушальнага рову. І ўжо нідзе й ніколі Тод ня мог адшукаць нават сьлядоў той стэрыльна-скальпэльнае канторы. Толькі маленькія пазнамкі ад шасьці роўных швоў зь левага боку ўнізе сьпіны не-не ды нагадвалі Тоду аб ёй.

***

У той жа вечар ён жэр дурнаваты, п'яны самагон да зьверападобнага стану. Другія пяць баксаў дасталіся, як вядома, той, якая прыходзіць.

***

Каты, адзічэлыя памыйныя каты напалі на яго нечакана. Піцы, заставалася, можа, на кус-другі. Яе падмялі, падабралі, падлізалі да апошняе крошкі. Аднак прэснае цеста пахла зусім ня так, як чалавек. Як гэтае хадзячае, крыху прасушанае на сонцы мяса, якое так і прасілася ў смуродныя кацячыя ненажэрнасьці.

Тод спрабаваў крычаць, адбівацца, страшна адмахвацца нічога цяпер ня вартым плястыкам. Катоў паболела, яны нечым нават нагадвалі вялізных, апаўсьцінелых глістоў, якія да ўсіх сваіх выгінастаў ды ўзьвіваў маюць дадаць яшчэ шылападобныя іклы ды сьмяртліва-разьдзерныя кіпці. Гэткія мілыя, ласкавыя, кашэчыя кіпцікі..

Плястыкавы балён адляцеў далёка. Тод перакуліўся дагары на сваім вазочку. Нейкі дурны кот зьлізваў з дошкі апошнія кроплі колы. Вусатыя ягоныя хаўрусьнікі вуркаталі, чмякалі, ірвалі па-жывому, зглытвалі, давячыся й адрыгваючы тое, што яшчэ нядаўна было Тодам. Яны дабіраліся да запаветнага свайго ласунку: цёплай, пульсуючай ныркі. "Цік-так, цік-так, цік-так", — нават раскрытая, усё яшчэ мерна цікала яна, бы швэйцарскі адладжаны гадзіньнік.



Здымак Бруса Вэбэра

## ЗА ШТО?..

*Прысьвячаецца Т.С.*

Гонар — заўжды напышлівы ды фанабэрысты.

Годнасьць — заўжды самотная ды незалежная.

Шляхетнасьць — заўжды высакамерныя ды самахвальная.

Слава — заўжды прымхлівая ды нясьціплая.

Прынцыповасьць — заўжды бескампрамісная ды абстрактная.

Справядлівасьць — заўжды дагматычная ды сварлівая.

Дабро — заўжды невыгоднае ды бескарысьлівае.

Вера — заўжды сьляпая ды эгаістычная.

Чалавечнасьць — заўжды лысая ды абшарпаная.

Шчырасьць — заўжды наіўная ды ўтапічная.

Мужнасьць — заўжды ўпартая ды хваравітая.

Геройства — заўжды самотнае ды драматычнае.

Воля — заўжды голая ды беспрытульная.

Розум — заўжды іранічны ды пэсымістычны.

Праўда — заўжды бесстароньняя ды бяздужая.

Любоў — заўжды важкая ды трагічная.

Дык за што мяне кахаць?..

# Турма

# Андрэй Шаптыцкі

## ПРАВАДЫР ПАЛКІХ СЭРЦАЎ

*Прысьвячаецца стральцу УНСО "Рэну"*

Табе, народжанаму ў сям'і сумленных людзей, нашчадкаў старажытнага ўкраінскага шляхецкага роду, у сям'і інтэлігентаў-патрыётаў сваёй Зямлі і сваёй Нацыі,

Табе, што пасьля слова "Мама" вывучыў "Ойча наш",

Табе, які не прызнаваў ніякіх аўтарытэтаў — ні ад улады, ні ад грошай — і дзеля трыюмфу Справядлівасьці ўвесь час і ва ўсякай прыгодзе змагаўся з усялякімі рэжымамі ды адміністрацыямі,

Табе, што заўсёды паніў Жыцьцё Брата вышэй за сваё ўласнае, а Волю — вышэй за Жыцьцё Брата, а Гонар — вышэй за Волю,

Табе, што ніколі ня йшоў на гешэфты з уласным Сумленьнем,

Табе, што ня раз даводзіў перавагу Ідэі над Рэчывам, а Духа — над Целам,

Табе, які ніколі не ўзьнімаў руку на жанчыну,

Табе, які кожны раз рашуча адгукаўся на покліч свайго Лёсу ў імя перамогі агульначалавечых Прынцыпаў,

Табе, які заўжды адчувае ўласную правіну за нязьдзейсьненае і адказнасьць за зробленае,

Табе, якога ніколі не пакідаў доўг перад паплечнікамі, перад тымі, каго ты заразіў сваім ладам існаваньня,

калі Ты ў чарговы раз выйдзеш зь вязьніцы, да немагчымасьці цяжка будзе адшукаць тое Слова, якое Ты мусіш сказаць тым, хто сустракацьме Цябе на волі.

Ты ня здолееш выціснуць зь сябе прыветнае ўсьмешкі, затое Цябе будуць раздражняць іх прыветныя ўсьмешкі, бо Ты ня будзеш падзяляць зь імі радасьці вызваленьня.

Гэтыя людзі лічаць шчасьцем, прыймаюць за вялікую радасьць вызваленьне цела, і Ты будзеш пакутаваць ад немагчымасьці ўцямна растлумачыць ім тое, што зразумеў сам, седзячы ў астрозе. Пасьля першых іх словаў ты адчуеш, як у Табе абуджаецца і мкліва расьце абурэньне, выкліканае легкадумнасьцю іх мовы, ганарлівасьцю тону. А якімі жахлівымі здадуцца Табе гэтыя гарады, шчыльна засьмечаныя офісамі, шапікамі, маркетамі і незразумелаю рэклямай! Цябе непрыемна зьдзівіць адсутнасьць моладзі ў цэрквах, шматлікасьць жандараў на вуліцах, ненажэрнасьць чыноўнікаў. Толькі ўласная годнасьць і пачуцьцё пашаны да свайго імя не дазволяць Табе плюнуць у твар так званым правадырам, партыйным функцыянэрам, якія бесклапотна вітаюць Цябе з вызваленьнем, прадчуваючы магчымасьць скарыстаць з Тваёй славы. Калі Ты сядзеў у турме, гэтыя самыя людзі рабілі выгляд, што не заўважаюць, як Твая маці ашчаджае на ежы і адзеньні, ахвяруючы гонарам шляхцянкі дзеля нармальнага выхаваньня ўнукаў, дзяцей Твайго малодшага брата. Люмпэн-важакі і квазіправадыры, якія дагэтуль б'юцца ў грудзі, хвалячыся здольнасьцю дапамагчы Нацыі стаць паважанаю, а народу — багатым, і пальцам не зварухнулі, каб дапамагчы сем'ям тых, што палеглі за іх спакой, прынесьлі ім славу герояў, каб паклапаціцца пра сваіх зьняволеных падданых або хаця б іх родных.

Аднак Ты Мужчына, Украінец, Афіцэр, Хрысьціянін.

Толькі на хвілю агорнуць Тваё Сэрца сум і смутак, і ніхто не пасьпее заўважыць іх, а зьбянтэжанасьць перад будучыняй так і ня здужае ўварвацца ў Тваю душу, бо раптам Ты сустрэнеш вясёлкава-шчодрыя, сонечна-шчырыя вочы сваіх вучняў і пасьлядоўнікаў, пачуеш свае песьні ў іх выкананьні, даведаесься пра тое, як паважна ставіліся яны да Тваёй сям'і ў час Твайго зьняволеньня, зразумееш усю праведнасьць і справядлівасьць іх веры ў Вышняга.

І хоць Твая каханая не дачакаецца Цябе такою, якою ты пакінуў яе, хоць яе звабяць прынады сьвету, ты ўсё ж не патонеш у хвалях жалю, бо іншыя, такія ж харошыя і юныя, але больш стойкія і чыстыя прыйдуць да Цябе, каб пачуць Тваё Сэрца, спазнаць Тваю Душу, паверыць Твайму Сэрцу. А пачуўшы, спазнаўшы, паверыўшы, падхопяць Твой дэвіз: "Бог! Украіна! Нацыя!", і ён стане дэвізам і іхнага жыцьця.

Што ж, няхай непахісная вера ў Бога і бязьмежная вернасьць Маці-Ўкраіне сьветла палаюць у іхных сэрцах, асьвятляючы шлях маладога племені няскораных да неба, дарогу ў несьмяротнасьць.

А Ты, які запаліў гэтыя сэрцы, абавязаш Сябе, жывым ці мёртвым, але быць іх нязьменным важаком. Бяз жалю пакінеш Ты пакаленьне, да якога належыш, дзеля пакаленьня, якое будзе належаць Табе, і навек станеш правадыром таго арлінага племені, племені маладых і шляхетных, племені палкіх сэрцаў.

*14.02.1997, Магілёўская турма*

Працяг на старонцы 18.

# Цягнік праз пустэльню

## Тацяна Сьнітко

Цягнік меўся адыйсьці а чацьвертай раніцы. Наперадзе заставалася ноч. Усяго некалькі гадзінаў цемры і чужога вакзалу. (Ці бываюць яны ўвогуле "свае", асабліва ўначы?)

Цягнік пераблытаў. Напрамкі, хуткасьці, вакзалы і гарады. Межы, час, што за год ягонага блуканьня ў цемры настаяў экстракт падзеяў. І чужы вакзал — мы хутка гэта адчулі —уявіўся звыклым. Нібы цэлы год ты адсюль і не сыходзіш.

Вось "электарат", пасажыры электрычкі. Апошняй на сёньня. "Электарат" строіцца ў чаргу па свае хлеб, каўбасу і напой "Ісіндзі". Потым ён уладкуецца і намерыцца заснуць, каб пераседзець і прачнуцца на загад зьверху. З рэпрадуктара.

Як на тое, тут жа знойдзецца суайчыньнік, які будзе гучна вяшчаць з кута, як з айчыннае тэлевізіі:

— Я змагаўся! За зямлю! Я быў збраяносцам у Вітаўта Вялікага, і імя мне — Напалеон! Мне сямсот гадоў... — на гэтым вяшчальніка бярэ ў аблогу міліцыя. Ён аказваецца інтэлігентнага выгляду, з вусамі і дзіўным бляскам увачу. А двух амонаўцаў завуць, здаецца, Саша ды Валодзя. Калі мае сябры заблукаюць на вакзале, Саша з Валодзем ветліва ўкажуць шлях назад, у залю чаканьня. Потым мы разбудзім "электарат" сваім рогатам, і яны прыйдуць паглядзець, але "знайсьці і абясшкодзіць" ня будзе патрэбы, і яны зваляць на пэрон паліць і ахоўваць рэйкі і ўсё астатняе вакзальнае начыньне разам з намі.

Народ будзе пасьмейвацца скрозь пазяханьні з нашых студэнцкіх успамінаў, што наблізяць знаёмства з калегам па альма матэр. Гэты камутаршчык, спартовец і інтэлектуал-разначынец у адной асобе паспавядаецца:

— Ведаеш, бачыў днямі файную перадачу пра расейскія дыялекты. Ведаеш, — дадасьць ён яшчэ больш чульліва, — беларуская мова — гэта дыялект. І ўкраінская...

Захавальнікі рэйкаў павядуць вухам, але нічога ня скажуць. Дым ад маёй цыгарэты паляціць інтэлектуалу ў твар, і ён стане падобным да сваіх, магчыма, продкаў, што спускаліся з муроў ахутанага дымам места, каб адчыніць браму войску тагачаснага "старэйшага брата".

Ён быў родам зь места Магілёва...

Мы сыходзім на зямлю Магілёва разам з сонцам, і я цягну сяброў у інтэлектуалаву хату. Ён думае — на каву, але найперш нам патрэбны прас і гэтак далей, бо рэчы ў маім клунку спрасоньня, з-за ягонай балбатні, залітыя напоем "Ісіндзі". Рэчы могуць вось-вось спатрэбіцца таму, хто, безумоўна, ня стаў бы ісьці сюды, а даўно адказаў бы за ўсе "дыялекты"...

+++

Адзін зь вязьняў установы з назвай-абрэвіятурай, таксама ня спаў гэтую ноч. У апошнюю ноч ён слухаў трохі іншыя размовы. Яшчэ ўдзень да ведама аховы было даведзена, што замест сну чакаюцца провады. Ім не перашкодзіць ніхто і нішто. Ні новы тэрмін, ні аднаўлены раптам стары. Ні ШЫЗО, дзе вязень правёў каля паловы траўня, ні чарговая правакацыя. Хай будзе зямлятрус ці нават канец сьвету — "братва" зьбіраецца чыфірыць. Чыфір, моцны, даўкі, без намёку на цукар, быў на зоне самым прэстыжным напоем, нават пераўзыходзячы каву, што часам трапляліся ў "дачках" з волі. Яго ўжываньне нагадвала рытуал паленьня люлькі міру індзейцамі: па колу хадзіла адна шклянка, і напой ня тое што каўталі — уцягвалі ў сябе разам з паветрам.

Вязень, якога праводзілі, за амаль паўгады пасьля менскага этапу для зонаўскіх быў "Бандэрам". Не ўсялякі тут вымаўляў гэтае слова зь нянавісьцю, гэтым адзіным высакародным з адмоўных пачуцьцяў. Да ліпеня 97-га многія (хоць часам не прызнаваліся сабе ў гэтым) вымаўлялі яго з павагаю. Станоўчай альбо адмоўнай, але з павагаю.

"Бандэра", ён жа Граф, ён жа Андрэй Шаптыцкі, яшчэ пад час леташняга суда ўсьміхаўся ўсім, хто плакаў у залі, суцяшаючы маці і незнаёмых бабуляў. Вакол залі калідоры былі набітыя амонам з сабакамі ды арламі — двухгаловымі! — на кабурах пісталетаў. Не хапала адно двух-трох танкаў перад будынкам. Бабулі ў залі трымалі ў руках абразкі Божай маці.

Судзьдзя і пракурор з-за словаў "Бандэры" не вытрымлівалі і некалькі разоў самі сьмяяліся з камэдыі, дзе й выконвалі "галоўныя ролі другога пляну". Памятаю, як я міжволі пляснула ў ладкі. Атрымалася гучнавата, і мне кінулі: "Вы што, у тэатры?.."

Пытаньне было рытарычнае, і "Бандэра" потым скажа:

— Здаецца, толькі я ды ты разумелі гэты спэктакаль.

Здаецца... Калі раніцай 5 верасьня яшчэ кволіўся нейкі 0,01% надзеі на іншы прысуд, я ведала, што, пачуўшы яго, Шаптыцкі засьмяецца. Ён быў адзіным зь сямі ўкраінцаў, што нават у апошнім слове не пажадаў перайсьці на мову "старэйшага брата".

Потым, на Валадарцы, "Бандэра" скажа, што быў бы рады, калі б "гэтых шасьцёх" адправілі дадому ці выпусьцілі зусім. Ён нясе за іх адказнасьць і ня хоча, каб пра ўкраінскіх нацыяналістаў думалі ня тое, што трэба. "Я быў упэўнены толькі ў сабе самым", — напіша ён і ў лісьце. Тым часам "непрымірымы" Шаптыцкі за сябе і Сяргея Патапава адмовіцца працаваць на рэжым. Гэта азначае ня толькі "ніводнага "так" рэжыму", але найперш — адмову ад турэмных прывілеяў. Шмат каго гэта разззлуе (сама бачыла). Двух вязьняў, апошніх зь сямі, адправяць этапам у места Магілёў у апошнія лютыя маразы лютага і раскідаюць па розных установах...

+++

Аўтобуса не было. Стрэлкі гадзіньніка адбіваліся на нашых тварах. Сябры спыняюць толькі аўто, дзе ёсьць колькі месца для адной мяне. Пытаньняў няма. Вышукваем забыты ўжо шлях. Кіроўца кажа пра таемнасьць Госпадніх шляхоў і яшчэ большую таемнасьць айчынных законаў.

Першы раз да гэтага ганку я таксама ехала на аўто. Таксоўшчык адхапіў немалую купюру грошай. Не маіх. Выпадковы спадарожнік, пачуўшы назву ўстановы, забраў рэчы з маіх рук і закінуў у таксі. Я не зьдзівілася, калі ён аказаўся былым зэкам. Крымінальным. Рабаўнікам і злодзеем. Слухаць слова "дзякуй" ён не захацеў і паехаў назад, дацягнуўшы мае сумкі да дзьвярэй на другім паверсе...

+++

"Каму верыць?!" Гэтае пытаньне паўстала перад "Бандэрам" адразу пасьля зонаўскага карантыну — у сакавіку. Раніцай ты кажаш словы ў кампаніі гэткіх жа зьняволеных. У абед табе іх пераказваюць задаволеныя "мянты".

Сачылі за тым, хто, па мерках саўдэпаўскай зоны, ніяк не хацеў "перавыхоўвацца". "Бандэра", здадзены адным "нібыта сваім" яшчэ 26 красавіка мінулага году, узначаліў чорны сьпіс самай "чырвонай" зоны Беларусі. Пра іншыя "ўстановы" турэмная "пошта" прыносіла іншыя зьвесткі. Тут, у былым ЛТП, ня трэба было чакаць паветра, як у камэры менскага СІЗО, тут давалі белы хлеб празь дзень, у кашу кідалі сёе-тое зь мяса. Тут усё блішчэла чысьцінёй. Звонку.

26 красавіка гэтага году, калі ў калёнію запрасілі сваякоў зьняволеных ("Дзень адчыненых дзьвярэй"), тыя дзякавалі начальству. Нейкая бабка чытала вершы нават. Як на піянэрскай лінейцы...

— А вы што маўчыцё? — спыталіся ўрэшце ў жанчыны, якая трымалася годна й спакойна.

— За што дзякаваць? — адказала тая. — Турма ёсьць турма! Чысьціню навялі самі ж зэкі.

Жанчына выкладала дзецям у маленькім гарадку над ракой Збруч іх родную мову. Украінскую. Ёй сказалі: ваш сын не паддаецца выхаваньню.

— Рэжыму ўжо начхаць на любы рух апазыцыі. Нават мянтоў больш можна не выводзіць на праспэкт, — пракамэнтаваў Андрэй тэленавіны таго дня — пра "Чарнобыльскі шлях 97".

— Ты ж, сынок, не ў сябе дома, —

Працяг на старонцы 18.

# Андрэй Шаптыцкі

Працяг са старонкі 17.



## БУЯЙ, БУЯЙ, ЧАРАМШЫНА

*Палеская народная песьня*

Буяй, буяй, чарамшына,
Вольна й сьмела разрастай,
Маладая дзеўчынонька,
Пра каханьне забывай.
Маладая дзяўчынонька,
Пра каханьне забывай,
Бо сяджу я ў крымінале
За сьвяты свой родны край.
Адсядзеў я адзін годзік,
Адсядзеў я два гады,
Прыйшлі брацьця-партызаны
Вызваляць мяне зь бяды.
Адну браму развалілі,
А другую расьцяглі,
Узялі мяне пад пахі
На сьвет Божы вывялі.
Сьвяты краю, родны краю,
Чысты думкай і душой,
За цябе я, родны краю,
Мукі цяжкі прайшоў.
Цьвіці, цьвіці, калінонька,
Да дубочка прылінай,
Маладая дзеўчынонька,
Пра каханьне спамінай.

***

Зь сямі сшыткаў твораў, напісаных Андрэем Шаптыцкім у турме, яму ўдалося зьберагчы й перадаць на волю толькі адзін. Астатнія былі сканфіскаваныя пад час аднаго з шмонаў. Вершы Андрэя надрукаваныя ў арыгінале ў газэце "Берестейський край". Мы падаем — скарочана — прозу Андрэя Шаптыцкага, ці, хутчэй, вершы ў прозе, а таксама народную песьню, што прысьвячаецца й яму самому.

Андрэй Шаптыцкі, падпольная мянушка "Граф", сябар УНА-УНСО, арыштаваны 26.04.1996, вызвалены 26.07.1997, паходзіць са старажытнага галіцкага роду. Сярод яго продкаў слынны мітрапаліт грэка-каталіцкай царквы граф Шаптыцкі.

**Андрэй Дынько**

# Цягнік праз пустэльню

Працяг са старонкі 17.

памяркоўна сказала маці. — Тут законы свае. Няхай людзі жывуць, як яны хочуць.

— А яны жывуць?

Ужо на другі дзень па гэты бок калючага дроту ён са зьдзіўленьнем спытаецца: "Пасьля мітынгу хапалі людзей на Нямізе — проста так?!" А я адкажу: "Як звычайна"...

І таксама зьдзіўлюся.

+++

І чаго зьдзіўляцца? Там і тут былі розныя кантрасты, як па-рознаму былі сканцэнтраваныя настаяныя на часе падзеі апошняй ночы перад цягніком. Зона з "чырвонымі" парадкамі, дзе зэкі нават ня чулі пра "абшчак", і вакзал з "электаратам" і "дыялектамі" — розныя бакі люстэрка.

Кожную гадзіну "Бандэра" мусіў "адмячацца" у "рэжымцы" і паведамляць, дзе быў гэтую гадзіну і што рабіў. Быццам таго не казалі стукачы, што беглі навыперадкі і "строіліся ў чаргу"... Схільны, на думку нейкага начальства, да "прапаганды падрыву рэжыму і парадкаў", у сьпісе з чатырох ці пяці "небясьпечных" — рабаўнікоў, хуліганаў, вымагальнікаў — ён быў адзначаны зорачкай. З рабаўнікамі аб'ядналіся, каб выжыць ва ўдушлівай стукацка-мянтоўскай атмасфэры. "Бандэра" даведаўся, што "ягоныя" артыкулы ("масавыя беспарадкі", ды яшчэ "супраціў міліцыі", доказы якога трэснулі па швах на судзе) лічацца "высакароднымі". Большасьць "сядзельцаў" зоны былі з тыповага-беднага, нішчаснага электарату: той яйкі скраў, той мех зерня, той — паўкілі каўбасы. У краіне цяжкая эканамічная сытуацыя. "Высакародныя" ненавідзелі, акрамя самых "зьверскіх" "мянтоў", забойцаў і гвалтаўнікоў... Адзін асуджаны на волі гандляваў — ныркамі, пячонкамі, іншымі органамі скрадзеных і забітых дзяцей. Такіх пасьля вызваленьня часта знаходзілі забітымі. Аднаго такога ўвесну выпускалі з установы ў хлебнай машыне, закінуўшы скрынкамі. Тайком. Кажуць, гэта таго гвалтаўніка не ўратавала.

За "падрыў рэжыму", нешта кшталту стварэньня "абшчака" (гэта фонд, куды "скідваюцца", хто чым можа, "сем'і" зэкаў) некалькім далі ШЫЗО. "Бандэра" не хацеў пра гэта ўзгадваць, але я за год пасьпела распытаць іншых "шызошнікаў". Яны казалі: гэта пайка праз дзень. Казалі: вопратка з калючае матэрыі. І зьдзекі, маральныя і фізычныя. Рукі на сьцяну, сагнуцца, стаяць...

Яшчэ палітвязьня з Украіны выхоўвалі пазбаўленьнем перадачаў. З-за шматлікіх "шмонаў" братва мусіла сьцерагчы ягоныя рэчы. Ён не хаваў там нейкую зброю альбо напільнікі зь вяровачнымі лесьвіцамі. Хаваць даводзілася толькі вершы, апавяданьні, занатоўкі ў сямі сшытках, якія ўсё ж сканфіскавалі. Якім чынам, чаму, нашто быў вернуты і захаваны самы першы, з Валадаркі яшчэ, сшытак? Пытаньне загадкавае. Але ў сшытку застаўся сумесны твор — ягоны пераклад на родную ўкраінскую майго верша з роднай беларускай.

"Бандэру" падкідалі таблеткі, якія ў аптэцы не даюць без рэцэпту. Нарката — значыць сьвеціць новы тэрмін. "Шмону" не чакаеш? А вось табе "шмон"! Нехта з братвы за некалькі хвілінаў, зазірнуўшы ў рэчы па зубную пасту, пасьпеў утапіць "калёсы" ў прыбіральні...

— Я ведаю і ведаў заўжды, што я не ў сябе дома. Прабачце, што ў беларусах расчараваўся. Я не пра вас, і не пра ўсіх, і нават не пра пераможаную апазыцыю...

(Быў такі верш у яго: "Навошта вершы? Ды й пра што пісаць? Пра ворагу прайграныя змаганьні?.. І зноўку Валадарская турма абдымкі для кагосьці расчыняе...")

— Ад правакацыяў мяне ратавалі грузіны, украінцы, расейцы, а "здавалі" — выключна беларусы. Прабачце, але так было! Гэта — праўда! Ну, якія высновы зрабілі б вы на маім месцы?!

Ён перастаў размаўляць і выключыў зь "сям'і" свайго земляка з Заходняе Ўкраіны, які — свой! — на зьдзекі і прыніжэньні адказаў так:

— Хай хоць г...м называюць, абы перасядзець ціха ды з пайкай.

"Свой" зганьбіў не сябе аднаго — мільёны ахвяраў чырвонага тэрору, памяць аб тых, хто змагаўся за Волю, усю іхную Ўкраіну. Зганьбіў не перад "мянтамі" — перад самім Богам.

+++

"Я сам паабяцаў Патапаву напісаць заяву на УДО (умоўна-датэрміновае вызваленьне). І вось ён пайшоў... Перачытай стары добры школьны верш — "Верасовы мёд". Я шчасьлівы, што буду сядзець "да званка". Ды хоць да другога прышэсьця..." Я чытала ліст і згадвала ельцынскія выбары. Ваш Карчынскі разам з нашым славянасабораўцам ды расейскімі шавіністамі — ляп свае подпісы ў антыельцынскую дамову тою вясной! Разам. Потым славянасаборавец едзе дамоў, у Менск і ўжо тут — ляп некалькі брудных плямаў на старонкі "Знамени юности"! Пра скандальную УНА-УНСО і, вядома, пра вас, сямёх заарыштаваных у нас "бандытаў". Як табе там гэта — цікава? "Хопіць пісаць у лістах розную ахінею..." Ага. Табе сказалі: дрэнна перавыхоўваесься. Наступны ліст ня дойдзе да цябе зусім...

— Я вас пазнаў! Ваш, — чалавек, разглядаючы, шукае і не знаходзіць слова, — Шаптыцкі ўжо ў дзяжурцы.

"Нашаму Шаптыцкаму", са словаў чалавека, "дужа пашэнціла": ён сядзеў, аказваецца, у лепшай зоне Беларусі!

+++

Андрэю ня верылася. Здаецца, ён нават забыўся разьвітацца. Ці разьвітаўся раней? Ці прыкмета ў іх, хвіліну вольных, гэткая — не разьвітвацца?

Трэба пагутарыць з вольнымі звычайнымі людзьмі. У рыбака ня ловіцца рыба. Мінакі тлумачаць дарогу — мы зь сябрамі распытваць перад ім не пасьпяваем. Кандуктарка на маршруце аўтобуса ад "турэмнага" скрыжаваньня віншуе — шчыра, але, бачна, ужо звыкла.

— Ну, прывіт, Дніпро...

Адчуваньне, нібыта мы — нейкі атрад, што нікому ня дасьць больш назваць нашыя родныя, кроўныя мовы — "дыялектамі..."

Зэкі, якія засталіся без свайго "Бандэры", глядзяць другі магілёўскі тэлеканал — ён хоча даслаць ім песьню. Гэта каштуе амаль як наш праезд у Менск. Скінемся? Адмаўляецца. Замест песьні ён пашле ім зь Менску "дачку" ў пасылцы.

— ... Прывіт, Дніпро!

Наша агульная, беларусаў і ўкраінцаў, рака. Што ж ты ўцякаеш ад нас да мора так імкліва? Уцякаеш — і застаесься. Наша агульная Воля — Дняпро...

— Станеш прэм'ер-міністрам, — варожыць Шаптыцкаму на вакзале незнаёмая вясковая дзяўчына. Яна не паступіла, здаецца, у інстытут...

+++

Калі ўкраінскі нацыяналіст вітаўся з Воляй, "органы" якраз хапалі расейскіх журналістаў, нашых суайчыньнікаў, маіх калегаў. "Маўчы, калі ня хочаш сваркі", — гэта пры сустрэчы на шэсьці 27 ліпеня. Твая Воля — наша незалежнасьць. Пасьля выступу на мітынгу дзяўчаты бяруць аўтографы...

Мая Радзіма — інтэрнацыянальная зона. А ў вас там, ва Ўкраіне, у турмах бываюць вакантныя месцы?

+++

Цягнік сыходзіў праз чатыры раніцы. І таксама а чацьвертай... За дзень да яго ледзь ня здарылася нешта брыдкае. Кроў, бітае шкло, зноў краты?

У РАУСе, дзе ён мусіў зноў "адмячацца", нехта з супрацоўнікаў сказаў: "Той самы Шаптыцкі?" Гэты чалавек некалі прынес украінцам пачак цыгарэт. А ў пасольстве сустрэлі так:

— Вы что, не видите — сегодня нет приёма? — і толькі пачуўшы прозьвішчы: — Ой, мы дужа рады!

— Так рады, што забыліся на родную расейскую мову і ўзгадалі маю ўкраінскую?!

Уяўляю тую нямую сцэну!

— Ты бачыла турэцкую амбасаду? Сьцяг і герб!.. Консульскі аддзел нашай побач — як пўбар! Нашто былі тыя ахвяры, тысячы расстраляных, мільёны палітвязьняў? Нашто была мая адсідка? Каб яны гутарылі па-расейску, паводзілі сябе па-хамску? У цябе няма нашага сьцяга, каб ім прэзэнтаваць, калі Ўкраіна ня мае грошай на сьцягі?

За гэты сьцяг расстралялі пры Сталіне двух ягоных продкаў. За яго ваяваў генэрал-прадзед, сядзеў у лягерах прадзедаў брат — мітрапаліт...

— Я бяру назад усе нядобрыя словы пра беларусаў. Нельга прабачыць гэтым, сваім! А ў вас хоць чэсна — народ за чырвоны сьцяг, і ўсё! Чаго чакаць ад беларусаў, калі такія людзі, як у амбасадзе, прадстаўляюць Украіну?!

+++

Чуткі, што ва Ўкраіне апазыцыя мяркуе ўзнагародзіць Графа ордэнам, пацьвердзіліся. Ордэн маюць там адно чатыры ці пяць палітыкаў і журналістаў. Усе яны адсядзелі за палітыку і журналістыку розныя тэрміны. Але Андрэй Шаптыцкі ад узнагароды адмовіўся.

Ордэн меў назву — "Голас гукаючага ў пустэльні"...

Між тым, у так званым цывілізаваным сьвеце даўно і шмат кажуць і пішуць пра ўплывы сэксуальнае арыентацыі на лёс і зьмест культуры. Галоўныя тэмы літаратуры ўсіх часоў і народаў — каханьне і сьмерць — быццам бы вычарпалі сябе на матэрыяле звыклых дачыненьняў і найбольш пасьпяхова рэалізуюцца ў раманах пра тыя самыя разборкі геяў, альбо пра табуяванае грамадзтвам каханьне паміж Рамэо і Рамэо, альбо пра страту сябра, які захварэў на AIDS.

Падставаў для такое гутаркі хапае і ў нашым традыцыяналісцкім бытаваньні. І калі ты займаесься культуралёгіяй, то разпораз міжволі спатыкаеш гэтую тэму. То нехта шаптане на вуха, што калега N. — "галубой". То нейкі фан шле ў кожны нумар газэты абвесткі, у якіх просіць адгукнуцца хлопца да 20-ці. То зьяўляецца аўтарка, якая напавер аказваецца мужчынам, а тэксты яе — пра літаратуру — непазьбежна выходзяць на праблему плоці.

Словам, назьбіраецца дастаткова імпульсаў, каб агледзець на вышэйазначаны прадмет нашу родную беларускую традыцыю і культуру.

Праўда, самы паверхневы папярэдні агляд ператвараецца ў рашучае адштурхоўваньне ад тэмы. У беларускай вёсцы вам хутчэй прыгадаюць прыклады заафіліі, чым аднаполага каханьня. Літаратура таксама адштурхоўваецца. Падставаў для адвольных дапушчэньняў, вядома, хапае — і ў дачыненьні да пэрсанажаў, і ў дачыненьні да аўтараў. Але як можна што-кольвек дапускаць, калі самое падозраньне ў гомасэксуалізьме лічыцца ў нас або пікантнасьцю або абразай. (Жартам успрымаецца сустрэтае пад трыццатым годам нашага стагодзьдзя прозьвішча Гея — сакратара ЦК КПБ, які пісаў даносы ў Маскву на Саюз Вызваленьня Беларусі і давёў Янку Купалу да спробы самагубства.)

Так ці інакш, першыя рэальныя сьведчаньні зьяўляюцца толькі ў апошнія гады. Фотамастачка Алена Адамчык робіць сэрыю здымкаў гомасэксуалістаў, у Купалаўскім тэатры на гэтую тэму ставяць п'есу "Касьцюмер", а першая літаратурная згадка — навэла Адама Глёбуса "Гомік" у ягонай кнізе "Дамавікамэрон".

Глёбус распавядае няхітрую гісторыю пра тое, як гомасэксуаліст заляцаецца ў менскім парку Чалюскінцаў да юнака. Той кліча свайго брата фізкультурніка, каб правучыць "галубога". Яны ідуць у Батанічны

— Ці маюць геі сяброў? Ці могуць яны паміж сабою сябраваць? — Жанчына, якая задала мне гэтае пытаньне, жыве ў Нью Ёрку, яна ўладальніца аднае з найдаражэйшых рэстарацыяў у горадзе, геяў ведае ўсё сваё жыцьцё, таму я прыняў яе пытаньне за шчырае і шокавае, бо яно выкрывала існаваньне вузкай, але бяздоннай прорвы паміж намі.

Тады я ўласна і зразумеў, якой таямнічай культурай ёсьць сьвет геяў — не гомасэксуалізм, бо той — папросту звычайная эратычная схільнасьць, а менавіта сучасная амэрыканская гейская культура, што значыць, адметная манера сьмеху, грашовых разьлікаў, парадкаваньня важных справаў, надаваньня значэньняў усяму ад тэкстаў песень да бліскучых як люстра вайсковых ботаў. Тут не дапаможа ніводнае з вызначэньняў субкультуры, бо геяў выхоўваюць гетэрыкі — гетэрыкамі; здаецца, што нейкі прымус кажа ім шукаць іншых мужчынаў, хоць яны уступаюць у гета з уласнае волі, і як толькі робяць выбар,



**ЭДМУНД УАЙТ** (нар. 1940) — амэрыканскі празаік, эсэіст, крытык і публіцыст, галоўны прадстаўнік гейскай літаратуры, прызнаны як адзін з найлепшых стылістаў сучаснай амэрыканскай літаратуры. Дзьве першыя кнігі Fergetting Elena (1973) і Nocturnes for the King of Naples (1978). У 1985 зьяўляецца раман Caracole. Аўтабіграфічныя кнігі A Boy's Own Story (1982) і The Beatiful Room Is Empty (1988) складаюць першыя часткі трылёгіі, заключная кніга якой The Farewell Symphony — выйшла сёлета. Акрамя гэтага, Эдмунд Уайт — аўтар зборніка апавяданьняў Skinned Alive (1995) і ўжо славутай, прызнанай за шэдэўр свайго жанру, аўтабіяграфіі Жана Жэнэ.

# Раман з Раманам

***Калі забіваюць вядомага артыста і нерасьсьледаваньне справы тлумачаць разборкамі гомасэксуалістаў, застаецца толькі разьвесьці рукамі. Аднаполага каханьня ў нас няма і не павінна быць паводле вызначэньня. Але ўрэшце выходзіць так, што гомасэксуалізм перамагае, бо існуе надалей і набывае пры гэтым рысы барацьбы за свабоду і правы чалавека, пэўную гераізацыю, становіцца модным. Тэма, якой нібыта не існуе ў культуры, падкрадаецца "з задняга ходу", і наносіць адчувальныя страты: маралі (чалавека забілі — ну й ладна), сцэне (згубленыя таленты), культуры (немагчымасьць асэнсаваньня таго, чаго няма і не павінна быць).***

сад і там каля стаўка зь лебядзямі забіваюць Гоміка. "Гоміку ўсё адно... А што з намі будзе?" — рытарычнае пытаньне, якім сканчаецца навэла і якое ўвогуле характарызуе адносіны грамадзтва да гэтае зьявы: "А што з намі будзе?"

Вось, бадай, і ўвесь пералік згаданае тэмы ў беларускай культуры. Трэба заўважыць, што гэта менавіта тэма, а зусім ня гейская культура, якая ўжо некалькі дзесяцігодзьдзяў актыўна пашыраецца на Захадзе, вырастаючы ў адно з сур'ёзных пытаньняў цывілізацыі, у пэўны падразьдзел праблемы мадэляваньня плоцевых і сямейных дачыненьняў у будучыні.

Паводле аналёгіі цікавасьць беларускага культурніка да гейства — гэта ўсё тая ж цікавасьць да праблемы меншасьці. Тыпалягічна ўсе меншасьці падобныя — ці то моўная і этнічная, ці то рэлігійная або сэксуальная. Спачатку меншасьць праходзіць стадыю самапазнаньня, пасьля яна імкнецца да пашырэньня сваіх радоў, нарэшце, яна хоча вызваліцца ад комплексу меншасьці і перайсьці ў стан большасьці альбо роўнасьці зь іншымі роўнымі. Менавіта так вытлумачвае гэты фэномэн падабенства амэрыканскі пісьменьнік і прадстаўнік гейскай культуры Эдмунд Уайт.

Магчыма, гейская культура зьяўляецца ў вольным сьвеце яшчэ і ад жаданьня пэўных творцаў адчуваць прэсынг грамадзтва і ўвесь час адстойваць сваю свабоду. Мне здаецца, што калі Эдмунд Уайт параўноўвае культуру геяў з культураі этнічных меншасьцяў, у ягоных словах гучыць зайздрасьць. Творца пазбаўлены натуральнае патрэбы змагацца за свае правы, бо ён ня нэгар, не ірляндзкі каталік і, калі хочаце, не беларускі нацыяналіст, ён — своеасаблівы стандарт вольнага сьвету, і таму знаходзіць у сабе інакшую плоцевую арыентацыю.

Гэтаксама і пры параўнаньні гейскага пісьменства з расейскай літаратурай XIX ст. або з роляю інтэлектуалістаў у постсавецкіх краінах. Але тут ужо зайздрасьць Уайта выяўляецца да грамадзкай і палітычнай ролі, якую адыгрывае культура. Сучасная Амэрыка або паставіла культуру на канвэер, або дазволіла ёй сначацца ў элітарных садках. Пры гэтым творцы разьмясьціліся па гарызанталі постмадэрнізму. Не стае героікі, не стае Ролі літаратуры і яе аўтараў. На шырокі грамадзкі рэзананс могуць разьлічваць толькі літаратары меншасьцяў — этнічных, рэлігійных або сэксуальных. Фактычна пісьменьнікі-геі самі ствараюць сабе тую творчую сытуацыю, пра якую мараць ці ня ўсе творцы з прэтэнзіяй на Новае Слова.

Асабіста мне тут найбольш цікавае разьвіцьцё сюжэту. Бо гейская меншасьць, як і любая іншая, ня можа здаволіцца статусам меншасьці. Ужо сёньня толькі ў ЗША пасьпяхова працуюць чатыры дзясяткі гейскіх кнігарняў, а новая гейская аповесьць прадаецца амаль удвая большым накладам, чым новая аповесьць гетэрасэксуала.



Здымак Алены Адамчык

Але што далей? У тэарэтычных распрацоўках Уайта я не знайшоў нейкага пэўнага бачаньня пэрспэктывы. Ягонае бачаньне патанае недзе ў смузе нявызначанасьці лёсу сям'і. Традыцыйная сям'я як грамадзкі інстытут не настолькі мабільная ў пошуку новых формаў і ўласнага філязофскага забесьпячэньня. Праскtанты сямейных дачыненьняў больш занятыя праблемамі тактыкі, але не стратэгіі. І тут тэарэтыкі аднаполага каханьня атрымліваюць пэўную інтэлектуальную фору. Сапраўды, кажуць яны, шматгадовае сужэнства двух людзей можа надакучыць, і грамадзтва спрабуе вызваліцца ад састарэлых паняткаў вернасьці і рэўнасьці. А потым, кажуць яны, у кожным чалавеку закладзеная цікавасьць да ўласнага полу, і грамадзтва пачынае лагадней пазіраць на бісэксуалізм. І тут, кажуць яны, у гульню ўступаем мы, якія зрабілі свой выбар на карысьць свайго полу. Здаецца, яшчэ крыху, і яны назавуць сябе людзьмі будучыні...

Дарэчы, што да традыцыйнай сям'і, то геі гатовыя адказваць гетэрыкам той самай нялюбасьцю, якой гетэрыкі здаўна надзяляюць геяў. Словам, што лепей? Прынамсі ў Амэрыцы гейская праблематыка ўжо выйшла на той узровень, каб такое пытаньне не здавалася недарэчным.

Але тое ў Амэрыцы. У Беларусі, дзе толькі пачынаюцца часы нацыянальнага станаўленьня і куды далятаюць пакуль толькі павевы з вольнага сьвету, пра ўсё гэта не гавораць. Але няма сумневу, што сьледам за першымі сэкс-шопамі і эратычнымі газэткамі, гейская культура разам са сваімі выданьнямі, барамі і культамі зьявіцца і ў нас. Гэтаксама, як гэта адбылося, напрыклад, у Вільні, калі Літва прайшла пік свайго нацыянальнага адраджэньня.

Пакуль жа мы гаворым пра немаральнасьць і пра негатовасьць грамадзтва даваць сабе рады і ў такіх складаных сытуацыях (чалавека забілі — дык то ж "галубога"!).

Яшчэ, што тычыцца характарыстыкі беларускага стаўленьня да гомасэксуалізму, мне згадваецца такі выпадак. Ён адбыўся летась увосені, калі беларускія памежнікі затрымалі выдаўца "Нашай Нівы" Паўла Жука з тыражом спэцвыпуску газэты.

— Што, — з дакорам спытаў памежнік, — ня любіце Лукашэнку?

— А чаму я павінен яго любіць? — адказаў Жук. — Я жанчын люблю...

**Сяргей Паўлоўскі**

Эдмунд Уайт

# ПЛОЦЕВАЯ КУЛЬТУРА

гэты выбар зьмяняе іхнае жыцьцё, а нават іхныя целы, і ўжо напэўна іхныя гардэробы. Шмат геяў жывуць сярод гетэрыкаў як мароны, ці як гішпанскія жыды, якія ў часы інквізыцыі ўдавалі, што навярнуліся на хрысьціянства, але надалей у сутарэньнях адпраўлялі свае старыя абрады ў самоце і найвялікшай таямніцы. Геі не нагадваюць ані каляровых, ані жыдоў, бо самі часта і каляровыя, і жыды, а іх пачуцьцёвыя сымпатыі не датычаць ані колеру скуры, ані рэлігіі, хоць яны і прывялі да ўзьнікненьня культуры, якая нагадвае культуру этнічных меншасьцяў. Няшмат жыдоў маюць сярод сваякоў хрысьціян, тады як большасьць геяў маюць гетэрасэксуальных братоў і сёстраў, прынамсі бацькоў. Шмат амэрыканскіх жыдоў былі выхаваныя ў пачуцьці прыналежнасьці да Абранага Народа, у перакананьні, што ён адначасова лепшы і горшы за хрысьціян, тады як кожны гей адкрывае сваю гейскую натуру з пачуцьцём болю і палёгкі, са шкадаваньнем, што стаўся выключаны з племені, і з радасьцю, што знайшоў разгадку таямніцы.

Геі не складаюць нацыянальнасьці. Яны не як chicanos, не як амэрыканцы італьянскага ці ірляндзкага паходжаньня, але яны — адна з найбольш актыўных палітычных сілаў вялікіх гарадоў, такіх як Нью Ёрк, Філадэльфія, Вашынгтон (дзе геі і каляровыя выбралі на бурмістра Марыёна Бэры), Х'юстан, Лос Анджэлес і Сан Францыска. Геі не складаюць адметнай этнічнай групы, але яны меншасьць, не складаюць polis, але яны палітычная група, не складаюць нацыянальнасьці, але маюць уласныя строі, звычаі і дыялект, яны не сацыяльная кляса, але эканамічная сіла.

Уявім сабе рэлігію, якую хтосьці прымае



Здымак Бруса Вэбэра

насуперак волі бацькоў — і насуперак сабе. Уявім сабе расу, прадстаўніком якой нехта становіцца гадоў у шаснаццаць ці ў шэсьцьдзесят, не зьмяняючы пры гэтым ані колеру скуры, ані валасоў (хіба што ад загару ці ў цырульніка). Уявім сабе стэрыльны народ без нашчадкаў, але з доўгай, не да канца пазнанаю лініяй продкаў, бязь ясна акрэсьленага самавызначэньня, затое з саліднай гісторыяй.

Ніводзін гомасэксуаліст не прымае свайго гомасэксуалізму за рэч відавочную. Ён мусіць яго дасьледаваць, абмацаць, праслухаць. З гэтай прычыны ўсе гомасэксуалісты — "гейскія філёзафы" ўжо з-за таго, што самі мусяць сябе прыдумляць. У пэўны момант з чалавекам адбываецца гвалтоўная зьмена, ён дасягае іншага стану, уваходзіць на нязнаную тэрыторыю, якую можа спазнаць намаганьнямі ўласнае волі. Напэўна ўсе мы часам перажываем уражаньне, што нашае жыцьцё штучнае, нібы расплаўленае шкло, якому шкляр прафэсійным рухам надае кшталт; аднак нікому акрэсьленьне homo faber (у значэньні як "фабрыкатара", вытворцы, так і "конфабулятара") не пасуе лепш, чым гомасэксуалісту.

Часам я спрабую ўявіць сабе, як гетэрыкі — а я тут ня маю на ўвазе фундамэнталістаў, невукаў, каменных нявіньнікаў ці сьвятошаў, — але адукаваных гетэрасэксуалістаў зь вялікіх гарадоў — глядзяць на геяў. Калі бачаць геяў, каго яны бачаць? Вусы, мускулістае цела ў чорных джынсах і безрукаўках, татуіроўкі (лінія аплятае двухгаловую цягліцу), што кідаюцца ў вочы. І што яны думаць? (Яны, гэта значыць у нашым выпадку, hypocrite lecteur, ты, чытач.) Ці бачыш ты нешта, што на першы погляд зьдзіўляе і нават выклікае зайздрасьць у заўсёды маладым, натрэніраваным целе гэтага саракагадовага клёна з нахабным позіркам і мяккім голасам? Калі ты жанчына, ці гэтая бязьмерная заклапочанасьць уласным выглядам у дарослага мужчыны для цябе... калі ўжо ня нешта абразьлівае, то прынамсі безгустоўнае? А калі ты мужчына, ці прыводзіць цябе ў ярасьць факт, што той біцюх вызваліўся з вупражы, што ён занадта свабодны, занадта вольны, што так лёгка зрабіў сабе з мужчынскае плоці пасьмешышча?

Ці можа геі падаюцца табе клапатлівымі сатырамі, дэманамі сэксу, каля якіх небясьпечна ўпусьціць мылка, альбо хілымі франтамі, далікатнымі ляснымі німфамі, замкнутымі ў масіўных галінах дрэваў альбо ў гэткіх самых канечнасьцях цела? А можа ты гетэрык-сыбарыт, які вітае геяў

Працяг на старонцы 20.

# Новыя вольныя вершы

**Славамір Адамовіч**



***

Сярод аўтакефаліі бароў
стаіць мой стод пад бліскавічным
небам,
на камені блішчыць сьвятая кроў,
сьцякаючы паміж віном і хлебам.

***

Я не герой, я проста адзінокі,
зацяты ў рукаблудзтве пісарчук,
душы сваёй перапаўняю докі
сталёвымі кантэйнэрамі мук;
і слабы я, каб быць героем часу,
і думаю брутальна пра жанчын,
і не люблю зусім людзкую масу,
тым больш не пераварваю мужчын;
брутальны я і з плямбаю героя
ня мне хадзіць, задзёршы ўгору нос,
збыткоўная ўва мне гнязьдзіцца мроя,
усё часьцей начамі сьніцца зброя,
і хочацца пакінуць межы рою,
альбо, як муха, зьнікнуць за карою,
альбо пайсьці, як Толік, у разнос,
альбо зрабіць зь нявыплаканых сьлёз
Учынак, што й дыктуе мне мой лёс.

***

Чагосьці не хапае пэрманэнтна:
то $H_2O$, то хлеба, то віна,
то "зайчыка", то марачкі, то цэнта,
але ўжо ў гэтым не мая віна.
Чагосьці не хапае, ды найболей
гармоніі бракуе тут і там,
каханьня і сям'і, і першых роляў,
бязбацькавічам – родных тат і мам.
Чагосьці не хапае надзвычайна:
то розуму, то жарсьці, то сяброў,
гатовых біцца з ворагам адчайна,
нягледзячы на страты, боль і кроў.
Чагосьці не хапае без надрыву,
чагосьці не хапае толькі ў снах,
і не хапае шчырага парыву,
і сьмеласьці, калі навокал страх.
Чагосьці не хапае, ды найболей
гармоніі бракуе там і тут,
і праз пару, на жаль, самоты й болю,
і не сьціхае дождж людзкіх пакут.

***

З блакітнымі, блакітнымі вачыма,
зь фігураю кітайскай статуэткі,
з далонямі, як белыя сурвэткі,
з гарачым сэрцам у грудзях, магчыма,
стаіць вось тут рэальная дзяўчына,
стаіць і ў твар мне моўчкі пазірае.
З блакітнымі вачыма ў гэтым краі,
зь фігураю кітайскай статуэткі,
з далонямі, як белыя сурвэткі,
з гарачым сэрцам жыць тымчасам
цяжка,
Яшчэ цяжэй нам жыць у гэтым краі,
дзе я і ты, крывіч і крывічанка,
і Бацькаўшчына нашая пад ботам
бяздоннага бастарда-акупанта.

***

Рэдка вас назіраючы,
думаю часта пра вас,
чорная зь белым чаіцца
у інтэр'еры анфас.
Вы прачыркнулі над пушчаю
сноў маіх белым крылом.
Кім і адкуль вы запушчаны
ў Край гэты, змучаны злом?
Хто вы: ці птушка, ці іншае,
дзе ваш прытулак зямны?
Дзе яно, месца суцішнае,
дзе не бывае зімы?
Хто б ні былі вы, мне чуецца
ваша прысутнасьць паўсюль
і на прыстрэленых вуліцах
аберагае ад куль.

***

Каханьне бяз рэтушы, голае, галоднае,
за кратамі ў камэры альбо на прадоле*,
каханьне пад прыцэлам, сырое, падкалоднае,
цяжкае, нібыта царкоўная жырандоля,
каханьне маё прышлае, імгненнае, тутэйшае,
я нацкую на плоць тваю лягавых маёй жарсьці,
я расьпішу цябе прыгожымі і дзёрзкімі вершамі,
ня дам табе спакою да самай нашай старасьці;
пакуль я буду лёгкімі сіпець на цэнтрале,
абкураны і добраю, і дрэннай табакай,
хадзі сабе сьмела ў памаранчавай зале,
зусім ня так, як ходзіць камандзір перад атакай,
але як толькі выйду я, як толькі я звольнюся
з турмы, дзе забіваюць павольна і ўпэўнена,
мы паплывем з табой у белым ад полюса да полюса,
мы станем любіцца і слухаць Ленана,
мы будзем як дрэвы, што мной пасаджаны
за тысячы дзён да вершаў і славы,
мы будзём добрымі індыйскімі раджамі,
будзем языкамі пякельнай лавы,
мы будзем выліваца з кратэраў гневу,
з каналаў нянавісьці да акупанта,
мы зьнішчым яго нашым гімнічным сьпевам,
а рэшткі змыем з дапамогай гідранта;
і толькі потым, пасьля мы зоймемся каханьнем,
мы будзем выраблаць – о Божа! – такія штукі,
што адшукаюць нас, магчыма, позьнім раньнем
і целы яшчэ цёплыя возьмуць на рукі.

**прадол – турэмны калідор.*

**Мілан Кундэра**

# Дзесяць прычынаў,

## *урывак з раману*



***Па сваёй эміграцыі Мілан Кундэра на нейкі час страціў чэскага чытача. Прынамсі, многае з напісанага і ненадрукаванага дома ўпершыню стала выходзіць па-француску. Цяпер у выдавецтве "Атлантыс" адна за адной зьявіліся чатыры кнігі кундэраўскай прозы па-чэску. Сярод іх — раман "Вальс на разьвітаньне", паводле зацемак аўтара, напісаны на радзіме недзе ў 1971 ці 72-м годзе і выдадзены ў Парыжы ў 1976-м.***

***Хоць месца дзеі і не названае, у ім пазнавальны славуты курорт Карлавы Вары. Сюды разьвітацца са сваім сябрам — доктарам Шкрэтам прыяжджае Якуб. За яго плячыма — пакутная дарога вязьня рэжыму, іншадумца, наперадзе — эміграцыя. Тут жа лекуецца ўжо сталы эмігрант, чалавек з амэрыканскім пашпартам — Бэртлеф.***

***Глыбокая тэма разьвітаньне з радзімай, з рэжымам, з ілюзіямі схаваная за зьнешне банальны сюжэт. Мэдсястра тутэйшага санаторыя Ружэна зацяжарыла і робіць усё магчымае, каб бацькам яе дзіцяці стаў славуты музыкант, які раз ці два быў тут з канцэртам.***

***Гэтая нагода сабрала трох мужчынаў, кожны зь якіх нейкім чынам мае дачыненьне да Ружэны і яе музыканта.***

Бэртлеф прывітаў абодвух гасьцей, і Якуб аглядзеўся ў пакоі. Потым падыйшоў да абраза, на якім быў намаляваны вусаты сьвяты: "Чуў, што малюсце", — сказаў ён Бэртлефу.

"Так, — адказаў Бэртлеф, — гэта сьвяты Лазар, мой патрон".

"Чаму ж вы яму намалявалі німб сінім?" — зьдзівіўся Якуб.

"Я рады, што пытаецеся. Людзі звычайна паглядзяць на абраз і ўвогуле ня ведаюць, што бачаць. Намаляваў німб сінім, таму што ў сапраўднасьці німб і ёсьць сіні".

Якуб зноў прыгледзеўся, і Бэртлеф працягваў: "Людзі, якія маюць у сабе невымерную любоў да Бога, узнагароджаныя сьвятой радасьцю, якая разьліваецца ў іх усярэдзіне і выпраменьваецца вонкі. Сьвятло гэтае боскае радасьці ціхае і мірнае, і мае колер нябеснага блакіту".

"Пачакайце, — перарваў яго Якуб. — Вы думаеце, што німб ёсьць больш, чым мастацкі сымбаль?"

"Вядома, — прамовіў Бэртлеф, — але не ўяўляйце, што ён над галавой сьвятых праменіць увесь час і што яны ходзяць па сьвеце як пераносныя ліхтары. Вядома, не. Толькі ў пэўныя хвілі вялікай унутранай радасьці выплывае зь іх гэтае сіняе сьвятло. У першых вяках па сьмерці Ісуса, калі было шмат сьвятых і тых, хто яго зблізку ведаў, ніхто пра колер німбу не сумняваўся і на ўсіх абразах і фрэсках той пары знойдзеце яго сінім. Толькі ад пятага стагодзьдзя мастакі пачалі паступова маляваць яго ў іншых колерах, ці аранжавых, ці залатых. У готыцы ён ужо выключна залаты. Гэта было больш дэкаратыўна і лепш выяўляла наземную сілу і славу царквы. Але ад рэальнага німбу гэта было гэтаксама далёка, як тагачасная царква ад першароднага хрысьціянства".

"Я гэтага ня ведаў", — сказаў Якуб, і Бэртлеф пайшоў да шафкі з напоямі. Параіўся з абодвума гасьцямі, зь якой бутэлькі пачаць. Калі ўжо наліваў у тры чаркі каньяк, зьвярнуўся да доктара Шкрэты:

"Спадзяюся, вы не забудзецеся на таго няшчаснага бацьку. Я моцна за яго перажываю".

Шкрэта запэўніў Бэртлефа, што ўсё будзе добра, а Якуб запытаўся, пра што гаворка. Калі ж яму патлумачылі пра што (ацэнім тут шляхотную далікатнасьць абодвух мужчынаў, якія не назвалі Якубу ніводнага імя), — выявіў да невядомага апладняльніка вялікае шкадаваньне:

"Хто з нас не перажываў такога вопыту! Гэта адно зь вялікіх выпрабаваньняў. Тыя, хто ў ім здадуцца і стануць супраць сваёй волі бацькамі, пацерпяць пажыцьцёвую паразу. Яны такія ж злыя, як усе тыя людзі, якія прайгралі ды жадаюць падобнага лёсу ўсім астатнім".

"Сябры, — ускрыкнуў Бэртлеф, — і гэтак вы гаворыце пры шчасьлівым бацьку! Калі яшчэ пабудзеце тут дватры дні, убачыце майго цудоўнага сына і возьмеце назад свае словы!" "Не вазьму, — сказаў Якуб, — таму што вы ня сталі бацькам супраць сваёй волі".

"Дзякуй Богу, не. Стаў бацькам са сваёй волі ды з волі доктара Шкрэты".

Доктар Шкрэта спакойна пацьвердзіў і абвясьціў, што і ён мае на бацькоўства іншы погляд, чым Якуб і пра што, сярод іншага, сьведчыць і дабраславёны стан яго дарагой Зузі. Адзінае, дадаў, што выклікае ў мяне скепсіс адносна распладненьня, гэта неразумны выбар родзічаў. Дзіву даюся, як брыдкія асобіны рашаюцца сябе множыць. Напэўна, спадзяюцца, што цяжар брыдкасьці стане лягчэйшым, калі падзяліцца ім з нашчадкамі.

Бэртлеф назваў пазыцыю доктара Шкрэты эстэцкім расізмам: "Не забывайцеся, што Сакрат быў брыдкім. Больш таго, многія славутыя каханкі не вызначаліся цялеснай дасканаласьцю. Эстэцкі расізм амаль заўсёды ёсьць праявай недасьведчанасьці. Тыя, хто не спазнаў усяго сьвету любоўных радасьцяў, жанчыну могуць успрымаць толькі паводле таго, што бачаць. Але тыя, хто сапраўды спасьцiглі, ведаюць, што вочы нам удзяляюць толькі неадпаведную частку таго, чым ёсьць жанчына. Калі Бог наказаў чалавецтву, каб кахалася і множылася, ён меў на ўвазе і брыдкіх, і прыгожых. Ва ўсім астатнім, упэўнены, эстэтычныя крытэрыі — ад д'ябла, а не ад Бога. У раі ніхто прыгажосьць і брыдкасьць не адрозьніваў".

Пасьля гэтага ўмяшаўся ў дыскусію Якуб і сказаў, што эстэтычныя довады ня мелі ніякай ролі ў ягоным нежаданьні сябе множыць: "Мог бы прывесьці дзясятак іншых прычынаў, каб ня быць бацькам".

"Кажыце, мне цікава", — прамовіў Бэртлеф.

"Перадусім, не падабаецца мне мацярынства, — сказаў Якуб і задумаўся. — Сучасны век ужо разьвянчаў усе міты. Дзяцінства ўжо даўно не пара нявіннасьці. Фройд адкрыў сэксуальнасьць немаўлят і ўсё распавёў нам пра Эдыпа. Толькі Якаста застаецца дасюль захутанай, ніхто не пасягае сьцягнуць зь яе покрыва. Мацярынства ёсьць апошнім і найвялікшым табу і хавае ў сабе найвялікшы праклён. Няма большай прывязанасьці, чым маткі да дзіцяці. Гэтая прывязанасьць назаўсёды калечыць душу дзіцяці, а мацеры ў пару сталеньня рыхтуе найвялікшую любоўную муку, якая толькі ёсьць на сьвеце. Кажу, што мацярынства ёсьць праклятцьце, і не хачу яго памнажаць".

"Далей", — казаў Бэртлеф.

"Яшчэ зь іншых прычынаў не хачу размнажаць мацярок, — казаў Якуб з праўдзівай роспаччу. — Мне падабаецца жаночае цела і агідна ўяўляць, як пешчаныя грудзі ператвараюцца ў торбы з малаком".

"Далей", — казаў Бэртлеф.

"Пан доктар нам засьведчыць, што да жанчынаў, якія ляжаць у лякарнях па аборце, лекары і сёстры ставяцца нашмат горш, чым да парадзіх, даюць ім адчуць усю сваю пагарду пры тым, што і самі за сваё жыцьцё хаця б аднойчы на такі крок павінны будуць пайсьці. Пагарда ў іх усё ж мацнейшая, чым хоць якая ветлівая ўвага, таму што культ нараджэньня ёсьць дыктат прыроды. Таму не шукайце ў прапагандзе захаваньня папуляцыі ніводнага разумнага аргумэнту. Думаеце, што з царкоўных мараляў пра нараджэньне да вас адзываецца голас Хрыста? Ці, можа, словамі

Адам Глёбус

# БРЭХ

*занатоўкі з нагоды прачытаньня тэкстаў пра кініка Дыягена Сынопскага*



■■■

Сабака-жывёла брэша на злодзеяў і кусае ворагаў, а сабака-філёзаф кідаецца й выскаляецца на сяброў і суайчыньнікаў дзеля выратаваньня іх душаў.

■■■

Калі табе не падабаюцца паводзіны лысага, пахвалі ягоныя валасы, што пакінулі неразумную галаву.

■■■

Дабрыня першай сыходзіць зь вялікай і заможнай імпэрыі.

■■■

Шлях у царства мёртвых аднолькава кароткі зь любой кропкі зямлі й неба.

■■■

Нішто так моцна не сьціскае кулак, як злосьць.

■■■

Калі гаворыш разумнае, цябе амаль ня чуюць. Чым болей прамаўляеш значных рэчаў, тым меней маеш уважлівых слухачоў. У глупства найвялікшыя шанцы займець слухачоў і авалодаць аўдыторыяй. Паспрабуй на людзях забрахаць па-сабачы і пераканаесься.

■■■

Хлеб, намаляваны мастаком, як і хлеб, паказаны ў тэлевізіі, каштуе значна больш за сапраўдны, у гэтым і хаваецца найвялікшая эканамічная памылка.

■■■

На думку Плятона, Дыяген — гэта звар'яцелы Сакрат. Удакладню... Дыяген — Сакрат, які не гаворыць, а брэша. Зрэшты, галоўнае, што Дыяген зьяўляецца Сакратам, а якім — справа другая.

■■■

"Нават падробка пад мудрасьць — ужо філязофія", — казаў Дыяген Сынопскі. Сапраўды, каб навучыцца нешта рабіць, спачатку неабходна ўмець тое нешта падрабляць.

■■■

"Рабы служаць гаспадару, а кепскія людзі — страсьцям", — сьцьвярджаў Дыяген. У такім разе, лепей быць рабом пры разумным уладары, але гэта фантастычная пэрспэктыва.

■■■

Справакаваць дурнога чалавека на брахню досыць лёгка, дастаткова абразіць, назваць вар'ятам.

■■■

Энцыкляпэдыі — могільнікі інфармацыі. Чытаеш і спатыкаесься аб даты сьмерцяў і нараджэньняў.

■■■

Убачыўшы жанчын, што задушыліся на аліўкавым дрэве, Дыяген прабрахаў: "Вось каб на ўсіх дрэвах віселі такія плады!" У наш час эмансыпацыі гэткую экспрэсію паводзінаў пераўзысьці немагчыма, хіба нейкая Дыягеніха праверашчыць падобнае пра мужчынаў.

■■■

Дыяген абраў для жытла гліняную бочку, бо брэх у ёй і больш гулкі, і гучнейшы, і густы. Нездарма ён адзначаў сваё падабенства да настаўніка сьпеваў, які знарок бярэ іншы тон, каб вучні зразумелі — як трэба сьпяваць ім самім.

■■■

Калі прачытаў, што Дыяген ніколі не насіў абутку, бо ногі менш далікатныя за твар і вочы, і ён ніколі ня бачыў, каб чалавек хадзіў з вачыма, абутымі, як ногі, то падумаў, што акуляры кінік не ўзьлюбіў бы яшчэ болей за чаравікі. Толькі, патрушчыць акуляры лепш за ўсё абцасам мужчынскага боту.

■■■

Дыяген заўважыў, што асноўнае спаборніцтва людзей зводзіцца да скіданьня адно аднаго пендалямі ў канаву. Мінула два тысячагодзьдзі, а Ніцшэ са сваім "падштурхні таго, хто падае" і Камю з "такой халоднай вадою", у якой топіцца самазабойца, так і стаяць разам з намі на беразе бруднай Дыягенавай канавы.

# КАБ НЯ БЫЦЬ БАЦЬКАМ

## *"Вальс на разьвітаньне"*

камуністычнай дзяржаўнай прапаганды да вас прамаўляе Маркс? Самім жаданьнем захаваць свой род чалавецтва на малой зямлі хутка задушыць сябе. Але прапаганда папуляцыі ідзе далей, і публіка пранятая да сьлёз, калі бачыць выяву маткі-карміцелькі ці грымасы немаўляці. Мне агідна. Калі я ўяўляю сабе, што разам зь мільёнамі астатніх меў шанец схіляцца з тупой усьмешкай над калыскаю, мяне прабірае мароз па сьпіне".

"Далей", — казаў Бэртлеф.

"Мушу, між тым, думаць і пра тое, у які сьвет дзіця пасылаю. Як возьме яго школа і будзе ўдзёўбваць яму ў галаву няпраўду, супраць якой сам цэлае жыцьцё марна змагаўся. Што, меў бы назіраць, як расьце з майго нашчадка дурань-канфарміст? Ці меў надзяліць яго сваімі поглядамі і назіраць за тым, як ён стане няшчасным, бо прыйдзе да тых самых канфліктаў, што і я?"

"Далей", — казаў Бэртлеф.

"І мушу таксама думаць пра сябе. У гэтай краіне дзеці церпяць за непаслушэнства бацькоў, а бацькі за непаслушэнства дзяцей. Колькі маладых людзей было выгнана са студэнтаў толькі за тое, што іх бацькі ўпалі ў няміласьць! А колькі бацькоў на ўсё жыцьцё сталі амёбамі, абы толькі не пашкодзіць сваім дзецям! Той, хто хоча захаваць свабоду тут, ня сьмее мець дзяцей," — сказаў Якуб і перапыніўся.

"Вам не хапае далейшых пяці прычынаў, каб было дзесяць", — сказаў Бэртлеф.

"Апошні довад настолькі вялікі, што варты пяці, — сказаў Якуб. — Мець дзіця азначае прызнаць абсалютную вартасьць чалавека. Маючы дзіця, мы быццам гаворым: я нарадзіўся, пазнаў жыцьцё і лічу яго настолькі добрым, што яно вартае быць паўтораным".

"А вы не знаходзіце жыцьцё добрым?" — запытаўся Бэртлеф.

Якуб пастараўся быць дакладным і гаварыць асьцярожна: "Я ведаю толькі, што з вышыні сваёй дасьведчанасьці ніколі б ня мог сказаць, што чалавек ёсьць дасканалае стварэньне і мусіць быць паўтораным".

"Гэта ад таго, што ты пазнаў жыцьцё з найгоршага боку, — сказаў доктар Шкрэта. — Ніколі ня ўмеў жыць. Заўсёды думаў, што твой абавязак быць, як той казаў, прысутным. Быць у цэнтры падзеяў. Але што тыя твае падзеі? Палітыка. А палітыка ў жыцьці гэта найменш істотнае і найменш каштоўнае. Палітыкі брудная пена на рацэ, а ўласна жыцьцё ракі адбываецца нашмат глыбей. Тысячы гадоў нараджаюць жанчыны. Гэтым мераецца сапраўдная гісторыя. І ім папросту ўсё роўна, якая ўлада кіруе. Я, калі нацягваю гумовую рукавіцу і дасьледую жаночыя органы, нашмат бліжэй да цэнтру жыцьця, чым ты, які змагаецца за шчасьце людзкое".

Замест таго, каб сябе бараніць, Якуб ківаў на папрокі свайго прыяцеля галавою, і доктар Шкрэта ўзбуджана працягваў: "Архімэд у сваіх кругах, Мікеляндджэла ў кавалку каменя, Пастэр у сваіх прабірках пераўтваралі людзкое жыцьцё, вяршылі сапраўдную гісторыю, калі палітыкі..." Шкрэта замаўчаў і махнуў пагардліва рукою.

"У той час як палітыкі што? Скажы мне, — запытаўся Якуб. — Калі навука й мастацтва ёсьць самастойнай арэнаю гісторыі, дык палітыка, наадварот, ёсьць закрытая лябараторыя, дзе ставяцца нечуваныя экспэрымэнты над чалавекам. Досьледныя чалавечыя экзэмпляры там кідаюцца ў люкі, а потым ізноў выцягваюцца на сцэну, прываблены аплядысмэнтамі і прыстрашаныя пятлёю, ахвяры даносаў і вымушаныя даносчыкі. Я працаваў у той лябараторыі лябарантам, але некалькі разоў і сам служыў ахвяраю вівісэкцыі. Ведаю, што я не стварыў ніякай каштоўнасьці (таксама як і ніхто з тых, хто працаваў са мною), але спазнаў больш, чым іншыя, што ёсьць чалавек".

"Разумею вас, — сказаў Бэртлеф, — і ведаю тую лябараторыю, хаця сам там ніколі ня быў лябарантам, заўсёды толькі мышшу. Вайна застала мяне ў Нямеччыне. Жонка, якую тады кахаў, мяне выдала гестапа. Прыйшлі да яе і паказалі фота, на якім я быў засьняты ў абдымках іншай жанчыны. Спрацавала. Вы ж ведаеце, што каханьне часта прыпадабняецца да нянавісьці. Я ішоў у турму з унутраным адчуваньнем, што туды мяне прывяло каханьне. Хіба гэта не дзівосна — апынуцца ў руках гестапа і ведаць, што гэта — уласная прывілея чалавека, якога так моцна любяць?"

Якуб адказваў: "Калі што мяне адварочвала ад чалавека, дык у большыні тое, як яго жорсткасьць, нізкасьць і абмежаванасьць умеюць хавацца пад лірычнай маскай. Паслала вас на сьмерць, а сама перажывала гэта, як пачуцьцёвую дзею параненага каханьня. А вы ішлі пад шыбеніцу з волі абмежаванай бабы ды яшчэ ўяўлялі, што граеце ролю ў трагедыі, якую для вас напісаў Шэксьпір".

"Пасьля вайны яна прыйшла па мяне з плачам, — працягваў Бэртлеф, як бы ня чуючы Якубавых заўвагаў. — Я сказаў ёй: ня бойся нічога, Бэртлеф ніколі ня помсьціць".

"Ведаеце, — сказаў Якуб, — я часта думаю пра цара Ірада. Памятаю тую гісторыю. Калі ён даведаўся, што нарадзіўся наступны жыдоўскі цар, то, каб захаваць сабе трон, загадаў забіць усіх немаўлят. Я ўяўляю сабе Ірада інакш, хоць і ведаю, што гэта толькі гульня ўяўленьня. Як мне здаецца, цар Ірад быў адукаваным, мудрым і вельмі высакародным царом, які доўга працаваў у лябараторыі палітыкі і спасьцігнуў, што ёсьць жыцьцё, а што ёсьць чалавек. Ірад зразумеў, што чалавек ня мусіў бы быць створаны. Урэшце рэшт, сумненьні яго не былі такімі недарэчнымі й грэшнымі. Калі не памыляюся, і Госпад сумняваўся ў чалавеку і яго займала думка перакрэсьліць гэтае дзела".

"Так, — прысьведчыў Бэртлеф, — пра тое сказана ў шостым разьдзеле Кнігі Быцьця; выцераблю зь зямлі чалавека, якога я стварыў, бо шкадую, што яго ўчыніў".

"А, можа, гэта была толькі хвіля слабасьці Госпада, бо нарэшце ж дазволіў ён уратавацца Ною на сваім караблі і гісторыя чалавецтва пачалася зноў. Ці можам мы быць упэўненыя, што Бог пра тую хвіліну сваёй слабасьці ніколі не шкадаваў? Хаця — шкадаваў ці не шкадаваў, што гэта мяняе? Бог сябе ня можа рабіць сьмешным, увесь час мяняючы свае рашэньні. Але хто ж тады быў ён сам, калі паслаў сваю думку ў галаву Іраду? Ці можам мы гэта разасобніць?"

Бэртлеф пацiснуў плячыма і прамаўчаў.

"Ірад быў цар. Ён не адказваў за аднаго сябе. Ня мог казаць, як я: хай астатнія робяць што хочуць, а я сябе множыць ня буду. Ірад быў цар і ведаў, што мусіць вырашаць ня толькі за сябе, але й за іншых, і вырашыў за людзтва, што чалавек ня будзе болей паўтарацца. Так пачалося забойства немаўлят. Не было яно з такіх нізкіх помыслаў, як прыпісвае легенда. Ірадам кiравала тое высакароднае жаданьне вызваліць нарэшце сьвет з учэпкаў чалавецтва".

"Ваша тлумачэньне Ірада мне цалкам падабаецца, — сказаў Бэртлеф. — Падабаецца настолькі, што ад сёньняшняга дня я буду ўспрымаць забойства немаўлят як і вы. Але не забывайце, акурат у той час, калі Ірад вырашыў, што чалавецтва перастане існаваць, у Бэтлееме нарадзіўся хлопчык, які пазьбегнуў нажа. Той хлопчык потым вырас і сказаў людзям, што хопіць аднаго адзінага, каб на сьвеце жыць: узаемна любіць. Магчыма, што Ірад быў больш адукаваны і меў большы досьвед. Ісус быў маладзёнам і так шмат пра жыцьцё ня ведаў. Магчыма, што ўсё ягонае вучэньне і можна патлумачыць яго маладосьцю і недасьведчанасьцю. Яго наіўнасьцю, калі хочаце. А ўсё ж ён меў праўду".

"Праўду? Хто даказаў тую праўду?" — узбуджана запытаўся Якуб.

"Ніхто, — сказаў Бэртлеф. — Ніхто яе не даказаў і не дакажа. Ісус настолькі кахаў свайго Айца, што ня мог дапусьціць, быццам справа яго няслушная. Вяла к таму любоў, а ніяк ня розум. І таму спрэчку паміж ім і Ірадам можа вырашыць толькі нашае сэрца. Варта за гэта быць чалавекам ці не? Я ня маю ніякага доказу, але разам з Ісусам веру, што так". Потым ён паказаў з усьмешкай на доктара Шкрэту: "Дзеля гэтага і паслаў сваю жонку, каб лячылася тут у пана доктара, які ў маіх вачах ёсьць адным са сьвятых вучняў Ісусавых, бо ўмее рабіць цуды і абуджаць да жыцьця сьпячыя жаночыя ўлоньні. Дык вып'ем за яго здароўе!"

ПРАДМОВА І ПЕРАКЛАД З ЧЭСКАЙ АЛЕНЫ ЦІХАНОВІЧ.

СТО ТВОРАЎ МАСТАЦТВА XX СТАГОДЗЬДЗЯ



# Язэп Драздовіч. Пагоня Ярылы

Сымбалізм ўкараніўся ў мастацтва Эўропы напрыканцы XIX ст., дзякуючы найперш паэтам: Вэрлену, Рэмбо, Малярмэ. Словы, ператвораныя ў мэтафары, стварылі новую мову, мову сымбаляў, мову па-за моваю канкрэтнага сьвету.

Знаходка паэтаў была падхопленая мастакамі. Найперш у Францыі, дзе працавалі такія майстры, як Гюстаў Маро, Пюві дэ Шаван і Адылён Рэдон. Сюжэты іх палотнаў зводзілі гледача ў містычны сьвет аўтарскіх мрояў, таямнічых і цьмяных алегорыяў. Аднак перадусім гэта было цікавае мастацтва, якое хутка захапіла эўрапейцаў, летуценьнікаў і фантазёраў. Апроч французаў, сярод сымбалістаў сусьветнае славы дасягнулі швэйцарац Бёклін і ангелец Бёрн-Джонс. На пачатку XX ст. спадчына сымбалістаў аказалася тымі дражджамі, на якіх пачаў брадзіць нацыянал-рамантызм па ўсёй Усходняй і Сярэдняй Эўропе. Мастацтва Фінляндыі, Чэхіі, Польшчы, Літвы было наскрозь прапітанае сымбалізмам, больш-менш яснымі эратычнымі і нацыяналістычнымі алегорыямі. Паўставаньне Беларусі не прамінула гэтае фазы нацыянальнага самабудаваньня, ўвасобіўшы беларускі сымбалізм у творах і жыцьці Язэпа Драздовіча...

... Засьценак Пунькі толькі два гады праслужыў Драздовічу бацькоўскім домам, па сьмерці бацькі сям'я мусіла прадаць гэты кут і выправіцца ў доўгі шлях ад адной арэнды да другой. Іскра, якую высякала гэтая частка беларускага грамадзтва — безьзямельныя вандроўныя шляхціцы — запаліла паходню беларушчыны. Адныя сем'і паўтаралі шлях Драздовічаў, як сям'я Купалы, іншыя наогул падаваліся на казённую службу аж у Расею, як сям'я Багдановічаў, але менавіта ў гэтых пакручастых шляхах дзеці агортвалі розумам бясконцасьць свае Бацькаўшчыны... Так гартавалася ўсьведамленьне СВАЙГО краю. Стадолішча, Кміты, Александрыя, Галічына, Мёры, паўтары дзясяткі прыстанкаў — яскравы й тыповы шлях прайшлі Драздовічы, маці, пяць сыноў і дзьве дачкі. Малодшы сын, Язэп, так і застаўся на ўсё жыцьцё беспрытульным, выправіўшыся з Александрыі да Вільні...

... Падчас вучобы ў Вільні, у школе маляваньня Трутнёва, са сьценаў якое выйшлі акадэмікі Альфрэд Ромэр і Марк Антакольскі, Язэп Драздовіч спрычыніўся да беларускае справы. Не спадзеючыся на падтрымку сям'і, ён увесь час шукаў сабе спосабу падзарабіць, спачатку ў майстэрні жывапісца Ябланоўскага, пасьля Пяркоўскага, маляваў карыкатуры для часопіса "Wilnianka". Але ўвосені 1908 году ён заходзіць у "Нашу Ніву"... Занатоўка Драздовіча пра жыцьцё земляробаў Дзісеншчыны і Полаччыны была зьмешчаная ў газэце 20 лістапада 1908 году пад псэўданімам Язэп Разора...

... У 1909 годзе ён дэбютуе ў беларускім друку як мастак, аздабляючы "Першы беларускі каляндар "Нашай Нівы" пад рэдакцыяй Сяргея Палуяна. Ужо ў гэтай першай аўтарскай працы вызначыліся рысы мастацкага стылю Драздовіча — сымбаліста і рамантыка. Зь цемры, дзе стаіць сьцяною яловы лес, прыхінуўшы вёску, насустрач сьвятлу сьпяшаецца араты, на пярэднім пляне другі аповед: пры карэньні старога дрэва, у папарацевым сувоі сьпіць ваярскі рыштунак — шалом, латы, а побач маладзенькі зялёны дубок, які порстка імкнецца ў жыцьцё. Так, ужо ў гэтым графічным творы знайшла сваё ўвасабленьне адна з драздовіцкіх тэмаў: старажытная і маладая Беларусь. Наколькі сюжэт малюнка на вокладцы аказаўся дапасоўным для маладога беларускага нацыяналізму, сьведчыць факт узнаўленьня малюнка Драздовіча на вокладцы календара за 1928 год...

... З вызначальных падзеяў, якія адбыліся ў першы віленскі пэрыяд жыцьця Драздовіча, зазначым Першую літоўскую выставу 1907 году. Бадай, менавіта тут навучэнец другога курсу школы Трутнёва пабачыў упершыню творы Чурлёніса. На выставу адгукнулася і "Наша Ніва". Першым, хто згадаў пра роднаснасьць некаторых твораў Драздовіча і Чурлёніса, быў Зьмітрок Бядуля ("Штрыхі аб беларускай культуры", "Беларускае жыцьцё", 28 студзеня 1920 году): "Шмат ёсьць у Драздовіча гэткіх багатых фантазіяў, напісаных у духу Чурлёніса, а зь беларускай інтэлігенцыі мала хто аб ім ведае". Напэўна, Бядуля меў на ўвазе тыя алегарычныя творы Драздовіча, якія былі створаныя ім падчас службы ў расейскім войску: "Трызна мінуўшчыны", "Брама будучыні", "Злыя чары","Дух зямлі", "Хаос смутку". Як пісаў сам Драздовіч, гэта пяць палотнаў, што "прарочаць будучыню"... Гаварыць пра непасрэдны ўплыў Чурлёніса, аднак, не выпадае і тут. Тое, што абодва гэтыя мастакі сымбалісты, сьведчыць толькі пра тэндэнцыю ў мастацтве тых гадоў, бо верагоднае знаёмства Драздовіча і з творамі паляка Мальчэўскага, альбо расейца Рэрыха. Урэшце не абмінуў сымбалізму і раньні Малевіч, чые творы таго часу можна паблытаць з творамі Чурлёнісам... Узорам мастакоўскае самабытнасьці й сталасьці Драздовіча тых гадоў стала вокладка кнігі "Курганная кветка" Канстанцыі Буйлы, якую мастак стварыў на замову Янкі Купалы. Жаночы вобраз у фантастычным уборы — адзін з самых таямнічых і рафінаваных у "чыстай красе" вобразаў у беларускім мастацтве. Недасяжнасьць і недатыкальнасць вобразу тут эфэмэрныя й чыстыя, як папараць-кветка, якую йдзі пашукай...

1921 год... За плячыма Драздовіча засталіся сем гадоў вайсковае службы, даўжэзны сьпіс адрасоў і мясьцінаў... Адным з плёнаў таго часу было й тое, што малады мастак зьведаў і далёкую Ўсходнюю Беларусь — Віцебск, Воршу, Полацак, Смаленск, Гомель... Ён бачыў рэвалюцыю ў Расеі, адчайныя захады ўзьняць дом Беларускае дзяржавы, спрабаваў прыстасавацца ў савецкім Менску. Зноў вайна... Рыскі мір. Гэты год прайшоў для Драздовіча пад знакам суцэльных клопатаў і згрызотаў душы. Ледзь пасьпеўшы прытуліцца да матчынага пляча, мастак наладзіў сам беларускую школку. Не пасьпеў азірнуцца — школу замкнулі польскія ўлады. Толькі ачуняў ад аднаго ўдару — арышт на тры дні, за агітацыю падчас аднадзённага перапісу насельніцтва ўвесну 1921 году. "Бяда, — піша ён у Беларускі музэй напрыканцы 1921 году, — што я бяспашпартны: не магу адведаць Вільню, бо састаю перад судом за камісарства ў аднадзённую перапісь".

16 сьнежня 1921 году Язэп Драздовіч піша ў сваім лісьце зь Лявонаўкі ў Беларускі музэй імя І.Луцкевіча ў Вільню: "Не зважаючы на надастатак матэрыялаў, я ў працягу гэтага лета змог вымаляваць адзін абраз сымбалічнае пагоні "Пагоня — Яр" (Ярылы). Можа, ня варта занадта хваліцца, але я ўжо заўважыў, што гэты мой абраз рабіў на адведаўшых мяне тут (адкінутага вялікім і дужым сьветам) нашых інтэлігентаў-беларусаў досыць моцнае ўражаньне".

Сымбалі, простыя й ясна чытаныя для беларусаў, выяўленыя праз міталягічныя алегорыі. Ярыла — паганскі бог Сонца, валадар Сусьвету, пераўвасобіўся ў ваяра Пагоні, толькі ягоны меч пераўтварыўся ў вогненны сполах (дарэчы, нярэдкая такая трактоўка старажытнага гербу і ў працах Чурлёніса). Калясальная пачвара — скрыдлаты цмок, які ўпіўся ў жывую Зямлю — сымбаль абсалютнага зла, зразумелы любому. Далёка ў небе, нібы палярнае зьзяньне, уздымаецца запавеса з чароўным горадам, горадам нябесным, які бароніць белая Пагоня. Бароніць плён рук чалавечых і плён ўзьнёслых думаў...

Пярэдні плян утварае асобную кампазыцыйную частку. Пластычна яна вырашана на супрацьпастаўленьні прастакутных геамэтрычных лініяў (крыжы, камяні) і плаўных скругленых формаў (чэрап зь вянцом, каштоўнае начыньне, рыхлая субстанцыя зямлі-драпіроўкі). Уся гэтая частка кампазыцыі дадаткова жорстка акрэсьленая і супрацьпастаўленая кірунку другога пляну, ствараючы максымальнае дынамічнае напружаньне, змушаючы рухацца ўсю прастору палатна. Удары лякальных цёмных і сьветлых плямаў драматызуць настрой, даводзячы да афэкту ўспрыманьне алегарычнага сюжэту. Нібыта ад выбуху ўзараная зямля з хаосу камянёў, крыжоў, халодных скарбаў, вызваляе Дух. Цяжкі надмагільны крыж з лацінскім надпісам — Vita, Albarusia, Libertas, зрынуты. Жыцьцё, Беларусь, Свабода паўстаюць зь небыцьця, разьдзіраючы касьмічны дзірван...

Дыдактычны канцэптуалізм Драздовіча тут ня мэта, а сродак падтрыманьня ідэі, дакладней — ключ, пры дапамозе якога мы прачытваем усю складаную пабудову карціны. Аналягічна вырашаў падобную задачу і Франсіска Гоя, суправаджаючы свае містэрыяльныя афорты тэкстамі, уведзенымі ў кампазыцыйнае поле. "Пагоня Ярылы" блізкая паводле сымбалізму да творчасьці гішпанскага мастака. Прыгадаем дыптых Гоі "Свабода памерла. Свабода ўваскрэсла". На першым афорце у бяскрайняй чорнай прасторы пры магіле зьбіраюцца інфэрнальныя цені чалавекападобных пачвараў, яны цешацца са скону Свабоды і гатовыя захлопнуць яе труну вечным камянём. На другім афорце Свабода прачынаецца, наводзячы жах на чорныя постаці, сыпле праменьні ў Космас. І сама алегорыя і мэтады, якія скарыстаў Драздовіч, блізкія да госўскіх. Мэтафары Цемры і Сьвятла, нетраў Зямлі і Космаса, супрацьпастаўляюцца найперш не канкрэтнымі прадметнымі вобразамі, а праз канфлікт жорсткіх і мяккіх лініяў, чорных і белых плямаў.

Сэмантыка вобразаў Драздовіча ўнівэрсальная. Двубой Ярылы і цмока выклікае ў аданачасьсе асацыяцыі з хрысьціянскімі вобразамі Сьятога Юрыя і Сьвятога Ільлі. Выява чэрапа, неадназначная паводле сваёй сымболікі ўвогуле, як згадка пра марнасьць зямнога існаваньня альбо перамогу над сьмерцю, на палатне Драздовіча, у атачэньні дэталяў-падказак, чытаецца як сьвятая рэліквія, парэшткі магутнага валадара, чый дух уваскрасае, абуджаецца ад перуна Ярылы. Чэрап, чыста па-сымбалісцку, — пазытыўны сымбаль. Надпіс на крыжы зроблены на лаціне, тым самым пазначаючы эўрапейскі ўнівэрсалізм беларушчыны ў бачаньні Драздовіча. Сам Ярыла тоесны Пагоні, нацыянальнаму сымбалю, дзяржаўніцкаму пачатку Беларусі. У гэтым сэнсе "Пагоню" Драздовіча можна дараўнаць толькі да "Пагоні" Багдановіча. Па сіле мастацкага ўвасабленьня нацыянальнае сьвятыні гэтыя два творы — Багдановіча ў паэзіі і Драздовіча ў жывапісе — засталіся неперайздзенымі. Але яны сфармавалі цалкам новае, уласна беларускае прачытаньне старажытнага гербу, пры пасярэдніцтве паэта і мастака ён быў прыўлашчаны беларускай традыцыяй найноўшага часу.

Карціна, напісаная ў запале ад падзеяў ракавога году, пакінула глыбокі сьлед у памяці наступных пакаленьняў беларусаў. Яе шанавалі менавіта як абраз (як называў яе сам Драздовіч). У розных краінах ёсьць творы мастацтва, якія шануюцца як сымбалі нацыі, побач з гербам ці сьцягам: "Свабода на барыкадах" Дэлякруа, "Грунвальд" Матэйкі, "Мэксыка" Сікейраса. Для беларусаў у гэтым шэрагу стаіць "Пагоня Ярылы" Язэпа Драздовіча.

**Сяргей Харэўскі**



**Язэп Драздовіч** (1888, засьценак Пунькі, Глыбоцкі пав. — 1954) жывапісец, графік, скульптар, пэдагог, этнограф, археоляг. Вучыўся ў Віленскай малявальнай школе (1906-10). У 1920 слухач курсаў Менскага настаўніцкага інстытуту. Заснавальнік мастацкай студыі пры Віленскай беларускай гімназіі.

"Наша Ніва" незалежная газэта

НАША НІВА

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

| | |
|---|---|
| заснавальнік | Павал Жук |
| рэдактар | Сяргей Дубавец |
| выдавец | БГФ "Наша Ніва" |
| адказны сакратар | Алег Дэярновіч |
| мастацкі рэдактар | Сяргей Харэўскі |
| аддзел інфармацыі | Андрэй Лапцёнак |
| | Віктар Корзун |
| дызайн і вёрстка | Лявон Раманчык |
| набор | Тацяна Чуйвід |
| стыль і карэктура | Паўлюк Канавальчык |
| пры ўдзеле | Сяргея Шупы |
| прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі | Зьміцер Бартосік (тэл. 56-94-36) |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Тэл./факс 213-43-52
E-mail: edit@niva.minsk.by

© НАША НІВА. Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. Наклад 2400. 12 палос фармат А2 нумар падпісаны ў друк $19^{30}$, 24/8/1997. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 4902. Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі перыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты "Известия", д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12